ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ

АНГЛА-БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА

# Кастусь Каліноўскі
# і нацыятворчы працэс у Беларусі

Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі
Лондан, 27–29 сакавіка 2014 г.

# Kastuś Kalinoŭski
# and the Nation-building Process in Belarus

Proceedings of the academic conference
London, 27–29 March 2014

Мінск
Выдавец Зміцер Колас
2015

УДК [94(476)+929Каліноўскі](082)
ББК 63.3(4Беи)я43
К28

*Выданне падрыхтаванае пры фінансавай падтрымцы*
*Згуртаваньня беларусаў у Вялікай Брытаніі*

Каардынатар праекту
доктар бібліcтыкі Караліна Мацкевіч

Рэцэнзенты:
доктар гістарычных навук Захар Шыбека,
доктар філалагічных навук Мікола Хаўстовіч

Навуковы рэдактар:
доктар гістарычных навук Алесь Смалянчук

Рэдактар ангельскага перакладу:
Джым Дынглі

К28 **Кастусь** Каліноўскі і нацыятворчы працэс у Беларусі : матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі (Лондан, 27–29 сакавіка 2014 г.) / Пад рэдакцыяй Алеся Смаленчука і Джыма Дынглі. – Мінск : Зміцер Колас, 2015. – 180 с.
ISBN 978-985-6992-67-7.

Матэрыялы зборніка знаёмяць чытачоў з актуальнай праблематыкай гістарычных даследаванняў постаці Кастуся Каліноўскага і падзеяў Паўстання 1863–1864 гг. на тэрыторыі Беларусі, а таксама з аналізам ролі міфа Каліноўскага і вобразу Паўстання для беларускага нацыятворчага працэсу.

Зборнік адрасаваны ўсім, каго цікавіць гісторыя Беларусі і працэс фармавання беларускай нацыі.

**ББК 63.3(4Беи)я43**
**УДК [94(476)+929Каліноўскі](082)**

**ISBN 978-985-6992-67-7**

# ПРАДМОВА

Юбілеі важных гістарычных падзеяў часта становяцца нагодай да пераасэнсавання мінуўшчыны. 150-годдзе вызвольнага Паўстання 1863–1864 гг. яшчэ раз засведчыла «гарачы» характар памяці грамадства Беларусі як адносна ваенна-палітычных абставінаў змагання, так і асобы Вікенція Канстанціна (Кастуся) Каліноўскага (1836–1864). Менавіта апошні апынуўся ў цэнтры дыскусій, якія, аднак, не абмежаваліся падзеямі XIX ст., а закранулі таксама істотныя праблемы беларускай нацыятворчасці.

Сучасныя прыхільнікі дактрыны «заходнерусізму», якія паўтараюць пастулаты сваіх папярэднікаў з пачатку XX ст. і адмаўляюць права беларускай нацыі на дзяржаўны суверэнітэт, у падзеях Паўстання і ў асобе ягонага кіраўніка ў Беларусі бачаць выключна «польскую інтрыгу» супраць Расейскай імперыі. А вось прыхільнікі нацыянальнага дыскурсу звязваюць з Паўстаннем вытокі сучаснай беларускай дзяржаўнасці, а ў поглядах і дзейнасці Кастуся Каліноўскага заўважаюць пачаткі фармавання беларускай нацыянальнай ідэі.

Відавочная палітычная ці ідэалагічная ангажаванасць многіх удзельнікаў гэтай дыскусіі, якіх на самой справе амаль не цікавіць постаць рэальнага К. Каліноўскага, што загінуў на «мураўёўскай» шыбеніцы 10 сакавіка 1864 г. Для кагосьці ён па-ранейшаму застаецца «ворагам», якога варта павесіць яшчэ раз. А для іншых стаўся «бронзавым манументам», да якога нават нельга дакранацца.

Між тым трэба прызнаць, што існуе пэўная «загадка» Кастуся Каліноўскага, якая датычыць галоўных матываў ягонай палітычнай дзейнасці. Рэч у тым, што ў вядомых нам ягоных тэкстах беларушчына адкрыта не прагавораная і тэарэтычна не асэнсаваная. Пра яе мы ведаем пераважна дзякуючы матэрыялам Следчай

камісіі, успамінам іншых кіраўнікоў Паўстання, а таксама высновам, якія рабілі першыя даследчыкі гэтай тэмы, у т. л. з лагеру ягоных ворагаў.

Кастусь Каліноўскі быў выдатным канспіратарам. Пры ягоным жыцці гэта стварала вялікія праблемы для расейскай паліцыі і самога віленскага генерал-губернатара. Зараз гэтая «канспірацыя» сталася праблемай для даследчыкаў.

Відавочана, што загадку Каліноўскага немагчыма разгадаць без грунтоўнага навуковага аналізу ўсяго комплексу гістарычных крыніцаў, звязаных з жыццём не толькі «дыктатара Літвы», але таксама ўраджэнца Гарадзеншчыны і небагатага шляхціча з дыпломам выпускніка факультэта права Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэту. Адначасна даследчык павінен «паглыбіцца» ў эпоху, у якую Каліноўскаму давялося жыць і загінуць. Пры гэтым трэба арыентавацца ў тым комплексе сацыяльных і нацыянальных ідэяў, якія хвалявалі тагачасную інтэлектуальную эліту прынамсі гістарычнай Літвы, Польшчы і Расеі. Не менш важна таксама зазірнуць у свядомасць ніжэйшых сацыяльных колаў грамадства, якія былі галоўнай сілай паўстання, прынамсі зразумець іх праблемы і спадзяванні.

Асобнай важнай праблемай з’яўляецца аналіз вобразу Кастуся Каліноўскага ў памяці сучаснага беларускага грамадства, яго значэнне для нацыятворчага працэсу ў XX ст. Сёння Беларусь перажывае перыяд сапраўдных «баёў» за гісторыю, вынік якіх мае вялікае значэнне для нацыянальнай ідэнтычнасці і культуры. Гісторыя вобразу К. Каліноўскага як «нацыянальнага героя № 1» таксама дазваляе зразумець пэўныя механізмы фармавання нацыянальнага міфу і ацаніць ролю літаратараў ды іншых дзеячаў культуры ў гэтым працэсе. Але падобнае даследаванне немагчымае без удзелу культуролагаў, спецыялістаў па гісторыі літаратуры ды інш. Каб быць эфектыўным, яно павінна грунтавацца на міждысцыплінарным падмурку.

Менавіта гэтыя аспекты апынуліся ў цэнтры ўвагі ўдзельнікаў міжнароднай навуковай канферэнцыі «Кастусь Каліноўскі і нацы-

ятворчы працэс у Беларусі», якая адбылася 27–29 сакавіка 2014 г. у Лондане.

Дадзены зборнік складаецца з дапрацаваных і пашыраных рэфератаў, якія прагучалі на канферэнцыі. Заўважу, што аўтары тэкстаў карысталіся рознымі варыянтамі беларускага правапісу. Падчас рэдагавання было прынята рашэнне адмовіцца ад уніфікацыі тэкстаў пад новы моўны стандарт і захаваць іх аўтарскі характар.

Аляксандр Смалянчук і Аляксандр Радзюк звярнулі ўвагу на актуальныя праблемы даследавання як постаці Кастуся Каліноўскага, так і самога Паўстання 1863–1864 гг. Трэба прызнаць, што з адыходам Генадзя Кісялёва беларускае каліноўсказнаўства страціла свайго найбольш выбітнага даследчыка. Стала відавочнай неабходнасць пэўнай «інвентарызацыі» дасягнутага і высвятленне новых даследчых накірункаў. Прадметам даследавання Дароты Міхалюк (Торунь) стала польскамоўная публіцыстыка К. Каліноўскага, якая з'яўляецца надзвычай важнай старонкай дзейнасці кіраўніка паўстання ў Беларусі і Літве. Уладзіслаў Іваноў (Вільня) засяродзіўся на стасунку старавераў да Паўстання. Ягоны артыкул ставіць пад сумніў распаўсюджаную ацэнку старавераў як ворагаў паўстання і сведчыць пра пэўную беларусізацыю гэтай сацыяльнай групы. Язэп і Каміля Янушкевічы (Менск) прадставілі багацце захаваных фотапартрэтаў К. Каліноўскага ды іншых удзельнікаў Паўстання ў айчынным і еўрапейскім фоталетапісе, што значна ўзбагачае беларускую візуальную гісторыю Паўстання.

Ролі беларускай паэзіі ў фармаванні нацыястваральнага міфа Каліноўскага прысвечаныя даследаванні Ірыны Дубянецкай (Менск) і Арнольда Макміліна (Лондан). Сяргей Кавалёў (Люблін) ахарактарызаваў вобраз «дыктатара Літвы» ў беларускім тэатральным мастацтве. Аляксей Ластоўскі (Менск) на падставе сацыялагічных даследаванняў калектыўнай памяці жыхароў Беларусі сцвердзіў пазітыўную дынаміку ў трактоўцы постаці Каліноўскага і выказаў упэўненасць, што сучасны «неазаходнерусізм» пры ўсіх намаганнях яе не зменіць. Андрусь Унучак (Менск) прааналізаваў мерапрыемствы 120-гадовага юбілею К. Каліноў-

скага, які адзначаўся ў 1958 г. у перыяд г. зв. «адлігі». Ён заўважыў, што гэтым святкаваннем частка беларускай гуманітарнай інтэлігенцыі імкнулася ўмацаваць беларускую нацыянальную свядомасць, а партыйная наменклатура спрабавала выкарыстаць імя Каліноўскага дзеля ўмацавання легітымнасці камуністычнай улады і пашырэння савецкай тоеснасці беларусаў. Анастасія Весялуха (Менск) засяродзілася на характарыстыцы вобразу К. Каліноўскага ў сучаснай беларускай гістарыяграфіі і культурнай традыцыі, а Аляксандр Краўцэвіч (Гародня) прапанаваў уласныя разважанні адносна пантэону беларускіх герояў і паспрабаваў вызначыць у ім месца К. Каліноўскага.

Неабходна адзначыць, што правядзенне канферэнцыі, як і выданне гэтага зборніка сталі магчымымі дзякуючы падтрымцы *Згуртаваньня беларусаў у Вялікай Брытаніі* і арганізацыйным намаганням сяброў *Англа-беларускага таварыства*. Хачу выказаць спадзяванне, што зробленае стане пачаткам пэўнай традыцыі, а Лондан з цягам часу зойме месца аднаго з цэнтраў беларускай гуманістыкі.

*Алесь Смалянчук*

# ПРЫВІТАЛЬНАЕ СЛОВА СТАРШЫНІ ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ

Падтрымка навуковай канфэрэнцыі ў Лёндане, прысьвечанай ролі К. Каліноўскага ў нацыятворчым працэсе Беларусі, сталася адной з найважнейшых справаў Згуртаваньня беларусаў у Вялікай Брытаніі апошняга часу. У ёй ёсьць таксама штосьці глыбока сугучнае ідэёвым падмуркам нашай арганізацыі. ЗБВБ – арганізацыя грамадзкая, непалітычная, аднак ад сваіх пачаткаў у 1946 г. яднае беларусаў на грунце ідэялаў 25 сакавіка 1918 г. Гэтая канфэрэнцыя стварыла добрую нагоду таксама для ярчэйшага ўсьведамленьня гістарычнай сувязі паміж вызвольным рухам пад кіраўніцтвам Каліноўскага 1863–64 гг. – і абвяшчэньнем незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1918 г.

Перадумоваю такой сувязі можна назваць гістарычную блізкасьць, ды той факт, што рух 1863–1864 гг. быў апошнім такім папярэднім прэцэдэнтам у краіне. Эпоха 1863 г. была часам маладосьці бацькоў (або старэйшых братоў бацькоў) таго пакаленьня, якое стварала «Нашу Ніву», беларускія суполкі і ўстановы – ды ўрэшце БНР.

Найважнейшым сьведчаньнем такой сувязі ёсьць уласна тое, што яна існавала ў разуменьні саміх непасрэдных удзельнікаў і сьведкаў беларускай незалежнасьці 1918 г., выдатную ілюстрацыю чаго знаходзім у творы кс. Адама Станкевіча 1933 г. «Кастусь Каліноўскі, «Мужыцкая праўда» і ідэя незалежнасьці Беларусі»:

«*Тое ўсё, чаго сваей працай агулам, а прадусім «Мужыцкай праўдай», а такжа і сьмерцяй сваей даканаў К. Каліноўскі для беларускага народу семдзесят гадоў таму, змагаючыся за волю і долю гэтага народу, – акт абвешчаньня незалежнасьці Беларусі 25 сакавіка 1918 г. падабраў, згарнуў у цэласьць, прыкрасіў, дапоўніў і выразіў як яўную –*

*ужо сучасную – волю беларускага народу да вольнага і самастойнага жыцьця. Словам, зярнё, якое на беларускай грамадзка-палітычнай ніве пасеяў Каліноўскі, акт 25 сакавіка 1918 г. зжаў, карыстаючыся пладом гэнага зярняці для сяўбы далейшай»*.

Сапраўды, ідэёвую аналягічнасьць, – з папраўкаю на розьніцу гістарычнай эпохі, – і нават сувязь ідэёвае «гэнэалёгіі» можна вылучыць у некалькіх аспэктах. У палітычным – назіраем падабенства сацыяльнай ды нацыянальнай дваістасьці ў поглядах. На сьветапогляд Каліноўскага ў студэнцкія гады мелі ўплыў расейскія прыхільнікі аграрна-сацыялістычных ідэяў – «народнікі»; тымчасам у 1918 г. заснавальнікамі БНР сталіся пераважна беларускія аграрныя сацыялісты – таксама пераемнікі лева-«народніцкай» ідэёвай традыцыі пазьнейшай эпохі на беларускай нацыянальнай глебе. У нацыянальна-палітычным аспэкце, у Каліноўскага ўжо назіраем прызнаньне моўна-этнічных крытэраў падзелу ў былым ВКЛ. На грунце такога палітычнага мысьленьня ўрэшце паўстануць асобныя этнічныя дзяржавы Беларусі і Літвы ў 1917–1918 гг.

Сярод сымболікі БНР была «Пагоня», якую перад тым апошняй у Беларусі ўжывала паўстанцкая ўлада Каліноўскага. Можна сказаць, што ў Каліноўскім і яго аднадумцах маем своеасаблівы ланцужок палітычна-гістарычнай сувязі пазьнейшай беларускай нацыянальна-палітычнай традыцыі з колішнім ВКЛ. А заснавальнікі БНР належалі да маладзейшай галіны традыцыі таго самага кораню, што і Каліноўскі. Таму для кс. Адама Станкевіча ў 1933 г. зусім натуральна выглядала, што *«ў акце 25 сакавіка 1918 г. аказаўся нам зноў Каліноўскі, ягоныя ідэалы ўваскрэсьлі ўва ўсей сваей красе. Уваскрэсьлі яны з большай ужо сілай, у шырэйшых ужо рамках»*.

Калі матэрыялы ў гэтай кнізе, плён працы многіх выдатных навукоўцаў-сучасьнікаў, паспрыяюць шаноўнаму чытачу ў лепшым усьведамленьні даўгой пераемнасьці ў беларускай нацыянальнай гісторыі – мы будзем уважаць, што зрабілі варты ўнёсак ва ўшанаваньне 150-х угодкаў гістарычнага подзьвігу К. Каліноўскага.

*Мікалай Пачкаеў*

## GREETING FROM THE CHAIR OF THE ANGLO-BELARUSIAN SOCIETY

The Anglo-Belarusian Society (ABS) brings together Belarusians and others in the UK with an interest in the people, history and culture of Belarus, helping to keep that interest alive and grow in modern times. As we look back after 150 years at Kalinoŭski's place in Belarusian history we see much which casts fresh light on events today and rewards study.

This conference, organised jointly with the Association of Belarusians in Great Britain (ZBVB), was intended to recognise Kalinoŭski's role and to widen appreciation of it among the British public. It was the second conference of its kind to have been organised by the ABS in recent years and an example of our desire to raise the profile of Belarus in the UK, *inter alia* by drawing attention to historical figures and anniversaries of note.

Our thanks in the preparation of this conference go in particular to the co-organisers, ZBVB, for their cooperation and financial support and to the Ambassador of Lithuania, Her Excellency Asta Skaisgirytė-Liauškienė, for her financial support and opening address. We are also grateful to Karalina Matskevich and Yaraslau Kryvoi (moderators and organisers), Alena Edwards (interpreter) and all those who submitted papers, provided translations, chaired the sessions and supported the participants. We are particularly grateful to the UCL and the ZBVB for the venues and of course to the speakers and participants. Finally we thank Prof Aliaksandr Smaliančuk and Jim Dingley for editing this volume and the ZBVB for their financial support in publishing it.

As for the future, the ABS looks forward to further such conferences in cooperation with academia in Britain and Belarus and to other events celebrating the history and culture of Belarus of which we are so fond. If you would like to be involved, or would like to know more about the ABS, go to our website at www.absociety.org.uk.

*Brian Maurice Bennett*
18 November 2014

# КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ І БЕЛАРУСКАЯ ІДЭЯ: ПРАБЛЕМЫ ДАСЛЕДАВАННЯ

*Аляксандр Смалянчук,*
*докт. гіст. навук*
*(Гародня-Варшава)*

Беларускую ідэю звычайна разумеюць як ідэю суверэннасці беларускага народу, самакаштоўнасці яго культуры і менталітэту. Вобраз Каліноўскага як носьбіта гэтай ідэі канчаткова аформіўся ў беларускай гістарыяграфіі на пачатку 90-х гг. XX ст. Найбольш гэтаму спрыялі даследаванні Генадзя Кісялёва, Вячаслава Шалькевіча, Міхася Біча і Аляксея Каўкі.

Аляксей Каўка быў пэўны, што менавіта Каліноўскі першым сфармуляваў уласна беларускія («літоўскія») патрабаванні ў агульнапольскім нацыянальным руху, уключна з ідэяй самастойнасці Літвы-Беларусі ў дэмакратычным саюзе з Польшчай[1]. Міхась Біч у 1993 г. сцвярджаў, што дзякуючы Каліноўскаму і ягоным аднадумцам у беларускім руху XIX ст. зарадзілася «*палітычная кампанента, ідэя дзяржаўнай самастойнасці Літвы-Беларусі*»[2]. Паводле В. Шалькевіча, Каліноўскі разглядаў паўстанне не як самамэту, а як адзіны магчымы на той час сродак дасягнення свабоды і незалежнасці Беларусі[3].

---

1 Каўка А. Беларускі вызваленчы рух // Спадчына. 1991 № 5.

2 Біч М. Нацыянальнае і аграрнае пытанне ў час паўстання 1863–1864 гг. // БГЧ. 1993, № 3. С. 45.

3 Шалькевіч В. Каліноўскі Кастусь // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 4. Мінск: БелЭн, 1997. С. 33.

Аднак у тыя ж гады чуліся таксама іншыя галасы. Так, Уладзімір Казбярук залічыў Каліноўскага ў «фальшывыя маякі» беларускай гісторыі[4], а Алег Латышонак на старонках часопіса «Сьвіцязь» заявіў пра «звярыную нянавісць» Каліноўскага да праваслаўя і сцвярджаў, што дыскусія па пытанні, ці Каліноўскі быў свядомым беларусам, з'яўляецца беспрадметнай[5].

150-гадовы юбілей паўстання стаў нагодай для працягу гэтай дыскусіі. Адкідаючы ўбок выразна ідэалагізаваную пазіцыю сучасных заходнерусістаў і велікарускіх шавіністаў (напрыклад, Аляксандр Гронскі, Валеры Чарапіца, Якаў Трашчанок), якія адмаўляюць не толькі беларушчыну Каліноўскага, але ставяць пад сумненне самое існаванне беларускай нацыі, трэба прызнаць, што многія аспекты праблемы «Каліноўскі і беларуская ідэя» яшчэ не атрымалі належнага навуковага асвятлення[6].

Часцяком у трактоўцы праблемы «Каліноўскі і беларуская ідэя» не ставала якраз гістарычнага падыходу, уліку рэаліяў сярэдзіны XIX ст. У выніку адбывалася выразная мадэрнізацыя мінулага. Даследчыкі трактавалі Каліноўскага як свайго сучасніка або, прынамсі, чалавека, які жыў і дзейнічаў ужо ў «эпоху нацыяналізмаў». Між тым у 60-я гг. XIX ст. на беларускіх землях набліжэнне гэтай эпохі яшчэ слаба адчувалася.

Таксама часта ігнаравалася тое, што беларуская ідэя, як і кожная іншая, мела працяглы этап станаўлення і трансфармавалася ў часе. Напрыклад, у першай палове XIX ст. актуальным быў

---

[4] Казбярук У. Маякі і міражы // Літаратура і мастацтва. 1990, 7 снежня.

[5] Латышонак А. Беларуская нацыянальная ідэя // Сьвіцязь. 1994, № 2. С. 36.

[6] Відаць, менавіта гэта прычынілася да таго, што адзін з журналістаў беларускай службы «Радыё свабоды» пад уражаннем выступаў Алега Латышонка і Аляксандра Гронскага падчас публічнай дыскусіі ў Варшаве (лістапад 2013 г.) апублікаваў зацемку пад назвай «Каліноўскі як далакоп беларускай мовы» http://www.svaboda.org/content/article/25188453.html. Рэжым доступу: 15.03.2014 г.

працэс пэўнага беларускага культурнага назапашвання ў межах ліцвінскай і заходнерускай ідэйных плыняў[7].

Трэба ўсвядоміць, што праблема «Каліноўскі і беларуская ідэя» – гэта не толькі пытанне пра светапогляд і самаідэнтыфікацыю кіраўніка паўстання. Яе неад'емнай часткай застаецца вывучэнне генезісу і эвалюцыі самой ідэі. Відавочна, што ў часы Каліноўскага яна не магла адпавядаць «нашаніўскаму» разуменню беларушчыны.

Важнай умовай з'яўляецца даследаванне фармавання і эвалюцыі ўласна «польскай ідэі», зместам якой у пэўны момант быў пасутнасці «рэчпаспалітаўскі патрыятызм», а таксама «літоўскай ідэі». Апошняя не адразу атрымала вядомае нам этнакультурнае напаўненне. Неабходна таксама ўлічваць палітыку расійскіх уладаў на беларускіх і літоўскіх землях, іх стаўленне да этнакультурнай і канфесійнай адметнасці г.зв. «Северо-Западного края». Дарэчы, гэтая праблематыка на сённяшні дзень належыць да найлепш распрацаваных, дзякуючы працам Міхаіла Далбілава, Дарыюса Сталюнаса, Аляксея Мілера, Пола Верта, Тэда Уікса ды інш.

Лічу, што Каліноўскага трэба разглядаць не ў якасці стваральніка альбо носьбіта беларускай нацыянальнай ідэі, а ў якасці важнага гістарычнага звяна ў яе выпрацоўцы. На мой погляд, Каліноўскі з ягоным адчуваннем беларушчыны – гэта прыклад паступовай эвалюцыі ліцвінства ў «беларускім кірунку».

Такі погляд выразна пярэчыць канцэпцыі нараджэння беларускай ідэі з дактрыны заходнерусізму XIX ст., якую падтрымліваюць многія беларускія даследчыкі (напрыклад, А. Латышонак, В. Булгакаў, І. Марзалюк). Яны супрацьпастаўляюць Каліноўскаму манархіста і заходнерусіста Міхаіла Каяловіча як *«першага беларускага нацыяналіста»*[8].

---

[7] Смалянчук А. Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864 – люты 1917 г. Выданне 2-е, дапоўненае і папраўленае. Санкт-Пецербург, 2004. С. 51–56.

[8] Напрыклад, Булгаков В. История белорусского национализма. Вильнюс: Институт белорусистики, 2006. С. 41 ды інш.

Варта адзначыць, што для фармавання вобразу Каліноўскага як *«беларускага нацыянальнага героя»* важную ролю адыграла не толькі беларускамоўная прапаганда *«Яські-гаспадара з-пад Вільні»* на старонках «Мужыцкай праўды», але таксама працы першых гісторыкаў паўстання і ўспаміны ягоных кіраўнікоў.

У 1867 г. у Вільні выйшаў з друку першы том кнігі афіцыйнага гістарыёграфа паўстання генерала Васіля Ратча «*Сведения о польском мятеже 1863 г. в Северо-Западной России*». Аўтар меў доступ як да ўсіх матэрыялаў следства, так і да яго непасрэдных расійскіх удзельнікаў.

Характарыстыцы Каліноўскага і ягонай дзейнасці ў кнізе адведзена значнае месца. В.Ратч сцвярджаў, што паўстанне, якое ў Вільні рыхтаваў Каліноўскі, ужо на пачатковым этапе адрознівалася ад паўстання ў Польшчы. Генерал вылучыў два аспекты, характэрныя для пазіцыі Каліноўскага, адрознай ад Варшавы – сацыяльны і нацыянальны. Першы ўключаў «сялянскую рэвалюцыю» з перадачай зямлі сялянам[9]. Другі грунтаваўся на поглядах Аляксандра Герцана і прадугледжваў дасягненне незалежнасці гістарычнай Літвы[10]. Апошняя трактавалася як самастойная дзяржава, што нібыта і было падмуркам канфлікту Каліноўскага з Нацыянальным урадам у Варшаве.

Першыя польскія даследчыкі асобы Каліноўскага (Агатон Гілер, Валеры Пшыбароўскі, Балеслаў Ліманоўскі) былі непасрэднымі ўдзельнікамі паўстання.

Пшыбароўскі і Ліманоўскі таксама пісалі пра цалкам адметныя ад Варшавы планы Каліноўскага. Ліманоўскі характарызаваў яго як прыхільніка ідэі «народнага паўстання» і адраджэння Польшчы як «народнай федэратыўнай дзяржавы»[11]. Амаль тое ж сцвярджаў

---

[9] Ратч В.Ф. Сведения о польском мятеже 1863 г. в Северо-Западной России. Т. 1. Вильно, 1867. С. 182.

[10] Тамсама. С. 184.

[11] Limanowski B. Historia powstania narodu polskiego w 1863 i 1864 r. T. 2. Lwów, 1882. S. 51, 213.

Пшыбароўскі, які таксама прыгадваў канфлікт паміж Каліноўскім і Нацыянальным урадам. Паводле Пшыбароўскага, Каліноўскі выказваўся за федэратыўныя сувязі паміж свабоднай «Літвой» і Польшчай. Адпаведна, ён імкнуўся да роўнасці паміж Камітэтам у Вільні і Нацыянальным урадам у Варшаве. Таксама быў прыхільнікам сацыяльнага перавароту, меў перакананне, што галоўнай сілай у барацьбе з расійскім царызмам з'яўляюцца сяляне і планаваў арганізацыю выключна сялянскага паўстання або рэвалюцыі[12].

Гэтую характарыстыку Каліноўскага пацвярджаюць успаміны сакратара Нацыянальнага ўраду Юзафа Яноўскага, а таксама аднаго з кіраўнікоў партыі «белых» у Літве і Беларусі Якуба Гейштара. Сакратар ураду, напрыклад, сцвярджаў, што Каліноўскі не хацеў мець ніякіх адносінаў з шляхтай і спрабаваў абаперціся выключна на народ. Саюз гістарычнай Літвы і Польшчы ён разумеў як федэрацыю з поўнай самастойнасцю «Літвы». Таксама не хацеў прызнаваць верхавенства Нацыянальнага ўраду, што было прычынай шматлікіх канфліктаў. Яноўскі характарызаваў яго як чалавека, што марыў пра вызваленне люду і называў яго «*шчырым апосталам беларускага народу*»[13].

Якуб Гейштар паказаў свайго ідэйнага праціўніка «чырвонага» Каліноўскага як чалавека ўсім сэрцам адданага народу, але прыхільніка скрайніх рэвалюцыйных дактрынаў, гатовага нават развязаць грамадзянскую вайну: «*Пры першым знаёмстве даказваў мне, што ўдзел шляхты і памешчыкаў у паўстанні не толькі непатрэбны, але і шкодны. Народ сам заваюе сабе свабоду і запатрабуе ўласнасць у памешчыкаў*». Ён жа сцвярджаў, што Каліноўскі «*думаў пра незалежнасць Літвы*»[14].

---

[12] Przyborowski W. Dzieje 1863 roku. Kraków: W. L. Anczyc, 1897–1902. S. 4–7.

[13] Janowski J. Pamiętniki o powstaniu styczniowym. Lwów, 1923. T. 1. S. 426; Warszawa, 1925. T. 2. S. 115 // Калиновский К. Из печатного и рукописного наследия. Минск, 1988. С. 161.

[14] Pamiętniki Jakóba Gieysztora z lat 1857–1865. T. 1. Wilno, 1913. S. 166–167, 221–222.

Толькі Агатон Гілер трактаваў Каліноўскага як «польскага паўстанца». Аднак менавіта ён упершыню апублікаваў перадсмяротны зварот Каліноўскага пад назвай *Do ludu Białoruskiego. Piśmo z pod szybienicy Konstantego Kalinowskiego.* Аднак ён не стаў аналізаваць гэты надзвычай важны для разумення постаці Каліноўскага дакумент[15].

У вялікай ступені менавіта высновы першых даследчыкаў і згаданыя ўспаміны кіраўнікоў паўстання сталі падставай фармавання вобразу Каліноўскага як беларускага героя.

Праблемы пачынаюцца, калі даследчыкі пераходзяць да аналізу тэкстаў, напісаных Каліноўскім або прыпісаных яму. У змесце гэтых тэкстаў адсутнічаюць вышэйпазначаныя сацыяльныя і нацыянальныя аспекты пазіцыі Каліноўскага. У прыватнасці, ужо падчас чытання «Мужыцкай праўды» ўзнікаюць сумненні пра дачыненне яе аўтара, *Яськi-гаспадара з-пад Вільні* да беларускай ідэі. На яе старонках не згадваецца Беларусь, няма заклікаў да сялянскай рэвалюцыі. Затое фігуруе «*Літва*», прапагандуецца «*справядлівы польскі ўрад*» і г. д.

Але перш чым шукаць прычыны гэтай адсутнасці, варта наогул звярнуць увагу на істотную крыніцазнаўчую праблему ў даследаваннях постаці Каліноўскага. Трэба задумацца над пытаннем, ці ведаем мы дакладна, якія тэксты напісаныя менавіта Каліноўскім?

Даводзіцца прызнаць, што і сёння адсутнічае комплексны аналіз усіх тэкстаў *Яськi-гаспадара...* Можна казаць толькі пра спробы такога аналізу. У прыватнасці, лінгвіст з Варшавы Ніна Баршчэўская (Амельянюк), аналізуючы мову «Мужыцкай праўды» і «Пісьмаў з-пад шыбеніцы», звярнула ўвагу на істотныя моўныя адрозненні № 7 газеты[16]. Таксама трэба адзначыць, што

---

[15] Giller A. Historia powstania narodu polskiego w 1861–1864 r. 4 t. Paryż, 1867–1871.

[16] Omeljaniuk N. Wersje językowe gazety «Mużycka Prauda» // Studia z Filologii Rosyjskiej i Słowiańskiej. T. 15. Warszawa, 1989. S. 101–109; Яна ж. Jeszcze o języku i autorstwie «Mużyckiej Praudy» i listów «z-pad szybienicy» // Studia z Filologii Rosyjskiej i Słowiańskiej. T. 18. Warszawa, 1989. S. 201–208.

гэты нумар нагадваў змест вядомага *Прыказу... да сялян зямлі літоўскай і беларускай*, што з'явіўся прыблізна ў той самы час (чэрвень 1863 г.) і ўтрымліваў няпраўдзівыя звесткі пра дапамогу паўстанцам з боку Францыі, пра вяртанне польскаму сялянству уніяцкіх храмаў і г. д.

Літоўскі гісторык культуры Владас Абрамавічус сцвярджаў, што № 3 «Мужыцкай праўды» быў напісаны Валерыем Урублеўскім[17], а сябра Гарадзенскай арганізацыі Фелікс Ражаньскі ва ўспамінах прызнаваўся ў сваім удзеле (разам з Каліноўскім) у выданні «народнай газеты» пад назвай *Мужыцкая праўда* і за подпісам *Яська, гаспадар з-пад Вільні*[18].

Як вядома, праблема аўтарства Каліноўскага таксама існуе ў дачыненні да *Пісьма ад Яські-гаспадара з-пад Вільні да мужыкоў зямлі польскай*. Напрыклад, вядомы даследчык і дзеяч беларускага руху Адам Станкевіч быў пэўны, што Каліноўскі не мог звярнуцца да беларускіх сялянаў са словамі: «*Мы, што ямо хлеб польскі, што жывемо на зямлі Польскай, мы Палякі з векаў вечных...*»[19]. Міхась Біч падтрымаў гэтае меркаванне. Галоўным аргументам ён лічыў прысутнасць пячаткі Нацыянальнага ўраду на гэтым *Пісьме*, у той час як дакументы Каліноўскага звычайна завяраліся пячаткай Аддзела Літвы[20]. А вось Генадзь Кісялёў дапускаў аўтарства Каліноўскага. На яго думку, гэтае *Пісьмо* можа быць прыкладам таго, як

---

[17] Абрамавичюс В. Библиография белорусских периодических изданий. 1861–1944 (рукапіс, 1949) // Аддзел рукапісаў Бібліятэкі імя Урублеўскіх Акадэміі навук Літвы. F 21-2250.

[18] Ражанскі Ф. З Гарадзенскага ваяводства // Каліноўскі і яго эпоха ў дакументах і культурнай традыцыі. Пад рэд. А. Ф. Смаленчука. Мінск: БГТ, 2011. С. 217

[19] Станкевіч А. Кастусь Каліноўскі. «Мужыцкая праўда» і ідэя незалежнасьці Беларусі // З Богам за Беларусь. Збор твораў. Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2008. С. 230.

[20] Біч М. «...І думаў аб самастойнасці Літвы» // Беларуская мінуўшчына. 1997, № 5. С. 37-41.

цяжка прабівала сабе дарогу беларуская ідэя, якім складаным быў яе разрыў з пальшчызнай[21].

Цалкам магчыма, што псеўданім *Яська-гаспадар з-пад Вільні* не належаў выключна Каліноўскаму. Ён мог быць калектыўным, мог выкарыстоўвацца таксама іншымі паўстанцамі, у т. л. з Варшавы.

Сумненняў няма толькі ў дачыненні да апошніх тэкстаў Каліноўскага, напісаных ім у зняволенні незадоўга да смерці. Гэта *Тлумачальная запіска ад 28 лютага 1864 г.* і згаданыя «*Пісьмы з-пад шыбеніцы*».

Ужо пасля заканчэння следства Каліноўскі напісаў дзве *Запіскі*. Адна з іх, прысвечаная «польскаму пытанню», не знойдзеная. Другая ад 28 лютага 1864 г. яшчэ не стала аб'ектам грунтоўнага аналізу, хоць упершыню была апублікаваная ў 1939 г.[22]

Каліноўскі ў *Запісцы* пацвердзіў наяўнасць супярэчнасцяў паміж кіраўнікамі паўстання ў Польшчы і ў гістарычнай Літве: «*Вспыхнувшее, однако, восстание в Царстве Польском застало Литву совершенно неприготовленною […] Царство Польское […] своим восстанием не уважило интересов Литвы*»[23]. Адну з прычынаў паражэння Каліноўскі бачыў у насцярожаных адносінах сялянства да кіруючай ролі шляхты і памешчыкаў: «*Крестьянин, видя не обрезанные еще когти своих господ, не мог им довериться, и стал смотреть на дело польское, как на затею помещичью […]*»[24].

Чытаючы *Запіску*, разумееш, што Каліноўскі і ў той сітуацыі працягваў змаганне. Ён выступаў як абаронца інтарэсаў «Літвы» (Літвы-Беларусі) і яе народу і спрабаваў уплываць на палітыку расій-

---

[21] Кісялёў Г. Смак беларушчыны. Мінск: Лімарыус, 2013. С. 408.

[22] Ляковский А. И. Литва и Белоруссия в восстании 1863 г. (по новым архивным материалам). Berlin, 1939. С. 169–175. У 1883 г. яе змест і галоўныя ідэі паспрабаваў пераказаць А. Масалоў у сваіх успамінах (Мосолов А. Н. Виленские очерки 1863–1865 гг. // Русская старина. 1883, №№ 10–12; 1884 № 1).

[23] Следча-судовая справа Кастуся Каліноўскага / уклад. З. Кузменка. Мінск: «Галіяфы», 2014. С. 67.

[24] Тамсама. С. 68.

скага ўраду. Між іншым падкрэсліваў, што менавіта ў час панавання Расіі ўзмацнілася «*выработанное историей сочувствие Литвы к Польше*», што і перадвызначыла яе ўдзел у «*польскім паўстанні*».

У заключэнне Каліноўскі выказаў стаўленне наконт намеру ўраду дасягнуць «полного слияния» «Літвы» з Расіяй «*для доставления счастия здешнему народу*»: «*Я не противник счастия народного, не противник и России, если она добра нам желает, но противник тех бедствий, которые постигают край наш несчастный*». Ён папярэджваў, што ўмацаваннне пазіцый Расіі ў Літве немажлівае, пакуль яе ўрад не знойдзе «*сочувствия в действительно образованном классе здешнего населения*» і г. д.[25]

І амаль адначасна дапісваліся «*Пісьма з-пад шыбеніцы*», дзе мы бачым больш зразумелага нам Каліноўскага. Ён заклікаў працягваць змаганне супраць «*няволі маскоўскай*», бо «*дапокуль яна ў нас будзе, у нас нічога не будзе, не будзе праўды, багацтва і ніякай наукі, – адно намі, як скацінай, варочаць будуць… на пагібель нашу*». Каліноўскі не бачыў іншага шляху, як толькі разам з «*братамі з-пад Варшавы*» ісці «*ваяваці за сваё чалавечае і народнае права, за сваю зямлю радную*»[26].

Узнікае пытанне, чаму пра адметную ад Варшавы пазіцыю Каліноўскага ў сацыяльным і нацыянальным аспектах барацьбы мы не даведваемся ад яго самога?

Магчыма, Каліноўскі ў пэўнай ступені аказаўся закладнікам сітуацыі, бо ягонае разуменне мэтаў і спосабаў змагання не мела шанцаў на рэалізацыю. Мужыкі-беларусы яшчэ не сталі *Народам (Нацыяй)* і не ўсведамлялі свае сацыяльныя і нацыянальныя правы. Падобна, што Каліноўскі не меў шматлікіх аднадумцаў нават сярод партыі «чырвоных». Адкрытая прапаганда «сялянскай рэвалюцыі» магла прывесці да расколу сярод паўстанцаў і напалохаць шляхту, без удзелу якой паўстанне таксама не мела шанцаў

[25] Тамсама. С. 73.

[26] Кастусь Каліноўскі. За нашую вольнасць. Творы, дакументы / Уклад. Г. Кісялёў. Мінск: Беларускі кнігазбор, 1999. С. 46

на перамогу. Дарэчы, Генадзь Кісялёў у 1995 г. наступным чынам тлумачыў адносіны Каліноўскага з Варшавай: «*Падтрымліваць і спрачацца, ісці, наколькі магчыма, разам, але адстойваць сваё...*»[27]

Тэксты *Яські-гаспадара з-пад Вільні* 1862–1864 гг. сведчаць не столькі пра беларускі нацыяналізм, колькі пра пэўную эвалюцыю феномена ліцвінства і рэчпаспалітаўскага патрыятызму менавіта ў накірунку беларушчыны. Каліноўскі пачынаў як прадстаўнік ліцвінства, да якога належалі славутыя філаматы і філарэты, Адам Міцкевіч, Адам Кіркор, Юзаф Крашэўскі ды інш. Ліцвінства грунтавалася на ўсведамленні сваёй Радзімай гістарычнай Літвы, якая яшчэ не зведала нацыянальных канфліктаў і трактавалася як культурная і гістарычная цэласнасць. Але напрыканцы паўстання і жыцця Каліноўскага ў ягоных тэкстах усё больш выразна праяўляецца ўласна беларускі кампанент ліцвінства.

Дарэчы, Генадзь Кісялёў бачыў прысутнасць беларушчыны ўжо ў вядомым паролі віленскай арганізацыі: «Каго любіш? – Люблю Беларусь. – Так узаемна»[28].

Беларушчына прысутная ў мове «Мужыцкай праўды» і «Пісьмаў з-пад шыбеніцы». Нельга трактаваць «Мужыцкую праўду» выключна як сродак прапаганды. Узровень беларускай мовы ў гэтых тэкстах даволі высокі, што сведчыць пра тое, што аўтар актыўна карыстаўся ёю. Безумоўна, важным індыкатарам яго беларушчыны быў лірычны верш, скіраваны да каханай Марыі Ямант (*Марыські чарнабрэвай, галубкі маёй*…), які напрыканцы ператварыўся ў паэтычны заклік да *Народу* працягваць змаганне…[29] У першай частцы «Пісьмаў з-пад шыбеніцы», якая пісалася яшчэ да арышту і прызначалася для газеты «Głos z Litwy», Каліноўскі выказваўся пра неабходнасць адукацыі на беларускай мове[30].

Таксама трэба адзначыць, што *Яська-гаспадар з-пад Вільні* ў «Пісьмах з-пад шыбеніцы», а таксама ў № 7 «Мужыцкай праўды»

---

[27] Кісялёў Г. Смак беларушчыны. С. 388–389.

[28] Кісялёў Г. Смак беларушчыны. С. 380.

[29] Кастусь Каліноўскі. За нашую вольнасць. С 45.

[30] Тамсама. С. 43.

атаясамляў сябе з мужыком-беларусам, выразна адмяжоўваючыся ад «маскалёў» і ад палякаў (ці ад «паўстання польскага»). Заклікаючы працягваць змаганне за волю, ён выказаўся за ўтварэнне самастойнага ўраду для Літвы-Беларусі: «*Нам адно сільно з шчырай верай за сваё стаяці трэба, а ронд (урад) наш павінен быць на ўсе чуткі, каб для дабра народнага з усяго карыстаць*»[31].

Беларушчына – таксама ў абароне уніяцкай царквы. Зліквідаваная ў 1839 г., яна заставалася балючай ранай у душах беларусаў. Адам Станкевіч бачыў у праўніяцкай прапагандзе Каліноўскага «*падсьвядомае імкненьне беларускай яго душы да шуканьня сінтэзы, да шуканьня моцнага і найбольш адпаведнага грунту дзеля закапаньня рэлігійнага рову, які раздзёр беларускі народ на дзве варожыя часткі*»[32].

Каліноўскі быў выдатным канспіратарам. У XIX ст. гэта нараджала вялікія праблемы для паліцыі і генерала Мураўёва, сёння – гэта праблема для даследчыкаў. Пэўная загадка Каліноўскага – гэта загадка станаўлення беларускай ідэі...

## Kastuś Kalinoŭski and the Belarusian National Idea: Research Problems

*Alieś Smalianchuk*
*Harodnia-Warsaw*

The Belarusian National Idea is usually taken to mean the idea of the sovereignty of the Belarusian people and the uniqueness of their culture and mentality. The image of Kalinoŭski as the bearer of this idea acquired its final shape in the Belarusian history writing of the 1990s. It was based mainly on the evidence offered by the official historian of the 1863 Uprising, Vasilii Ratch, and

[31] Да беларускага люду. Лісты з-пад шыбеніцы Кастуся Каліноўскага // Маладосць. 1988. № 1. С. 139–142.

[32] Станкевіч А. Кастусь Каліноўскі, «Мужыцкая праўда» і ідэя незалежнасьці Беларусі. Вільня, 1933. С. 30.

on the memoirs of two of the leaders of the Uprising, Jakób Gieysztor and Józef Janowski.

However, one question has still been left unanswered: why do we find no clear expression of the Belarusian National Idea in Kalinoŭski's own writings? Moreover, there has as yet been no wide-ranging study of the texts produced by «Jaśka, a yeoman farmer from near Viĺnia»; this means that we cannot say with certainty which of those texts were actually produced by Kalinoŭski himself, and which by others using the same pseudonym.

The problem of «Kalinoŭski and the Belarusian National Idea» is not merely a question of his world view and his own sense of national identity. It must include a study of how that National Idea arose and evolved. Clearly the idea of «belarusianness» could not have been understood in Kalinoŭski's time in the same way as it was understood at the time of the national renaissance at the beginning of the 20th century. It is surely more a question of observing a process of evolution away from an awareness of being a «Litvin» in the national sense and a citizen of the Polish-Lithuanian Commonwealth towards «being Belarusian». This is apparent, for instance, in the use of the Belarusian language in the publications of the Uprising, in the way in which the author of the «Letters from beneath the Gallows» identifies with the Belarusian peasantry, in the idea of an autonomous government for «Lithuania-Belarus», and also in his defence of the Uniate Church.

# ПРАБЛЕМНАЕ ПОЛЕ ВЫВУЧЭННЯ СТУДЗЕНЬСКАГА ПАЎСТАННЯ 1863 г. У КАНТЭКСЦЕ РЭВАЛЮЦЫЙНАЙ ДЗЕЙНАСЦІ К. КАЛІНОЎСКАГА

*Аляксандр Радзюк,*
*канд. гіст. навук*
*(Гародня)*

150-гадовы юбілей паўстання 1863 г., які адзначаўся ў 2013 г., выявіў надзвычай вялікую цікавасць да гэтай падзеі ў асяроддзі беларускага грамадства. Гэты інтарэс, які суправаджаўся разнастайнымі навуковымі і калянавуковымі дыскурсамі ў медыйнай прасторы Беларусі, пасадзейнічаў актуалізацыі некаторых спрэчных пытанняў па азначанай тэме. Сёння можна з пэўнасцю сцвярджаць, што юбілейны год стымуляваў выкрыццё многіх праблемных кропак, якія да гэтага часу не знайшлі свайго рашэння ў беларускай гістарычнай навуцы. Калі абстрагавацца ад ідэалагічна-ацэначнага складніка дыскусій, а разглядаць тыя падзеі выключна з навуковага пункту гледзішча, можна вылучыць некалькі асноўных блокаў дадзенай праблемы.

На мой погляд, праблемнае поле вывучэння паўстання 1863 г. знаходзіцца ў некалькіх плоскасцях – канцэптуальнай, гістарыяграфічнай і метадалагічнай. Усе вышэй пералічаныя аспекты цесна паміж сабой пераплеценыя і ўзаемаабумоўленыя.

Зыходзячы з наяўнай базы крыніцаў, ступені вывучэння праблемы і стану развіцця беларускай гістарычнай навукі, можна ўказаць найбольш перспектыўныя накірункі вывучэння паўстання 1863 г. у кантэксце дзейнасці Каліноўскага.

Так, у беларускай гістарычнай навуцы яшчэ не было спробы асэнсавання і ўпісання ў кантэкст паўстання падзеяў, звязаных

з г. зв. «маніфестацыйным рухам» 1861 г. Між тым ён адыграў ролю сапраўднага каталізатара ў справе падрыхтоўкі збройнага чыну. Гэтая сувязь выяўляецца нават падчас самага павярхоўнага азнаямлення з спісамі асобаў, што найбольш актыўна прымалі ўдзел у падзеях 1861 г. Многія з іх пазней сталі актыўнымі ўдзельнікамі і нават кіраўнікамі мясцовых рэвалюцыйных арганізацый, што ажыццяўлялі непасрэдную падрыхтоўку ўзброенага паўстання і яго далейшае кіраўніцтва.

У айчыннай гістарыяграфіі трывала замацавалася трактоўка Кастуся Каліноўскага як сацыяліста-народніка. Дамінуе вобраз рэвалюцыянера-дэмакрата скрайніх левых поглядаў, які рабіў стаўку пераважна на сялянскі элемент у паўстанні. Разам з тым, факты сведчаць, што ў сваёй дзейнасці ён праводзіў досыць гнуткую палітыку ў адносінах да розных слаёў тагачаснага грамадства. І там, дзе мясцовыя абставіны не давалі магчымасці абапірацца на «рэвалюцыйна-дэмакратычную» частку грамадства, ён актыўна прыцягваў да супрацоўніцтва найбольш уплывовых у гэтым рэгіёне землеўладальнікаў.

Для пацвярджэння гэтага пастулату дастаткова правесці аналіз асабістага складу Паўднёвай арганізацыі Гарадзенскага ваяводства, у якой маёмасны клас памешчыкаў быў прадстаўлены досыць шырока. Таксама вядома, што Кастусь Каліноўскі супрацоўнічаў і з ксяндзамі (І. Казлоўскі, Я. Зарыжскі, І. Гінтаўт), выкарыстоўваючы іх аўтарытэт у змаганні за незалежнасць.

Наспела неабходнасць стварэння біяхронікі жыцця Каліноўскага (ці апошніх яго гадоў, звязаных з дзейнасцю па падрыхтоўцы паўстання і ўдзелу ў ім). Перадумовы для вырашэння гэтай задачы ёсць. У архівах знаходзяцца сотні розных сведчанняў сяброў тайных арганізацый, у якіх тыя дакладна ўказваюць даты і месцы сустрэчаў з Кастусём Каліноўскім. Таксама захаваліся іншыя тыпы дакументаў царскай адміністрацыі, што так ці інакш адлюстроўваюць дынаміку яго перамяшчэнняў. Пэўная факталагічная база ўжо назапашаная ў разнастайных працах гісторыкаў па дадзенай праблематыцы, а таксама ў выдадзеных зборніках дакументаў і крыніц.

Выкананне падобнай працы дазволіць вырашыць некаторыя спрэчныя да гэтага часу пытанні, якія тычацца асобы Каліноўскага і яго рэвалюцыйнай дзейнасці. Магчыма, яна пасадзейнічае вызначэнню месца выдання «Мужыцкай праўды» і г. д.

Адной з найбольш дыскусійных тэмаў «каліноўсказнаўства» з'яўляецца праблема дакладнага вызначэння твораў ягонай ідэйна-літаратурнай спадчыны. Бурлівыя спрэчкі вядуцца вакол пытанняў аб яго датычнасці ці недатычнасці да аўтарства такіх твораў як «Пісьмо да мужыкоў зямлі польскай», сёмага нумару «Мужыцкай праўды» ды інш.

Вырашэнне гэтага пытання падаецца вельмі важным у кантэксце вызначэння геапалітычнай і культурнай арыентацыі Кастуся Каліноўскага, асэнсавання яго поглядаў і перакананняў. Як адзін з варыянтаў адолення гэтай праблемы можа быць прапанавана прыцягненне новых метадаў даследаванняў, напрыклад, графічнай экспертызы почырку.

Таксама крыміналістычны падыход можа быць выкарыстаны для аналізу, супастаўлення шрыфтоў «Мужыцкай праўды» (а таксама і іншых адозваў, падпісаных «Яськам-гаспадаром з-пад Вільні») з нелегальнымі выданнямі таго часу, месца друку якіх устаноўлена. Выкарыстанне падобных нехарактэрных для гістарычнай навукі метадаў можа дапамагчы акрэсліць месца выдання публікацыяў К. Каліноўскага і, магчыма, паспрыяе дакладнаму вызначэнню яго ідэйна-літаратурнай спадчыны.

Эфектыўнаць дадзенага падыходу ўжо была апрабаваная на прыкладзе экспертызы фотаздымка, выяўленага даследчыцай Вольгай Гарбачовай у фондах Літоўскага дзяржаўнага гістарычнага архіва. Яна ідэнтыфікавала яго як невядомы партрэт Каліноўскага. Аднак, супаставіўшы яго з хрэстаматыйнай выявай Каліноўскага з майстэрні Ахіла Банольдзі, эксперты далі адмоўнае заключэнне.

Слаба даследавана праблема ўдзелу розных прафесійных і нацыянальных групаў у паўстанні. Нават такі відавочны факт як выключная роля лекараў у арганізацыі і кіраванні нацыянальна-вызвольным рухам стаў прадметам увагі толькі краязнаўцаў. Варта

назваць імя гарадзенскага даследчыка Фёдара Ігнатовіча. Між тым у польскай гістарыяграфіі праведзеныя адмысловыя даследаванні ўдзелу ў паўстанні лекараў, чыгуначнікаў, вайскоўцаў, якія пераходзілі з шэрагаў расійскай арміі на бок паўстанцаў і г. д.

Тое ж тычыцца праблемы, звязанай з адносінамі габрэйскага насельніцтва да падзеяў 1863–1864 гг. Гэтая тэма вартая адмысловай увагі ўжо з тае прычыны, што не такія рэдкія былі выпадкі ўдзелу прадстаўнікоў гэтай нацыянальнай супольнасці ў г. зв. рэвалюцыйных арганізацыях напярэдадні і падчас паўстання і нават ва ўзброенай барацьбе. Таксама ў айчыннай гістарычнай навуцы да гэтага часу не было прадпрынята аніводнай спробы аналізу колькасных дадзеных ці матывацыі ўдзелу ў паўстанні праваслаўнага насельніцтва беларускіх зямель. Няўжо і яны змагаліся за адраджэнне Польшчы?

Патрабуюць удакладнення дадзеныя аб сацыяльнай базе паўстання. Да гэтага часу для многіх даследчыкаў найбольш важным застаецца асвятленне ўдзелу сялянства, бо менавіта на аснове гэтай сацыяльнай групы ў далейшым фармавалася беларуская нацыя. Такім чынам у іх вачах легітымізуецца «беларускасць» паўстання.

Напрацоўкі ў гэтай сферы абмяжоўваюцца толькі дзвюма публікацыямі[1]. Лічбы, якія сёння паўтараюцца з выдання ў выданне, у большасці выпадкаў паходзяць з даследавання Сузанны Самбук. Разам з тым, гэтыя дадзеныя не з'яўляюцца навукова карэктнымі ўжо таму, што яны ўлічваюць выключна тыя катэгорыі паўстанцаў, чые справы разглядаліся ваенна-суднымі камісіямі (за выключэннем часткі Гарадзенскай губ.). Такім чынам, аўтар у свой час не ўлічыў іншыя катэгорыі ўдзельнікаў нацыянальна-вызваленчай барацьбы, якія можна адшукаць сярод групы, што добраахвотна здалася ўладам, а таксама сярод тых, чые справы разглядаліся ваеннымі начальнікамі.

---

[1] Гісторыя Беларусі ў шасці тамах. Том чацвёрты. Беларусь у складзе Расійскай імперыі (канец XVIII – пачатак XX ст.) / М. Біч, В. Яноўская, С. Рудовіч і інш. Мінск: УП »Экаперспектыва», 2005. С. 241.

Улічваючы спецыфіку сацыяльнай палітыкі тагачаснай віленскай адміністрацыі, можна з пэўнасцю сцвярджаць, што ў большасці выпадкаў менавіта непрывілеяваныя слаі дамінавалі сярод тых, хто зусім вызваляўся ад следства, або чые справы разглядаліся па спрошчанай судовай форме. Напрыклад, у той жа Гарадзенскай губ., дзе гэтыя дадзеныя С. Самбук былі часткова ўлічаныя, удзельная вага сялян-паўстанцаў узрасла да 33%, у той час як у цэлым па Беларусі яна, паводле яе разлікаў, не перавышала 18%.

Перагляду трывала замацаваных стэрэатыпаў (у т. л. і таго, што сяляне нібыта паўсюдна не падтрымалі паўстанне) таксама можа садзейнічаць выкарыстанне новых методык падліку і прыцягненне дадатковых крыніц. У якасці найбольш рэпрэзентатыўнай базы па гэтай праблеме можа стаць увядзенне ў навуковы зварот адмысловых «Алфавітных кніг», што былі створаныя следчымі органамі і ўтрымлівалі імёны ўсіх тых, каго абвінавачаныя згадвалі падчас допытаў.

Адна з галоўных метадалагічных праблем у вывучэнні палітычных падзеяў 1861–1863 гг. заключаецца ў адсутнасці крытычнага асэнсавання базы крыніц, якія амаль што цалкам выйшлі з нетраў расійскай карнай сістэмы. Асабліва гэта тычыцца звестак аб тайных рэвалюцыйных арганізацыях. Іх асабісты склад і дзейнасць рэканструююцца выключна на падставе сведчанняў тых асобаў, што былі схопленыя царскай адміністрацыяй. У большасці выпадкаў не ўлічваецца спецыфіка падобнага тыпу дакументаў, псіхічны стан падследчых, іх зразумелае жаданне выратаваць у першую чаргу сябе.

Да таго ж, амаль 99% падобных асобаў на допытах (уключаючы таксама кіраўнікоў паўстанцкіх атрадаў і арганізацыяў) сведчылі, што яны былі ўцягнутыя ў барацьбу прымусова, супраць сваёй волі, пад пагрозай пазбаўлення жыцця. Разам з тым, па-за ўвагай вельмі часта застаюцца дакументы (нават даступныя) іншага боку канфлікту, то бок паўстанцаў.

Таксама наспела праблема верыфікацыі дадзеных па пакаранні паўстанцаў і іх далейшага асэнсавання. Многія лічбы, якія на сённяшні дзень прысутнічаюць нават у акадэмічных выданнях, не

вытрымліваюць крытыкі. Некаторыя з іх былі наўпрост запазычаныя з дакументаў мураўёўскай адміністрацыі, нават без спробы іх крытычнага аналізу.

У першую чаргу гэта тычыцца колькасці сасланых асобаў. У выніку правядзення такой работы іх колькасць можа аказацца ў разы большая за тую, чым гэта прынята лічыць сёння (16131 асоба[2]). Таксама варта звярнуць увагу на супярэчлівасць дадзеных і ў цэлым нераспрацаванасць тэмы пакарання смерцю на тэрыторыях, падпарадкаваных уладзе віленскага генерал-губернатара ў 1863–1865 гг.

У межах даследаванняў гэтай тэматыкі надзвычай актуальнай падаецца праблема вызначэння месцаў іх пахавання (у т. л. К. Каліноўскага). Апошняе неабходна для мемарыялізацыі іх імёнаў і мясцінаў, дзе гэтыя асобы былі пахаваныя.

Акрамя таго, даўно наспела неабходнасць комплекснага гістарычна-прававога даследавання, якое б тычылася канфіскацыі прыватнай уласнасці ўдзельнікаў паўстання. Праблема ў тым, што да гэтага часу не было праведзена аналізу прававога статусу рухомай і нерухомай маёмасці, якой былі пазбаўленыя датычныя да паўстання асобы. Як вынік, нават у навуковай літаратуры часта блытаюцца розныя катэгорыі зямельных уладанняў (секвестраваныя, канфіскаваныя, «падлеглыя абавязковаму продажу»), што стварае пэўнае непаразуменне.

Таксама чакаюць сваіх даследчыкаў такія праявы пасляпаўстанскіх рэпрэсій як кадравая палітыка віленскіх уладаў, сістэма надзвычайных збораў, кантрыбуцый, штрафаў і іх далейшага выкарыстання ды інш.

Праблема царскіх рэпрэсій не можа быць вырашаная без выкарыстання міждысцыплінарнага падыходу. Без прыцягнення гісторыкаў права немагчыма даць адказ на пытанне аб надзвычайных паўнамоцтвах Мураўёва і яго пераемнікаў на пасадзе віленскага

---

[2] Гісторыя Беларусі ў шасці тамах. Том чацвёрты. Беларусь у складзе Расійскай імперыі (канец XVIII – пачатак XX ст.) / М. Біч, В. Яноўская, С. Рудовіч і інш. Мінск: УП »Экаперспектыва», 2005. С. 241.

генерал-губернатара. Чаму яго распараджэнні мелі вышэйшую юрыдычную сілу, чым агульнадзяржаўныя законы нават ваеннага часу? На якіх прававых падставах (прэцэдэнтах) былі заснаваныя яго шматлікія інструкцыі і правілы, якія стваралі фактычна новае юрыдычнае поле ў рамках агульнаімперскага заканадаўства? Не трэба ўспрымаць гэтыя акалічнасці як нешта дадзенае. Варта дайсці да сутнаснага разумення юрыдычных нюансаў усёй сітуацыі і зрабіць параўнаўчы аналіз з іншымі рэгіёнамі імперыі. Ці былі недзе падобныя прэцэдэнты?

На жаль, на сённяшні дзень не створана аніводнай біяграфічнай працы, адмыслова прысвечанай той ці іншай асобе (акрамя К. Каліноўскага) з ліку актыўных дзеячаў паўстання. Выключэннем тут зноў жа можна лічыць гісторыка-літаратурныя нарысы Генадзя Кісялёва «Сейбіты вечнага», «Героі і музы». Разам з тым, падобныя даследаванні дапамаглі б вырашэнню некаторых пытанняў, што актыўна ўздымаюцца ў рамках сучаснага гістарычнага дыскурсу. Гэтая праца можа весціся таксама ў кантэксце напісання гісторыі асобных паўстанцкіх атрадаў.

Польскія даследчыкі не баяцца закранаць і вывучаць праблему паўстанцага тэрору[3]. Адсутнасць нейкіх дакладных дадзеных па гэтай праблематыцы ў нашай гістарычнай навуцы спараджае розныя (часам нездаровыя) спекуляцыі і нават абвінавачванні ў бок К. Каліноўскага ў тым, што нібыта ён выступаў арганізатарам гэтага тэрору.

Але самай галоўнай праблемай лічу тое, што на сённяшні дзень у Беларусі не вядзецца комплекснага даследавання паўстання 1863–1864 гг. ні ў рамках дзяржаўных бюджэтных ці кафедральных тэмаў ВНУ, ні ў Інстытуце гісторыі Нацыянальнай Акадэміі навук.

---

[3] Nowak W. Terror wobec ludności cywilnej Królewstwa Polskiego i Ziem Zabranych stosowany przez oddziały i żandarmerię powstańczą w latach 1863–1864 // Powstanie Styczniowe 1863–1864. Walka i uczestnicy. Represje i wygnanie. Historiografia i tradycja. Pod redakcją W. Cabana, W. Śliwowskiej. Kielce: Wydawnictwo Akademii Świętokrzyskiej, 2005. S. 41–54.

Да апошняга часу падобная тэматыка амаль што зусім адсутнічала ў назвах аспіранцкіх і магістарскіх работ. У пераважнай большасці выпадкаў ініцыятарамі правядзення канферэнцый, круглых сталоў ці дыскусій па дадзеных праблемах выступаюць грамадскія арганізацыі і навуковыя таварыствы.

## Kalinoŭski's Revolutionary Role in the January Uprising of 1863: Issues requiring Further Research

*Aliaksandr Radziuk*
*Harodnia*

This article is concerned with the identification of problem areas of research into the 1863 Uprising. The Uprising was the subject of active research in the Soviet period. However during the last 50 years this period has been almost entirely ignored by Belarusian historians. As a result many key aspects remain outside the scope of their study. In the author's view the main problem areas of research into the Uprising are the following:

– the complete absence of studies of the so-called «Manifesto movement»;

– Kalinoŭski's attitude towards landowners, the Catholic clergy and other dominating strata of society;

– the compilation of a day-to-day chronicle of Kalinoŭski's life;

– ascertaining the extent and scope of Kalinoŭski's literary heritage;

– the extent to which various national and professional groups participated in the uprising;

– further clarification of the data on the social basis of the uprising. This is essential as – in the eyes of many historians – the peasants' active participation in the struggle of 1863 proves the «Belarusian» character of this event;

– the use of terror during the uprising;

– verification and further analysis of the data on repression of the insurgents (confiscation, exile, executions, *etc.*);

– and the main problem: no comprehensive research of the uprising of 1863 is currently being conducted in universities and the National Academy of Sciences.

# НЕЛЕГАЛЬНЫ ПОЛЬСКАМОЎНЫ ДРУК ПАД КІРАЎНІЦТВАМ КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА*

*Дарота Міхалюк,*
*докт. гіст. навук*
*(Торунь)*

Пасля смерці Мікалая I і паразы Расіі ў Крымскай вайне, якая паказала слабасць дзяржавы, людзі пачалі спадзявацца на грунтоўныя змены ў дзяржаўным ладзе і ў грамадстве. З'яўленне новага цара Аляксандра II абяцала лібералізацыю ўнутранай палітыкі. Менавіта паслабленне сістэмы ў першыя месяцы яго кіравання і спадзяванні на змены паспрыялі актывізацыі дзейнасці канспіратыўных таварыстваў, якія ствараліся сярод прадстаўнікоў розных сацыяльных і прафесійных колаў.

У заходняй частцы Расійскай імперыі, менавіта ў Польскім Каралеўстве і на былых землях Рэчы Паспалітай, узмацнялася дзейнасць тайных арганізацый, шырыліся патрыятычныя настроі. Гэта праяўлялася ў маніфестацыях і сходах, распаўсюджванні нелегальнага друку і праграмных дыскусіях.

Варшаўскія гурткі «чырвоных», якія імкнуліся да незалежнасці шляхам узброенага паўстання, у красавіку 1861 г. абралі Камітэт, верагодна, ужо тады названы «Камітэтам руху». Ён стаў асновай Цэнтральнага нацыянальнага камітэту. Лагер «чырвоных»,

* Praca naukowa finansowana w ramach programu Ministra Nauki i Szkolnictwa Wyższego pod nazwą «Narodowy Program Rozwoju Humanistyki» w latach 2012–2015, grant nr 0156/FNiTP/H12/80/2011.


NARODOWY PROGRAM
ROZWOJU HUMANISTYKI

які таксама называлі «Нацыянальнай арганізацыяй чырвоных», збіраў вакол сябе моладзь шляхецкага паходжання, студэнтаў, інтэлігентаў, рамеснікаў, вайскоўцаў і дробных служачых. Многія з кіраўнікоў руху (у т. л. Кастусь Каліноўскі, Зыгмунт Серакоўскі, Зыгмунт Падлеўскі) стаялі за сумеснае выступленне з расійскімі грамадскімі дзеячамі і вайскоўцамі. На іх палітычны светапогляд паўплывалі ідэі Аляксандра Герцана і Мікалая Чарнышэўскага. Але найбольшы ўплыў ўсё ж аказала развіццё заходнееўрапейскай дэмакратычнай думкі, вопыт «Вясны нацыяў», барацьба за аб’яднанне Італіі і значная роля ў гэтым працэсе ніжэйшых слаёў грамадства, а таксама народнага героя Джузэпэ Гарыбальдзі.

Вяртанне незалежнасці гэтаксама з’яўлялася мэтаю лагера «белых», якія былі звязаныя з землеўласніцкім і прамыслова-мяшчанскім асяроддзем. Аднак яны дзейнічалі больш асцярожна. «Белыя» не бачылі шанцаў на перамогу ўзброенага паўстання без міжнароднай падтрымкі і настойвалі на г. зв. «арганічнай працы», здабыцці культурных, адукацыйных і палітычных канцэсіяў шляхам супрацоўніцтва з урадам. Узброенае выступленне адкладалася да больш спрыяльнага моманту. «Белыя» сцвярджалі непадрыхтаванасць да выступлення Літвы і Беларусі. Да таго ж многія падзялялі думку Францішка Далеўскага, што *«ўдзел шляхты ў заўчасным паўстанні забіваў мары пра будучыню»*[1]. Такі самы погляд меў кіраўнік партыі «белых» у Літве Якуб Гейштар[2]. Нават Зыгмунт Серакоўскі з лагера «чырвоных» у Літве разумеў заўчаснасць узброенай барацьбы. Ён выказваўся за супрацоўніцтва з расійскімі дэмакратамі і ствараў канспіратыўную «сетку» ў Літве, якая магла б забяспечыць рэзервы будучаму паўстанню.

Найбольш актыўнымі прыхільнікамі паўстання былі «чырвоныя» ў Польскім Каралеўстве. Пасля стварэння ў сярэдзіне 1862 г. Цэнтральнага нацыянальнага камітэту (ЦНК) яны распачалі дзе-

---

1 Apolonia z Dalewskich Sierakowska. Wspomnienia. Oprac. J. Sikorska-Kulesza, T. Bairašauskaitė. Warszawa, 2010. S. 175.

2 Gieysztor J. Pamiętniki z lat 1857–1885. T. 1. Wilno, 1921. S. 104.

янні, скіраваныя на падрыхтоўку краіны да ўсеагульнага паўстання, якое павінна было аднавіць незалежнасць Польшчы ў межах 1772 г., усім яе жыхарам, нягледзячы на іх канфесійную прыналежнасць, гарантаваць абсалютную свабоду і роўнасць перад законам, а таксама спрыяць захаванню нацыянальнай адметнасці асобных народаў[3]. На той момант гэта быў першы «*прынцып палітычнай веры*» лагера «чырвоных»[4].

Праграма лагера «чырвоных» была апублікаваная на старонках афіцыйнага органа ЦНК у Польскім Каралеўстве газеты «Ruch», якая з 5 ліпеня 1862 г. выдавалася ў Варшаве, а распаўсюджвалася таксама ў іншых правінцыях. Ужо самая назва выдання перадавала галоўны лозунг «чырвоных»: «*Пастаяннае развіццё і рух на шляху, які вядзе да незалежнасці Польшчы…*»[5]

Слова «рух» стала выкарыстоўвацца ў дачыненні да ўсяго лагера. Мэты барацьбы і спосабы іх дасягнення лагер «чырвоных» фармуляваў наступным чынам: дасягненне незалежнасці Польшчы; барацьба за вольнасць шляхам паўстання; аніякіх дамоваў з расійскім урадам; падрыў даверу да ўраду і ігнараванне яго загадаў, у т. л. тых, якія маглі б паспрыяць пазітыўным зменам. Усё было скіравана на тое, каб дэстабілізаваць і зрабіць немагчымым кіраванне дзяржавай[6].

Меркавалася, што паўстанне ў імя толькі «грамадскіх справаў» і «абстрактнай вольнасці» не мае шанцаў на поспех. Яго можа гарантаваць толькі шырокі ўдзел народу-нацыі, які трэба вызваліць у межах, што існавалі да падзелаў, менавіта ў межах «*духоўна непадзельнай Польшчы*», якая складалася з народаў уласна Поль-

---

3 Ruch. Nr 1, 05.07.1862. Цыт. паводле: Prasa tajna z lat 1861–1864. Cz. 1 / Red. S. Kieniewicz, I. Miller // Powstanie Styczniowe. Materiały i dokumenty. Wrocław-Warszawa-Kraków: wydawnictwo PAN, 1966. S. 335.

4 Выраз «прынцыпы палітычнай веры» ўзяты з арыгінальных тэкстаў «Ruchu».

5 Ruch. Nr 1 // Prasa tajna z lat 1861–1864. Cz. 1 / Red. S. Kieniewicz, I. Miller. S. 332.

6 Ibidem. S. 333.

шчы, Літвы і Русі»[7]. Абмежаванне барацьбы толькі Польскім Каралеўствам расцэньвалася як згода з падзеламі і не гарантавала шанцаў на ўтрыманне незалежнасці: «*Нацыя можа паўстаць толькі […] у імя вольнасці і незалежнасці ўсёй Польшчы*»[8]. У дадзеным выпадку Польшча разумелася як землі былой Рэчы Паспалітай.

Паняцце «народу-нацыі» выкарыстоўвалася адначасова ў некалькіх значэннях. Пад ім разумелі жыхароў Рэчы Паспалітай, жыхароў Польшчы, Літвы і Русі, а таксама пэўны этнас. Лічылася, што «*Польшча складаецца з трох роўных паміж сабой нацыянальнасцяў, злучаных адным інстытутам і адной ідэяй вольнасці. Уздымаючыся на барацьбу ў імя гэтых прынцыпаў, Польшча не ўяўляе пагрозы ні для адной з нацыяў , бо кожную шануе і кожнай пакіне правы, якія вынікаюць з асаблівасцяў яе індывідуальнасці*»[9].

Падаецца, што погляды прадстаўнікоў Польскага Каралеўства на нацыянальную сітуацыю на ўсходніх тэрыторыях былі даволі павярхоўнымі. Новыя нацыянальныя тэндэнцыі выяўляліся ўжо дастаткова моцна, асабліва на Украіне, дзе развівалася ўкраінская нацыянальная ідэя. Сепаратысцкія памкненні на Украіне былі заўважаныя ў Каралеўстве, але і надалей гэтыя землі хацелі бачыць з’яднанымі з дзяржаўнай традыцыяй Рэчы Паспалітай. Між тым імкненне да вяртання мяжы 1772 г. (нават ва ўмовах федэрацыі Украіны з Польшчай) азначала для ўкраінцаў адмаўленне ад еднасці ўкраінскіх земляў, бо ў такім выпадку ў межах Расіі заставалася значная частка земляў, далучаных да яе яшчэ ў XVII ст.[10]

Аўтары першага нумару «Ruchu» выклалі свае пазіцыі з пункту гледжання верагодных сепаратысцкіх памкненняў «Украіны-Русі». Такая магчымасць дапускалася, але толькі пасля таго, як Польшча адвае незалежнасць. Да гэтага моманту сепаратызм павінен

[7] Ibidem. S. 334.

[8] Ibidem.

[9] Ibidem.

[10] На гэта звярнуў увагу вядомы даследчык Стэфан Кеневіч. Гл.: Kieniewicz S. Powstanie styczniowe. Warszawa, 1863. S. 177.

быў ацэньвацца як здрада. Пры гэтым лічылася, што прынцып *«вольнасці народаў, якія ўяўляюць з Польшчай адно цела»*, будзе гарантам адзінства гэтых народаў і ў незалежнай Польшчы (ці Рэчы Паспалітай)[11]. Іншага варыянту апроч цэнтралізаванай польскай дзяржавы не прадугледжвалася. Пры гэтым трэба падкрэсліць, што лагер «чырвоных», імкнучыся аднавіць межы будучай дзяржавы, звяртаўся да традыцыяў Рэчы Паспалітай толькі на тэрытарыяльнай аснове. Ён цалкам парываў з яе шляхецкім ладам. У разуменні прадстаўнікоў гэтага лагера будучая незалежная польская дзяржава павінна кіравацца прынцыпамі грамадскай, юрыдычнай і рэлігійнай роўнасці[12].

Другім «прынцыпам палітычнай веры», паводле рэдактараў «Ruchu», з'яўлялася ўтварэнне прызнанага грамадствам нацыянальнага ўраду і адмова падпарадкоўвацца ўраду захопнікаў, не прызнаваць трактатаў аб падзелах і пастановаў Венскага кан-

---

[11] Ruch. Nr 10, 18.12.1862 // Prasa tajna z lat 1861–1864. Cz. 1 / Red. S. Kieniewicz, I. Miller // Powstanie Styczniowe. Materiały i dokumenty. Wrocław-Warszawa-Kraków: Wydawnictwo PAN, 1966. S. 361.

[12] «Апроч ідэі нацыянальнага вызвалення Польшчы ў межах да падзелаў Рэчы Паспалітай, адраджэнне Польшчы ўздымае сцяг вольнасці і роўнасці правоў для ўсіх. Польшча – гэта адзіная вольная маці для ўсіх сваіх дзяцей [...]. Свабодным і цалкам роўным у сваіх правах з'яўляецца селянін, мешчанін і шляхціц. Саслоўі ліквідуюцца, і з адраджэннем Польшчы ўзнікае адзінае саслоўе раўнапраўных і свабодных грамадзянаў. Няма ў Польшчы прывілеяў, няма класаў, ёсць толькі натуральныя падзелы, якія вынікаюць з заняткаў альбо з узроўню адукацыі, але не маюць ніякага прававога падмурку. Свабоду і роўнасць, якую Польшча забяспечыць усім нацыянальнасцям і ўсім жыхарам без саслоўнай розніцы, таксама будзе датычыць усіх канфесіяў. Каталік, уніят, вернік эвангелісцкай царквы, праваслаўны, армянін, жыд ці мусульманін – усе дзеці адной Айчыны, усе вольныя і роўныя!» (Ruch. Nr 1, 05.07.1862 // Prasa tajna z lat 1861–1864. Cz. 1 / Red. S. Kieniewicz, I. Miller // Powstanie Styczniowe. Materiały i dokumenty. Wrocław-Warszawa-Kraków: wydawnictwo PAN, 1966. S. 334–335).

грэсу 1815 г.[13] Трэці прынцып прадугледжваў далучэнне сялянаў і мяшчанаў да барацьбы за незалежнасць, што павінна было ўтварыць «*магутны і ўстойлівы нацыянальны падмурак*»[14]. У сувязі з гэтым неабходна было заняцца асветай ніжэйшых колаў грамадства і спрыяць пераменам сацыяльных адносінаў у вёсцы.

Аднак «чырвоныя» разумелі, што рэалізацыі гэтых двух пунктаў не дастаткова, каб утварыць з ніжэйшых сацыяльных колаў адданых нацыянальнай справе раўнапраўных «грамадзянаў». Поспех мог гарантаваць толькі ўдзел сялянаў у нацыянальнай барацьбе, бо толькі гэта ператварыла б іх у прыкметнага партнёра на палітычным і грамадскім полі. Менавіта ў ніжэйшых сацыяльных колах лагер «чырвоных» бачыў галоўную сілу змагання за незалежнасць: «*Вызваленне з-пад прыгону сялянаў з'яўляецца справай вялікай значнасці, пашырэнне сапраўднай асветы не менш важнае, але і першага і другога недастаткова, каб быць цалкам пазбаўленым ад абавязкаў абуджэння нацыі і павелічэння абаронцаў Польшчы. Сяляне і мяшчане, як самыя шматлікія прадстаўнікі, дадуць найбольш абаронцаў, а таму менавіта яны на сваіх плячах падымуць справу незалежнасці*»[15].

Адначасова з гэтым усе разумелі, што паняцці «Радзіма» і «палітычная незалежнасць» у сялянскім асяродку з'яўляюцца тэрмінамі абстрактнымі. Сялянаў больш цікавіла наяўнасць зямлі, хаты, адносіны з памешчыкам, ліквідацыя прыгону. Адпаведна, быў прапанаваны наступны тэзіс: *эфектыўнасць барацьбы за незалежнасць можа быць гарантаваная толькі шырокім удзелам сялянскіх масаў, для якіх найважнейшымі з'яўляюцца пытанні сацыяльнага ўладкавання*. «Ruch» звяртаў увагу, што польскі ўрад павінен правесці ўсеагульнае вызваленне сялян (з кампенсацыяй) і ажыццявіць рэформу сацыяльных адносінаў у вёсцы, каб «*селянін пачаў прагнуць палітычнай незалежнасці і адчуў патрэбу схапіць*

---

[13] Ibidem. S. 335–336.
[14] Ibidem. S. 339.
[15] Ibidem.

*зброю для барацьбы з ворагамі Польшчы»*[16]. Шляхту заклікалі перадаваць добрыя і ўрадлівыя зямлі і пашыраць братэрскія адносіны паміж класамі нацыянальнага грамадства. Гэта і быў чацвёрты «прынцып палітычнай веры»[17].

Поўная версія праграмы была паўтораная ў «Ruchu» (№ 10) ад 18 снежня 1862 г.: *«Грунтуючы нашую справу на сапраўдных польскіх прынцыпах, захоўваючы вернасць духу і патрэбам нацыі, заклікаем да палітычнага жыцця і волі не адзін клас, але таксама вясковае і гарадское насельніцтва. Мы імкнемся, каб селянін і мешчанін меў тыя самыя правы, што і шляхціч, хочам, каб быў адзіны братні народ, не падзелены на класы, а аднолькава вольны. Разам з тым мы хочам волі для сялянаў, якая прыйдзе пасля выплаты памешчыкам чыншу з сродкаў усёй дзяржавы, хочам абсалютнай талерантнасці. Усё гэта мы будзем мець для злучаных у адзінае Польшчы, Літвы і Русі, бо патрабаванні і мэты нашай праграмы задавальняюць усіх, незалежна ад сацыяльнага статусу, мовы і веравызнання. Нашыя памкненні сапраўды народныя і справядлівыя»*[18].

У паўстанцкіх планах Цэнтральнага нацыянальнага камітэту асаблівая роля адводзілася дзейнасці ў Літве і Беларусі. Праект вайсковых дзеянняў будучага паўстання распрацаваў выпускнік Артылерыйскай Акадэміі Зыгмунт Падлеўскі (падчас паўстання вайсковы начальнік Варшавы). У час навучання ў Пецярбургу ў 1857–1859 гг. ён належаў да канспіратыўнай вайсковай суполкі, заснаванай Зыгмунтам Серакоўскім, які навучаўся ў Акадэміі Генеральнага штаба.

Да пецярбургскага канспіратыўнага асяродку належаў таксама студэнт юрыдычнага факультэта Пецярбургскага ўніверсітэта Кастусь Каліноўскі. Летам 1862 г. у Кейданах ён быў госцем на шлюбе Зыгмунта і Апалоніі з Далеўскіх, сястры вядомага канспіратыўнага

[16] Ibidem. S. 343.
[17] Ibidem.
[18] Ibidem. S. 362.

дзеяча Францішка Далеўскага[19]. Вяселле было добрай нагодай для сустрэчы таксама іншых кіраўнікоў лагеру «чырвоных» на Літве, менавіта капітана Яна Станевіча і ксяндза Мацкевіча. Вяселле супала з гадавінай заключэння Люблінскай уніі, якая ўрачыста адзначалася.

Стратэгічны план Падлеўскага абапіраўся на вайсковы вопыт лістападаўскага паўстання і нават паўстання Касцюшкі, а таксама на распрацоўкі, якія ажыццяўляліся на эміграцыі і ў краіне вайскоўцамі і тэарэтыкамі Дэзідэрыем Хлапоўскім, Людвікам Быстраноўскім, князем Адамам Чартарыйскім, Каралем Багумілам Стользманам[20]. Яны меркавалі, што поспех выступленняў у Польскім Каралеўстве залежыць ад развіцця падзеяў у Літве і Беларусі, а таксама ва Украіне. Лічылася, што балоты Палесся і Міншчыны, лясы і пушчы Ковеншчыны і Гарадзеншчыны будуць спрыяць поспеху партызанскай барацьбы. Важную ролю надавалі Балтыйскаму мору, бо спадзяваліся на дастаўку ў Літву марскім шляхам зброі і амуніцыі.

Галоўнаю мэтаю дзеянняў у Літве і Беларусі было стрымліванне расійскіх войскаў, недапушчэнне іх пранікнення ў Польскае Каралеўства. Некалькі партызанскіх групаў павінны былі ўтрымліваць кантроль на галоўных дарогах і чыгунках, якія вялі з Каралеўства ў Маскву і Пецярбург. Асаблівая ўвага скіроўвалася на пецярбургска-варшаўскую чыгунку, якая праходзіла праз Гародню-Коўна-Дынабург і на лініі, што вялі з Варшавы ў Маскву праз Берасце і Бабруйск[21]. Важная роля адводзілася Гарадзеншчыне, якая межавала з Каралеўствам, і праз тэрыторыю якой праходзілі абедзве чыгункі.

Нягледзячы на тое, што ў ЦНК не ўяўлялі паўстання без удзелу Літвы і Беларусі, тым не менш падрыхтоўка гэтых земляў да будучых збройных чынаў была ў дрэнным стане. Арганізацыйныя

---

[19] Kieniewicz S. Powstanie styczniowe. S. 293.
[20] Fajnhauz D. 1863. Litwa i Białoruś. Warszawa, 1999. S. 113–115.
[21] Kieniewicz S. Powstanie styczniowe. S. 329.

структуры Нацыянальнай арганізацыі «чырвоных» былі слабыя і саступалі арганізацыі «белых», асцярожная палітыка якіх мела больш прыхільнікаў сярод шляхты і землеўласнікаў. Вакол «белых» збіралася інтэлігенцыя шляхецкага паходжання, служачыя, прадстаўнікі рыма-каталіцкага духавенства, мяшчанства і частка габрэйскай прамыслова-фінансавай эліты. У афіцыйных маніфестах грамадзяне Літвы і Беларусі дамагаліся ад ураду вяртання Статута Вялікага Княства Літоўскага, аднаўлення Віленскага ўніверсітэта, набору служачых з мясцовага насельніцтва, стварэння Крэдытнага Таварыства, аднаўлення дзейнасці шляхецкіх сходаў, якія былі пад забаронай у сувязі з увядзеннем надзвычайнага становішча. Фактычна гэтыя патрабаванні былі скіраваныя на атрыманне палітычна-культурнай аўтаноміі для Літвы[22].

Распачыналася «арганічная праца». Так, маршалак віленскай шляхты Аляксандр Дамейка ў красавіку 1862 г. даслаў праект рэарганізацыі сістэмы адукацыі, дамагаючыся ўвядзення ў навучальную праграму гімназій польскай мовы, а ў вясковых народных школах навучання на тым дыялекце, які дамінуе ў дадзенай мясцовасці[23]. Частка «белых», у т. л. Якуб Гейштар, лічылі абавязковым прыцягненне сялянства да барацьбы за незалежнасць. Таксама частка «белых» выказвалася за неадкладнае вызваленне шляхтай ад прыгону сялянаў, каб апярэдзіць расійскі ўрад у вырашэнні сялянскага пытання. Яны разумелі ўсю важнасць пытання пра тое, хто найбольш паспрыяе адмене прыгону: мясцовы землеўласнік ці ўрад? Лагер «белых» у Літве і Беларусі рабіў стаўку на «арганічную працу» і лічыў, што заўчасны выбух паўстання абернецца паразай і знішчэннем Краю. Але пры гэтым і «белыя» заяўлялі, што ў выпадку паўстання ў Каралеўстве стануць у яго шэрагі на глебе нацыянальнай салідарнасці.

Уплыў «чырвоных» у грамадстве Літвы і Беларусі быў значна слабейшы. У іх лагеры дамінавалі перш за ўсё прадстаўнікі слу-

---

[22] Fajnhauz D. 1863. Litwa i Białoruś. S. 94.
[23] Ibidem.

жачай інтэлігенцыі, якія паходзілі з сярэдняй і дробнай шляхты, студэнцкая моладзь, вайскоўцы, служачыя ніжэйшых чыноў. Гэтая група лічыла, што атрымаць незалежнасць можна толькі шляхам паўстання. У склад віленскага Камітэта «чырвоных» уваходзілі капітан Людвік Звяждоўскі, Баляслаў Длускі, Ахілес Банольдзі, Эдмунд Вярыга, а таксама найбольш радыкальна настроены сярод іх Кастусь Каліноўскі. Прадстаўніком ЦНК у віленскім Камітэце, які спачатку называлі «Камітэтам руху», а пасля «Літоўскім правінцыяльным камітэтам», быў Нестар Дзюлёран. З самага пачатку ён рэпрэзентаваў цэнтрысцкія тэндэнцыі. Паміж ім ды іншымі сябрамі Камітэта распачалася спрэчка аб межах кампетэнцыі і падпарадкавання адносна ЦНК.

Неафіцыйна гаворка таксама ішла пра характар паўстання, менавіта, ці павінен гэта быць толькі шляхецка-мяшчанскі выступ, ці таксама ангажаваць у яго сялянскія сілы, як і планавалася ў згаданай праграме «чырвоных», апублікаванай на старонках «Ruchu»[24]. Пры гэтым усе разумелі, што ў гэтых асяродках лагер «чырвоных» меў нязначны ўплыў. Камітэт пачаў актыўна працаваць дзеля прыцягнення сялянаў да барацьбы супраць расійскага ўраду.

Агітацыю, скіраваную да сялянаў Гарадзеншчыны, праводзілі пры дапамозе газетаў «Гутарка двух суседаў» і «Мужыцкая праўда», якія выдаваліся ў беластоцкім асяродку на беларускай мове лацінскім алфавітам[25]. Першае выданне выходзіла пад рэдакцыяй групы Браніслава Шварца, другое рэдагавалі некалькі асобаў, між іншым Кастусь Каліноўскі і Валеры Урублеўскі. Рэдактары гэтых

[24] Kieniewicz S. Powstanie styczniowe. S. 293–294.

[25] Hutorka dwóch susiedau. Nr 1. 1861–1862 // Prasa tajna. Cz. 1. Powstanie Styczniowe. Wrocław-Warszawa-Kraków, 1966. S. 156–166; Hutorka dwóch susiedau. Nr 2. 1861–1862 // Prasa tajna. Cz. 3. Powstanie Styczniowe. Wrocław-Warszawa-Kraków, 1970. S. 301–304; Mużyckaja Prauda. Nr 1–7. Białystok-Wilno-Grodno, lipiec 1862 – czerwiec 1863 // Prasa tajna. Cz. 1. Powstanie styczniowe. S. 318–329.

выданняў разлічвалі на незадаволенасць сялянства рэалізацыяй акту вызвалення сялянаў ад 19 лютага 1861 г. і на супраціў вёскі рэкрутчыне, якая засталася насуперак ранейшым абяцанням. Яны заклікалі таксама да рэлігійных выступленняў за вяртанне грэка-каталіцкага касцёла.

У прапагандзе, якая не вельмі клапацілася аб гістарычнай праўдзе, яны прэзентавалі даўнейшую Рэч Паспалітую як аснову пажаданых сялянскіх правоў і схілялі сялянаў да барацьбы за вяртанне «польскіх урадаў». Пры гэтым уздымаліся лозунгі дэмакратычнай роўнасці, вольнасці і міжсацыяльнага братэрства. Найбольш радыкальных поглядаў адносна сялянскага пытання ў гэтай групе прытрымліваўся Кастусь Каліноўскі, які з сярэдзіны 1862 г. быў паўнамоцным камісарам Гарадзенскага ваяводства. Яго нават абвінавачвалі ў тым, што ён хацеў падняць сялянаў на рэвалюцыю і заклікаў іх да антышляхецкіх выступленняў. Гэтая пазіцыя з'яўлялася адной з прычынаў яго канфлікту з Дзюлёранам. Апошняму паспрыялі таксама спробы стварэння ў Літве самастойнага лагера «чырвоных», незалежнага ад Нацыянальнага ўраду.

Аднак неабходна падкрэсліць, што гэта былі спрэчкі, якія датычылі толькі арганізацыйных пытанняў і спосабу вядзення барацьбы. Не трэба дзеянні Кастуся Каліноўскага ўспрымаць як барацьбу за незалежную Літву і Беларусь, як спробу парваць сувязі з Польскім Каралеўствам і ідэяй барацьбы за вяртанне Рэчы Паспалітай у межах да падзелаў. Такія тэзісы не знаходзяць пацвярджэння ні ў адным з перыядычных выданняў Каліноўскага, на што звярталі ўвагу ўжо Стэфан Кеневіч і Давід Файнхаўз, якія займаліся даследаваннем паўстання 1863 г. Іх высновы пра ўяўны сепаратызм, якія, у адрозненне ад меркаванняў А. Смірнова, абапіраюцца на выдатную даследчыцкую працу, падаюцца добра абгрунтаванымі[26].

---

[26] Smirnow A. Więzi rewolucyjne narodów Rosji i Polski w latach trzydziestych-sześćdziesiątych XIX wieku. Warszawa, 1972. S. 361–390.

Варта пагадзіцца з Стэфанам Кеневічам, што жаданне незалежнасці Вільні ад ЦНК можна патлумачыць простымі аргументамі: «*Ліцвіны ў сваю чаргу маглі разважаць, што Цэнтральны камітэт: а) дрэнна арыентаваўся ў літоўскіх адносінах; б) імкнуўся да занадта хуткага выбуху паўстання; в) эвалюцыянаваў (у асобе Гілера) у памяркоўным кірунку, г. зн. схіляўся да паразумення ў Літве з «белымі»; г) разам з тым за сітуацыяй сачылі агенты Мераслаўскага, чалавека, які адмаўляў Літве ў правах на адасобленасць. І, нарэшце, асноўнае: рух, якім кіравалі з Варшавы, з'яўляўся б нацыянальным польскім рухам, а польскасць у вачах літоўскіх ці беларускіх сялянаў здаўна ўспрымалася як шляхецкасць, што перашкаджала прыцягненню сялянаў да барацьбы*»[27].

Гэтую даследчую пазіцыю падзяліў таксама Давід Файнхаўз, а апошнім часам і Рышард Радзік, які слушна заўважыў, што ва ўмовах паўстання выказванне сепаратысцкіх ідэяў было абсалютна беспадстаўным і супярэчыла яго мэтам[28]. Адначасова з гэтым даследчыкі, якія адмаўляюць намеры Каліноўскага наконт разрыву з Польскім Каралеўствам, не выключаюць намаганняў Літоўскага правінцыяльнага камітэта да самастойнага кіравання паўстаннем на сваёй тэрыторыі, а ў выпадку поспеху імкнення вярнуць Літве палітычную адасобленасць у адносінах да Кароны. Можна нават прасачыць развіццё гэтых поглядаў, асабліва ў сутыкненнях з пазіцыямі дзеячаў з Каралеўства, якія знаходзіліся ў Літве і не разумелі яе нацыянальную і сацыяльную сітуацыю. Для Мераслаўскага, напрыклад, Літва і Беларусь былі толькі «*забранымі*» *тэрыторыямі*»[29]. Аднак цяжка ацаніць, як эвалюцыянавалі іх погляды на адносіны з Польскім Каралеўствам, бо да сённяшняга дня ніхто такіх даследаванняў не праводзіў.

Разам з спробамі далучэння сялянаў да ўдзелу ў паўстанні ці

[27] Kieniewicz S. Powstanie Styczniowe. S. 295–296.

[28] Радзік Р. Канстанцін Каліноўскі ў сьвятле дакумэнтаў // Arche. 2009, Nr 5. S. 119–130.

[29] Smirnow A. Więzi rewolucyjne. S. 381.

змушэння да барацьбы за свае правы, лагер «чырвоных» у Літве ні ў якім выпадку не адмаўляўся ад прыцягнення землеўласнікаў і шляхты і ад прапаганды збройнага чыну сярод іх. Такія ініцыятывы распачынаў сам Кастусь Каліноўскі, які ў сваёй канспірацыйнай працы абапіраўся перш за ўсё менавіта на гэтыя колы. Дзеля прыхільнасці шляхты ён спрабаваў перацягнуць у лагер «чырвоных» легендарнага канспіратара Францішка Далеўскага. Гэтыя спробы былі безвыніковымі, бо Далеўскі аказаўся вельмі стрыманым у адносінах да памкненняў, што вялі да паўстання, якое ён лічыў заўчасным і самазабойчым. Пазней ён канчаткова далучыўся да лагеру «белых»[30].

Агітацыя шляхты «чырвонымі» праходзіла не толькі шляхам асабістага пераконвання, але таксама пры дапамозе канспіратыўнай прэсы. Яна павінна была падрыхтаваць грамадства да паўстання, абудзіць патрыятычны дух і пераканаць у слушнасці праграмы «чырвоных». Напярэдадні паўстання і падчас яго назіралася актывізацыя нелегальнай перыёдыкі. Інфармацыя, сабраная групай Стэфана Кеневіча, дазваляе меркаваць, што лічба выданняў, якія з'явіліся ў 1861–1864 гг., дасягала некалькіх дзесяткаў[31]. На старонках друку фармуляваліся праграмы асобных лагераў, прадстаўляліся палітычныя і сацыяльныя мэты, змяшчаліся данясенні пра расійскія рэпрэсіі. Лагер «чырвоных» перасылаў у Літву прэсу, што выдавалася ў Каралеўстве і прызначалася для шляхты, мяшчанаў і служачых. Таксама выдаваліся ўласныя газеты, скіраваныя да гэтых жа сацыяльных групаў. Гэта былі польскамоўныя выданні: «Chorągiew Swobody» («Сцяг свабоды») і «Głos z Litwy» («Голас з Літвы»). Першая газета выходзіла як афіцыйны орган Літоўскага правінцыяльнага камітэта, другая была яго неафіцыйным выданнем. Таксама, як і «Мужыцкая праўда», гэтыя дзве газеты выходзілі са згоды Каліноўскага, які магчыма быў іх натхняльнікам.

[30] Apolonia z Dalewskich Sierakowska... S. 176.
[31] Kieniewicz S. Wstęp // Prasa tajna. Cz. 1. S. V.

«Chorągiew Swobody» выдавалася ў Вільні ад студзеня да чэрвеня 1863 г. і з'яўлялася афіцыйным органам Літоўскага правінцыяльнага камітэта. Два першыя нумары выйшлі ў перыяд, калі Камітэтам кіраваў К. Каліноўскі, таму лічыцца, што ён меў непасрэдны ўплыў на іх змест[32]. Трэці нумар «Chorągwi Swobody» выйшаў тады, калі Камітэт знаходзіўся ўжо ў руках «белых». У адрозненне ад «Мужыцкай праўды» «Chorągiew Swobody» была скіраваная да ўсіх грамадзянаў, незалежна ад сацыяльнага статусу і веравызнання і заклікала да барацьбы за незалежнасць. У абодвух нумарах моцна падкрэслівалася сувязь Літвы і Беларусі з Польскім Каралеўствам і Украінай. Аўтары прапагандавалі не толькі еднасць народаў на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай, але і еднасць з расійскім рэвалюцыйна-дэмакратычным рухам. Пры гэтым падкрэслівалася розніца паміж расійскім народам і палітыкай ураду. «Chorągiew Swobody» не кранала пытання этнічнай асаблівасці Літвы і Беларусі, а рабіла акцэнт на нацыянальную супольнасць, нацыянальную традыцыю і тэрытарыяльную еднасць, вызначаную *«межамі нацыянальнай жалобы»*[33].

Першы нумар газеты з'явіўся ў Вільні 1 студзеня 1863 г. напярэдадні паўстання. Ён быў напоўнены тэарэтычнымі развагамі пра ролю нацыі ў барацьбе за незалежнасць Бацькаўшчыны. Нумар пачынаўся аналізам працэсу пераходу ад зняволенага народу да народу, што змагаецца за сваю незалежнасць. Аўтар тэксту сцвярджаў, што пасля страты палітычнай незалежнасці нацыя праходзіць праз тры фазы існавання. Для першай характэрная лаяльнасць да захопнікаў з боку тых, хто давёў краіну да страты незалежнасці, і апатыя большасці. Другая фаза ёсць эпохай першых крокаў людзей, якія ўзялі на сябе абавязак абуджэння нацыянальнага духу. Гэты этап распачынаецца тайнымі змовамі, а завяршаецца масавым нацыянальным рухам і аднаўленнем веры ў свае сілы. Трэцяя фаза характарызуецца нацыянальнай салідарнасцю,

[32] Ibidem. S. 399.
[33] Chorągiew Swobody. Nr 1, 01.01.1863 // Prasa tajna. Cz. 1. S. 400.

пачуццём сілы духу. Яна не з'яўляецца працяглай, бо нацыя ўздымаецца на барацьбу за незалежнасць.

На думку аўтара тэксту, гэты час ужо наступіў: «*Момант дзеянняў і братэрства ўжо надышоў. Ні крывавая вакханалія нападу на вуліцах Варшавы на безабаронных, ні выгнанні, ні шыбеніцы, ні вайсковыя пагрозы не знішчылі веру ў нашую перамогу, і знішчыць не здолеюць. Рэвалюцыйны ўздым, які ўжо распачаўся нягледзячы на шалёныя рэпрэсіі 27 лютага 1861 г., доўга не можа трываць. Час пачынаць усеагульнае паўстанне ў імя святых правоў нашай нацыі набліжаецца. У нашай маральнай непахіснасці ўжо ніхто не наважыцца сумнявацца, а матэрыяльныя сілы трэба падлічыць і падрыхтаваць. Літоўскі правінцыяльны камітэт як арганізацыйная ўлада ў Літве і Беларусі заклікае ўсіх грамадзянаў, якія шчыра любяць Бацькаўшчыну, незалежна ад сацыяльнага паходжання і веравызнання, да сумеснага выступлення за нацыянальную незалежнасць.*

*Сцвярджаючы прынцып роўнасці ўсіх сацыяльных групаў і веравызнанняў без крыўды для чужой уласнасці і заклікаючы да сумеснай працы ўсе без выключэння колы польскага грамадства ў імя свабоды і нацыі, Правінцыяльны камітэт не сумняваецца ў агульным імкненні і аднадумным жаданні задаволіць край. Адраджэнне Польшчы, якая паўстане пасля амаль стогадовай заслужанай пакуты, адбудзецца не ў выніку парламенцкай спрэчкі ці дыпламатычна-грамадскіх спекуляцый, але збройным чынам…*»[34]

Гэтымі словамі Літоўскі правінцыяльны камітэт заклікаў насельніцтва да паўстання. Зваротам да варшаўскіх падзеяў у лютым 1861 г. аўтар падкрэсліў шчыльную сувязь Літвы і Беларусі з Польскім Каралеўствам і ўвогуле з тагачаснай «польскай справай». У той дзень войскі стралялі па маніфестантах на Замкавай плошчы. Смерць пяці чалавек выклікала хвалю патрыятычных маніфестацыяў, публічнай нацыянальнай жалобы ў Каралеўстве і ў Літве.

[34] Ibidem.

У першым нумары «Chorągwi Swobody» шматразова з'яўляюцца словы «нацыя», «Бацькаўшчына», «Польшча». Кантэкст не пакідае сумневу, што словы «Бацькаўшчына» і «Польшча» ўжываюцца адносна ўсіх земляў былой Рэчы Паспалітай. Падобным чынам слова «нацыя» ўжываецца без этнічнага адцення і пазначае жыхароў земляў былой і будучай Рэчы Паспалітай, незалежна ад сацыяльнага статуса і веравызнання. Літоўскі правінцыяльны камітэт звяртаўся да ўсіх грамадзянаў Літвы і Беларусі, заклікаючы іх да салідарнасці з іншымі землямі былой дзяржавы. Ён падкрэсліваў, што яна павінна быць там, дзе *«нацыянальная жалоба, руйнуючы трактаты прыгнятальнікаў, сувора пазначыла межы польскай зямлі»*[35].

Нумар быў адрасаваны перш за ўсё шляхце Літвы і Беларусі, якую пераконвалі, што неабходна ўступаць у барацьбу і рабіць матэрыяльныя ахвяраванні. Пры гэтым шляхце гарантавалася захаванне маёмасці, што з'яўляецца вельмі важным у кантэксце абвінавачванняў Кастуся Каліноўскага ў імкненні нібыта пазбавіць маёмасці землеўласнікаў на карысць сялянаў і ў антышляхецкай пазіцыі.

Важным пунктам праграмы «чырвоных» Літвы і Беларусі было далучэнне да сумеснай барацьбы з царызмам расійскіх дэмакратаў. Ствараліся планы агульнага выступлення, хоць велікарускія губерні былі падрыхтаваныя да гэтага яшчэ горш, чым Літва. Гэтыя планы таксама знайшлі сваё адлюстраванне ў першым нумары «Chorągwi Swobody». Рэдактары акцэнтавалі ўвагу на выразным адрозненні расійскіх афіцыйных уладаў ад расійскага народу (а хутчэй прадстаўнікоў расійскага рэвалюцыйна-дэмакратычнага руху), пра які пісалі, што *«ён нашым вольным братам, а не прыгнятальнікам прагне быць»*[36].

Другі нумар «Chorągwi Swobody» выйшаў таксама ў Вільні 19 лютага 1863 г. Ён амаль цалкам складаўся з заклікаў да шляхты і землеўласнікаў Літвы і Беларусі да паўстання супраць захопнікаў

---

35 Ibidem.
36 Ibidem.

і салідарнасці з жыхарамі Польскага Каралеўства. Літоўскі правінцыяльны камітэт выступіў як Часовы Правінцыяльны ўрад Літвы і Беларусі і абвясціў сябе адзінай легальнай уладай на гэтых тэрыторыях. Ён патрабаваў ад насельніцтва не падпарадкоўвацца расійскім уладам і сцвярджаў незалежнасць ад ЦНК у справах, датычных збройнага чыну.

Аднак гэтая заява не азначала разрыву з Варшавай. Саюз з ЦНК не аспрэчваўся. Нават падкрэслівалася залежнасць Вільні ад ЦНК, пра што сведчыць таксама ўжыванне слова «Правінцыяльны»: «*Упэўненыя ў сваіх сілах і падтрыманыя чынным прызнаннем краю,* ***па загадзе цэнтральнай улады Нацыі*** *[Цэнтральнага нацыянальнага камітэта – вылучана Д. М.] мы ўзнялі наш сцяг над атрадамі ў Літве і Беларусі […]. Пад гэты сцяг спяшаюцца народы Літвы і Беларусі! А заклікае цябе пад яго адзіны на сёння твой легальны Часовы правінцыяльны ўрад […]. Яднанне з братамі з берагоў Віслы і Дняпра, асвечанае новымі пакутамі, пацвердзіш нязломнай мужнасцю перад ворагам і ўсім светам у барацьбе на Нёмане і Вяллі. А барацьба гэтая святая, бо яна за цэласнасць тваёй разарванай зямлі, за маёмасць сыноў, пазбаўленых спадчыны на сваёй Бацькаўшчыне. Святая кроў, гераічна пралітая за волю і роўнасць усіх веравызнанняў, традыцыяў і моваў тваіх братоў!*»[37]

Праграма «чырвоных», сфармуляваная на старонках «Chorągwi Swobody», утрымлівала вяртанне дзяржаўнай незалежнасці Рэчы Паспалітай у межах 1772 г., адмену прыгону, дэмакратызацыю грамадскага жыцця, звяржэнне царызму пры дапамозе збройнай барацьбы, салідарнасць усіх сацыяльных групаў, саюз з расійскімі дэмакратамі.

Тэрытарыяльную еднасць усіх земляў Рэчы Паспалітай падкрэслівалі змешчаныя ў другім нумары «Chorągwi Swobody» данясенні пра выступы паўстанцаў на Палессі, Гарадзеншчыне, Мазовіі і Любельшчыне[38].

---

37 Ibidem. S. 402–403.
38 Ibidem. S. 403–404.

Вайсковым органам друку Літоўскага правінцыяльнага камітэта былі «Wiadomości o powstaniu na Litwie» («Навіны пра паўстанне ў Літве»). З 25 сакавіка да 12 мая 1863 г. выйшла шэсць нумароў[39]. Гэта былі сцісла пададзеныя звесткі, узятыя ў кіраўнікоў паўстання з паветаў і ваяводстваў на тэму баявых дзеянняў, якія не ўтрымлівалі праграмных зваротаў.

Неабходнасць інфармаваць пра ваенную сітуацыю адчувалася таксама ў выданні «Głosu z Litwy» як неафіцыйнага органу Выканаўчага аддзелу Літвы[40]. Газета з'явілася на схіле паўстання. На працягу двух месяцаў з 1 лютага да 1 красавіка 1864 г. выйшла пяць нумароў, выдадзеных у Караляўцы, па-за зонай дзеяння расійскай паліцыі. З мэтаю дэзінфармацыі на тытульным лісце пазначалася, што газета друкуецца ў Вільні. Яна мела інфарматыўны характар, паведамляла пра паўстанне ў Літве і заклікала да яго падтрымкі.

Ініцыятарам выдання гэтай газеты даследчыкі канспірацыйнага перыядычнага друку часоў паўстання 1863–1864 гг. Давід Файнхаўз і Стэфан Кеневіч лічаць Кастуся Каліноўскага[41]. На іх думку, з Каліноўскім быў узгоднены змест першага нумару. Гэты тэзіс навукоўцы грунтуюць на ўскосных фактах, таму што непасрэдныя доказы ў крыніцах адсутнічаюць. Паводле іх меркавання, пра ўдзел Кастуся Каліноўскага сведчаць, па-першае, паказанні Юзафа Каліноўскага Следчай камісіі, які звязваў яго з «Głosem z Litwy». Па-другое, загад Выканаўчага аддзела Літвы ад 12 (24 студзеня), у якім ішла гаворка пра выданне газеты як неафіцыйнага органа Выканаўчага аддзела Літвы. Нагадаю, што Аддзел у той час узначальваў якраз Кастусь Каліноўскі. Загад быў адрасаваны Агентуры Усходняй Прусіі, а выдаўцом «Głosu z Litwy» з'яўляўся менавіта яе былы начальнік Пётр Дрэвіцкі.

---

39 Fajnhauz D. Prasa konspiracyjna powstania styczniowego na Litwie i Białorusi (1861–1864) // Rocznik Białostocki, 1963. T. IV. S. 87–88.

40 Ibidem. S. 91–92.

41 Prasa tajna. Cz. 3. S. 199.

Таксама трэба звярнуць увагу на супадзенне датаў загаду і выдання першага нумару газеты, якое адбылося праз некалькі дзён. Д. Файнхаўз таксама звярнуў увагу, што матэрыялы, прызначаныя для друку ў «Głosie z Litwy», дасылаліся ў Каралеўства праз Выканаўчы аддзел Літвы, а таму пра гэта павінен быў ведаць Кастусь Каліноўскі[42].

Асновай праграмы «Głosu z Litwy» быў Маніфест ад 22 студзеня 1863 г., выдадзены Цэнтральным нацыянальным камітэтам. Ужо на пачатку паўстання ЦНК абвясціў усіх «сыноў Польшчы», нягледзячы на адрознасць веры, паходжання і сацыяльнага стану, вольнымі і роўнымі грамадзянамі Краю. Зямлю, якой сяляне валодалі на правах чыншу ці паншчыны, ён перадаваў ім без усялякіх умоваў ва ўласнасць з правам спадчыннасці. Таксама абяцаў кампенсацыю тым, хто раней валодаў зямлёй, з агульных сродкаў дзяржавы. Гарантавалася, што сем'і беззямельных сялянаў, якія возьмуць удзел у паўстанні ці загінуць у абароне за радзіму, атрымаюць у маёмасць зямлю. Народы Польшчы, Літвы і Русі заклікаліся да барацьбы пад агульным сцягам. Газета ў вострай форме звярталася да расійскага народа, перасцерагаючы ад падтрымкі царызму супраць паўстанцаў.

За аснову рэдактары «Głosu z Litwy» бралі Маніфест ЦНК, таму іх мэты не адрозніваліся ад мэтаў лагера «чырвоных»: «*заваяванне свабоды, цэласнасці, незалежнасці Бацькаўшчыны, раўнапраўе ўсіх без выключэння грамадзянаў перад законам, незалежна ад сацыяльнага статусу і веравызнання, увядзенне свабоды сумлення і слова, узняцце народа да годнасці грамадзянаў*»[43]. Важнаю мэтаю таксама лічылася маральная падтрымка і суцяшэнне грамадства. Выразна акрэсліваўся адрасат выдання: «*Для цябе, польская нацыя, няхай гэтая газета будзе суцяшэннем, вестуном лепшай будучыні, няхай будзе адным з тысячы доказаў, што, нягледзячы на войска*

[42] Fajnhauz D. Prasa konspiracyjna. S. 92–93.

[43] Głos z Litwy. Nr 1, korespondencja z dnia 01.02.1864 // Prasa tajna. Cz. 3. S. 201.

*Вешальніка і зграі прадажнай паліцыі, ланцугі, якія нас сціскаюць, з кожным днём слабнуць і ўсё больш спадаюць»*[44].

Калі ў першым нумары «Chorągwi Swobody» падкрэсліваўся падзел паміж расійскім народам і царскай адміністрацыяй, то «Głos z Litwy» быў адназначна антырасійскі, а ўсе абвінавачанні ў адрас Расіі былі сфармуляваныя паводле прынцыпу цывілізацыйнай ці культурнай супрацьлегласці: «*Мы адмаўляемся ад усялякай супольнасці з Масквой; паміж воляй і дэспатызмам, паміж святлом і азіяцкай цемрай, паміж прынцыпам і рафінаванай спекуляцыяй не можа быць думкі пра згоду. Там бездань, якую Масква не здолее нічым запоўніць; там барацьба на смерць*»[45].

За два дні да смерці Кастуся Каліноўскага, які быў павешаны пасля хуткага следства на Лукішскай плошчы ў Вільні, 20 сакавіка 1864 г. з'явіўся чацвёрты нумар «Głosu z Litwy»[46]. У чарговы раз гаворка ішла пра пабудову польскай дзяржавы на аснове тэрытарыяльных традыцый Рэчы Паспалітай, г. зн. да падзелу 1772 г., пра надзяленне роўнымі правамі ўсіх колаў грамадства, роўнасць веравызнанняў, нацыянальнасцяў і свабоднае развіццё літоўскай, беларускай, маларускай і польскай моваў[47]. Таксама лагер «чырвоных» падкрэсліваў, што новая польская дзяржава не будзе навязваць сацыяльных і нацыянальных адносінаў былой Рэчы Паспалітай, а будзе абапірацца на дэмакратычныя прынцыпы, выпрацаваныя на захадзе і поўдні Еўропы.

«Głos z Litwy» утрымліваў данясенні з поля бою не толькі з Літвы, але таксама і з Польскага Каралеўства, дэманструючы непарыўную еднасць і салідарнасць паўстання. У выданні таксама змяшчаліся тэксты публіцыстычнага характару, якія апісвалі рэпрэсіі Мураўёва, адчуваліся тэндэнцыі да мартыралагічнага паказу паўстання, а таксама першыя спробы аналізу прычынаў

---

44 Ibidem, korespondencja z dnia 10.01.1864 // Prasa tajna. Cz. 3. S. 204.
45 Ibidem, korespondencja z dnia 01.02.1864 // Prasa tajna. Cz. 3. S. 201–202.
46 Głos z Litwy. Nr 4, 20.03.1864 // Prasa tajna. Cz. 3. S. 234–244.
47 Ibidem. S. 234–235.

паражэння. Аналагічна з выданнем «Chorągwi Swobody» акцэнт рабіўся на нацыянальную еднасць без этнічнага размежавання, а паўстанне называлася «польскім».

Аналіз трох перыядычных выданняў, у большай ці меншай ступені звязаных з асобай Кастуся Каліноўскага, дазваляе зрабіць некалькі высноваў:

● «Chorągiew Swobody» і «Głos z Litwy» заклікалі да нацыянальнай еднасці і барацьбы за аднаўленне тэрытарыяльнай цэласнасці былой Рэчы Паспалітай, не звяртаючыся да ідэі сепаратызму Літвы і Беларусі (як і «Мужыцкая праўда»). Прычым польскамоўныя выданні не падкрэслівалі этнічнай адрознасці.

● «Chorągiew Swobody», «Głos z Litwy» і «Мужыцкая праўда» з пункту гледжання мовы (польскай і беларускай) і зместу выказванняў адрасаваныя пэўнаму колу чытачоў. Першыя два выданні былі разлічаныя на шляхецкі і мяшчанскі асяродкі ў Літве і Беларусі. Яны прапагандавалі дэмакратычныя погляды значна больш памяркоўным тонам (саслоўная салідарнасць, грамадзянская годнасць), фармулявалі ідэю вольнасці, традыцый Рэчы Паспалітай, барацьбы ў абароне лацінскай цывілізацыі. «Мужыцкая праўда» была скіраваная да сялянства і канцэнтравалася на пытаннях, актуальных для сялянскага асяроддзя (зямля, рэкрутчына).

● «Chorągiew Swobody», «Głos z Litwy» і «Мужыцкую праўду» яднае стаўленне да сацыяльных праблемаў, якое ўвасобілася ў словах, змешчаных у апошнім пасланні Каліноўскага: «*Усе роўныя*».

● Змест артыкулаў гэтых трох выданняў не дае падставаў падазраваць аўтараў, а ўскосна і Кастуся Каліноўскага як патрона гэтых выданняў, у сепаратысцкіх памкненнях Літвы адносна Польскага Каралеўства (не кажучы ўжо пра вылучэнне Беларусі).

● З пункту гледжання палітычнай праграмы, мэты «чырвоных» Літвы і Беларусі, выказаныя на старонках «Chorągwi Swobody» і «Głosu z Litwy», прынцыпова не адрозніваліся ад мэтаў праграмы лагеру «чырвоных» у Польскім Каралеўстве, якія выказваліся на старонках «Ruchu».

# Illegal Periodicals in Polish published by Kastuś Kalinoŭski during the 1863–64 Uprising

*Dorota Michaluk*
*Toruń*

The clandestine press grew considerably in importance during the uprising. Research has revealed that a few dozen underground publications appeared in the years 1861–1864. They set out the political and social objectives of the various factions. They also reported on Russian reprisals. The Red faction distributed in Lithuania not only the press published in the Kingdom of Poland that was aimed at the nobility, government officials and inhabitants of the major towns and cities, but also their own newspapers intended for the same social strata. These were the Polish language periodicals *Chorągiew Swobody* (Banner of Freedom) – the official organ of the Lithuanian Provincial Committee – and *Głos z Litwy* (Voice from Lithuania), its unofficial voice. Just as in the case of *Mužyckaja Praŭda*, both of these periodicals were published with the consent of Kastuś Kalinoŭski, and were allegedly also inspired by him.

*Chorągiew Swobody* was published in Viĺnia between January and June 1863. The first two issues were published when Kalinoŭski was in charge of the Committee; this is why he is thought to have had a direct influence on its content. The third issue appeared when the Committee was in the hands of the Whites. In contrast to *Mužyckaja Praŭda*, it was intended for all citizens, regardless of class or religious affiliation, to encourage them to fight for independence. The first two issues emphasized the relations of Lithuania and Belarus with the other lands of the old Polish-Lithuanian Commonwealth, i.e. Poland and Ukraine. Articles advocated not only national unity within the former Commonwealth, but also unity with the Russian revolutionary-democratic movement, emphasizing the differences between the Russian nation and government actions.

Five issues of the unofficial *Głos z Litwy* appeared – published in Königsberg, out of reach of the Russian police – over a two-month period in the final stages of the uprising, from February 1 to April 1 1864. It reported direct from battlefields in both Lithuania and Poland, and included articles describing Muravyov's reprisals – stressing the martyrological aspect of the uprising – and initial analyses of why the uprising was defeated.

The following conclusions may be drawn from an analysis of these three periodicals:

1. The two Polish-language publications proclaim national unity and restoration of the whole of the old Polish-Lithuanian Commonwealth, and do not raise the idea of separatism of Lithuania and Belarus (just like *Mužyckaja Praŭda*), but they do not emphasize ethnic differences.

2. All three are adapted to their readership in terms of the language (Polish or Belarusian) employed and the type of statements made.

(a) Both Polish-language publications are aimed at the nobility and town-dwellers in Lithuania and Belarus; they propagate democratic values in a moderate tone, and proclaim the ideas of freedom and the traditions of the Polish-Lithuanian Commonwealth, and the struggle in defence of Western civilisation.

(b) *Mužyckaja Praŭda* is addressed to the peasants and deals with issues that are important for their environment (land and levy);

3. All three publications are similar in their approach to social issues and democratic programme expressed in Kalinoŭski's final message: «Everybody is equal».

# СТАРАВЕРЫ БЕЛАРУСІ Ў ПАЎСТАНЬНІ 1863−1864 гг. І Ў БЕЛАРУСКІМ НАЦЫЯТВОРЧЫМ ПРАЦЭСЕ ДРУГОЙ ПАЛОВЫ XIX ст.

## *Спроба гістарычнай і этналягічнай рэканструкцыі*

*Уладзіслаў Іваноў,*
*мгр. гіст. навук*
*(Вільня)*

Паўстаньне 1863–1864 гг. справакавала ня толькі рэакцыю царызму на беларускіх землях, а перадусім нацыятворчыя працэсы, якія запозьнена (на агульнаэўрапейскім тле), але ж прывялі да фармаваньня беларускай нацыі. Вельмі цікавай у гэтым рэчышчы зьяўляецца этналягічная і гістарычная рэканструкцыя і аналіз этнаграфічна-статыстычных дадзеных XIX ст., датычных беларускага стараверства. З аднога боку, старaверы – расейскія прыбышы альбо прыбышы з Масковіі, а таму ворагі ідэі ВКЛ і адданыя праваднікі расейскасьці. Зь іншага боку, гнаныя з Масковіі і знайшоўшыя прытулак на беларускіх землях, многія стараверы інтэграваліся, нават асыміляваліся з беларусамі. І падчас паўстаньня 1863–1864 гг. ня ўсе старaверы падтрымлівалі царызм. Статыстычныя, публіцыстычныя і этнаграфічныя зьвесткі XIX ст. ілюструюць гэтую двухсэнсоўнасьць ролі старавераў Беларусі. У дадатак, статыстыка, а потым і Першы ўсеагульны перапіс Расейскай імпэрыі 1897 г. засьведчылі пэўную беларусізацыю старавераў, іх актыўны ўдзел у беларускім нацыятворчым працэсе.

Прынцыповыя зьмены ролі стараверства ў Расейскай імпэрыі адбываліся ў 60-я гг. XIX ст. Калі раней старaверы прынцыпова трымалі дыстанцыю і пазьбягалі кантактаў з любой уладай, асабліва з расейскай, то дзякуючы часткова міратворчаму рэфармаваньню

і ўлагодненьню цара Аляксандра II (скасаваньне прыгону, дазвол стараверам уступаць у гільдыі купцоў, афіцыялізацыя і рэгістрацыя стараверскіх шлюбаў, дазвол на будаўніцтва стараверскіх бажніцаў і г. д.) пэўныя суполкі старaверства (перадусім, *федасееўцы*[1]) пайшлі на актыўнае зьбліжэньне з былой радзімай. У радыкальнай форме яно часам ператваралася ў адзінаверства[2]. Цар з антыхрыста раптам ператварыўся ў выратоўцу, былыя хаўрусьнікі – паны і нобілі – станавіліся ворагамі.

Але адразу пазначым, што ня ўсе стараверы пайшлі на зьбліжэньне. Так, стараверы-папоўцы[3] захоўвалі засьцярогу, нэўтралітэт і працягвалі дэманізаваць цара і царызм. Таксама ня ўсе стараверы-паморцы[4], якія знаходзіліся ў пэўным ідэйным канфлікце з федасееўцамі датычна пытаньняў шлюбу, станоўча ўспрынялі ўлагоду з боку царызму. Спроба навязаць адзінаверства, схіліць старавераў да праваслаўя, забарона да 1883 г. будаваць свае бажніцы часта пакідалі старавераў варожымі да ўладаў і цара.

Трэба заўсёды помніць, што няма адзінага старaверства на-

---

1 Федасееўцы – кансэрватыўная плынь у старaверстве, якая выказвалася за бязшлюбнасьць, была перакананая ў татальнай сапсаванасьці расейскай дзяржавы, верыла ў хуткі наступ царства антыхрыста і адмаўлялася маліцца за цара. На сёньняшні дзень у Беларусі фэдасееўцы амаль асыміляваліся ў іншыя суполкі старaверства (паморства перадусім) ці ў беларускі масыў (заўвага аўт.).

2 Адзінаверства – плынь у старaверстве (іншыя назвы: «новыя дабраслаўленцы» і «царкоўныя стараверы»), якая захоўвае старыя рэлігійныя даніканаўскія традыцыі, але тым не менш прызнае гіерархічную юрысдыкцыю Маскоўскага патрыярхату (заўвага аўт.).

3 Папоўства – адна з дзьвюх асноўных плыняў старaверства, якая прызнае таінства сьвятарства (у адрозьненьне ад беспапоўцаў, што бачна ў самой назве суполкі) (заўвага аўт.).

4 Паморцы ці паморы – адно з буйнейшых адгалінаваньняў у старaверстве, якое ня мае трохчыннай гіерархіі, гэта значыць набажэнствы і таемствы (хрост, споведзь) зьдзяйсьняюцца прыхаджанамі, то бок духоўнымі настаўнікамі (заўвага аўт.).

агул, так і стараверства Беларусі. Існавалі некалькі досыць адрозных плыняў (*паморцы, фэдасееўцы, беглапапоўцы ці папоўцы, адзінаверцы*). Канфлікты ўнутры гэтых плыняў вельмі часта перашкаджалі зьбліжэньню і зьліцьцю ў нейкае адзінае стараверства, а таму вонкавыя назіраньні і амальгамныя ўяўленьні аб адзіным стараверстве памылковыя. Хаця ў беларускай мастацкай і гістарычнай літаратуры дамінуе пераважна адмоўны, варожы адзіны вобраз старавера, маскаля: «пятая калёна», «прадаўцы», «здаўцы інсургентаў»[5], «злыдні»[6], «чужынцы»[7], «іншыя», «нетутэйшыя»[8]. Таксама зачастую нашыя дасьледнікі спасылаюцца на другарадныя, вельмі заангажаваныя, а таму сумнеўна-навуковыя расейскія і беларускія дасьледаваньні, якія прапагуюць вобраз старавера-носьбіта расейскай культуры і мовы на службе царызму, абаронцы «рускай ідэі», зацятага беларусафоба і палякафоба, «рускі элемэнт»[9]. І тут мы знаходзімся ў пазыцыі прызнаньня нібыта адвечнай і нязьменнай рускасьці, беларускасьці, польскасьці і г. д., тады як у XIX ст. нельга трактаваць старавераў, беларусаў ды расейцаў праз прызму сучаснага нацыяразуменьня.

Пры гэтым этнаграфічныя дасьледаваньні, этналягічная рэканструкцыя, магчымая на аснове этнаграфічнага і статыстычнага матэрыялу, дэманструюць ужо ў XIX ст. зусім супрацьлеглыя тэн-

---

5 Яўмененка В. «Пятая калона» ў 1863 годзе. Рэжым доступу: http://www.arche.by/by/page/print/11626. Дата доступу: 1.09.2014 г.

6 Вальтар В. Леснікова сена // Выбраныя творы. Менск, 2009. С. 80–82.

7 Доўнар-Запольскі М. Гісторыя Беларусі. Менск, 1994. С. 222.

8 Алексеев А. По Западной Двине и Днепру в Белоруссии. Москва, 1974. С. 42; Татаринов Ю. Путешествие в Сарью. Минск, 1999. С. 39–40.

9 Бендин А. Польско-шляхетский террор и список его жертв во время польского восстания 1863–1864 гг., Рэжым доступу: http://zapadrus.su/bibli/arhbib/781-polsko-shlyakhetskij-terror-i-spisok-ego-zhertv-vo-vremya-polskogo-vosstaniya-1863-1864-g-g.html. Дата доступу: 21.10.2014; Сигма Г. О национализме. Рэжым доступу: http://www.genocide.ru /lib/bhelp/i/i-72-nationalism.html. Дата доступу: 11.09.2014 г.

дэнцыі апісанаму мастацкімі і публіцыстычнымі сродкамі. Можна казаць пра працэс мяшаньня, асыміляцыі стараверства ў беларускі масыў яшчэ да паўстаньня 1863–1864 гг. і актыўнага беларускага нацыябудаўнічага працэсу. На гэты шлях стала частка мясцовага стараверства (пераважна паморцы і папоўцы)[10]. І гэтыя тэндэнцыі йдуць у разрэз з стэрэатыпам, які падае агулам старавера на беларускіх землях XIX ст. як «пятую калёну» ці «рускі элемэнт».

Варта пазначыць, што тэма стараверства почасту выкарыстоўваецца зыдэалягізаванымі дыскурсамі ў сваіх мэтах. Іншая скрайнасьць праяўляецца ў тым, што беларуская гістарычная і этналягічная навука амаль цалкам ігнаруе гэтую праблему, не інтэгруе старaверскую тэму ў сваё поле інтарэсаў і дасьледаваньняў. Мясцовая гуманістыка часта моўчкі згаджаецца з расейскай этналёгіяй, якая ўважае стараверства за расейскі субэтнас[11].

Абапіраючыся на сацыялягічныя, мовазнаўчыя дасьледаваньні, а таксама на ўласныя этналягічныя напрацоўкі, схіляюся да думкі,

---

[10] Сементовский А. Этнографический обзор Витебской губернии. СПб., 1872; Сементовский А. Памятная книжка Витебской губернии на 1864 год. СПб., 1864; Сапунов А. Витебская старина. Т. 1. Витебск, 1883; Никифоровский Н. Очерки простонародного жития-бытья в Витебской Белоруссии и описание предметов обиходности. Витебск, 1895; Маркс М. Записки старика // Віцебскі сшытак. 1995, № 1; Горбачевский И. Лепельский уезд Витебской губернии. Витебск, 1895; Аникиевич К. Сенненский уезд Могилевской губернии. Могилев, 1907; Поташенко Г. Староверие в Литве: вторая половина XVII – начало XIX вв. Исследования, документы и материалы. Вильнюс: Aidai, 2006; Грек-Побисова И. Язык как свидетельство изменений в жизни старообрядцев после поселения в Польше // Acta Baltico-Slavica. 21. Warszawa, 1992; Короткая Т. П., Прокошипа Е. С., Чудникова А. А. Старообрядчество в Беларуси. Минск, 1992; *Іваноў У.* Пра беларускі ўплыў на віцебскіх *стараевераў // Палітычная сфера. 2008, № 10.*

[11] Пивнева Е. Работа Института этнологии и антропологии Российской академии наук в 2000 г. // Этнографическое обозрение. 2001, № 4; Бендин А. Польско-шляхетский террор…

што стараверства ў Беларусі здаўна стала **беларускім стараверствам,** і з XIX ст. многія суполкі і групы старавераў разьвіваліся на мяжы расейскасьці і беларускасьці. Стараверства ня ў межах Расеі і тым больш ва ўмовах роднакрэўнасьці, блізкасьці не заўсёды захоўвала расейскасьць, а таму нельга сьцьвярджаць, што ўсё стараверства – расейскі субэтнас. Па-за межамі Расеі многія стараверскія суполкі інтэграваліся ў мясцовае насельніцтва і прынялі ўдзел у нацыятворчых працэсах іншых краінаў (Летува, Польшча, Беларусь і г. д.)[12].

Такім парадкам, першым пунктам дасьледаваньня зьяўляецца высьвятленьне ролі стараверства ў паўстаньні Кастуся Каліноўскага. Яна была неадназначнай: ворагі і праваднікі ўсяго расейскага з аднога боку, зь іншага – апалітычныя стараверы, а часам і прыхільнікі змаганьня з царызмам, якія «пакрыўдзіў» старавераў у мінулым.

Пра пэўную інверсію шмат пішуць летувісы[13], французы[14], ра-

---

[12] Первая всеобщая перепись населения Витебской губернии. Тетрадь 1. СПб., 1899; Первая всеобщая перепись населения Витебской губернии. Тетрадь 2. СПб., 1901. Таблица 13; *Іваноў У.* Эвалюцыя тоеснасці і культуры *старавераў* паўночнай Беларусі: канец XIX –пачатак XXI стст. // Палітычная сфера. 2010, № 14; Заварина А. Русское население восточной Латвии во второй половине XIX – начале XX века. Рига, 1986; Поташенко Г. Русские староверы Польши и Литвы в 1920–1930-х гг. (по материалам старообрядческой печати). Рэжым доступу: http://www.russianresources.lt/archive/Mater/Potash.html. Дата доступу: 11.09.2014 г.; Поташенко Г. Староверы Литвы: вехи истории (вторая половина XVII – начало XXI вв.). Часть 1. Рэжым доступу: http://samstar-biblio.ucoz.ru/publ/52-1-0-74. Дата доступу: 10.10.2014 г.

[13] Praspaliauskiene R. Women on Margins in Europe: 16$^{th}$–20$^{th}$ Centuries. Рэжым доступу: http://web.ceu.hu/crc/Syllabi/alumni/gender/praspaliauskiene.html. Дата доступу: 11.09.2014; Поташенко Г. Староверие в Литве...

[14] Yvan Leclère. De la sédentarisation des nomades : Le cas des Vieux-Croyants du Nord-Ouest du début du XIX-ième siècle à la mort de Staline. Рэжым доступу: http://koebel.pagesperso-orange.fr/ActesI&E/AXE3/leclere.html.

сейцы[15], толькі не беларусы. Зьвяртаецца ўвага на тое, што ў першай палове XIX ст. беларускія староверы працягваюць трактаваць цара як антыхрыста, але ў самым пачатку другой паловы стагодзьдзя, калі на столец узыходзіць Аляксандар II, які скасоўвае прыгон, прымае некаторыя законы на карысьць стараавераў, пэўныя староверскія сагласы[16] радыкальна мяняюцца і пачынаюць апраўдваць былога «ката-цара» і варожа трактаваць агрэсавасьць былых хаўрусьнікаў – польска-беларуска-летувіскіх нобіляў і шляхту. Дадзеная тэма слаба агучаная ў беларускай гісторыі. Сапраўды, у навуцы і публіцыстыцы вядзе рэй думка аб тым, што царызм знайшоў сваіх праваднікоў на землях былога ВКЛ, якімі сталі староверы, прыбышы з Масковіі, а значыць, захавальнікі (стара) расейскасьці.

Сутычкі і канфлікты падчас паўстаньня паміж староверамі і паўстанцамі былі частыя. Часта таксама апісваецца, як староверы (пераважна, *федасееўцы*) здавалі інсургентаў, а паўстанцы ў адказ вынішчалі стараавераў-калябарантаў на іх хутарах (у Летуве і Беларусі), альбо як мясцовая шляхта ў помсту за каляба-

Дата доступу: 1.08.2014 г.; Ibidem. Les Vieux-Croyants dans l'Estonie de l'entre-deux-guerres. Рэжым доступу: http://ipr.univ-paris1.fr/spip.php?article85. Дата доступу: 1.08.2014 г.; Ibidem. Naissance d'une nation? Les vieux-croyants du gouvernement général de Vilnius face au soulèvement lituano-polonais de 1863. Рэжым доступу: http://ipr.univ-paris1.fr/spip.php?article206. Дата доступу: 1.08.2014 г.

[15] Долбилов М. Русский край, чужая вера: Этноконфессиональная политика империи в Литве и Белоруссии при Александре II. Москва, 2010.

[16] Саглас – суполка, сэкта, плынь, кірунак (пераважна рэлігійны). Зазвычай гэты панятак ужываецца ў дачыненьні да стараавераў. Гістарычна склаліся некалькі дзясяткаў староверскіх сагласаў (папоўцы і беспапоўцы; у межах беспапоўскай культуры існуе цэлы шэраг большых і дробных сагласаў: паморцы, фэдасееўцы, філіпаўцы, нетаўцы ды інш.). У Беларусі бальшыня стараавераў належыць да беспапоўскага паморскага (ад 20 да 50 тыс. прыхільнікаў) і папоўскага сагласаў (няма зьвестак пра колькасьць) (заўвага аўт.).

рацыю адмаўляла працягваць арэнду шматлікім staраверскім сем’ям (на захадзе Віцебскай губерні)[17]. У выніку сотні сем’яў апыналіся бяз дому. Сацыяльны канфлікт станавіўся, такім парадкам, часткова нацыянальным і рэлігійным. Пры гэтым варта пазначыць, што многія стараверы, як і беларускія сяляне, якія вылоўлівалі інсургентаў, насамрэч паўставалі супраць паноў і сьвятароў. Гэта была нагода адпомсьціць багатым, заможным, уладным, «эксплёататарам», так бы мовіць[18]. Зрэшты, ня ўся шляхта салідарызавалася з паўстанцамі. Так, Уладзімер Васькоў у дасьледаваньні каталіцтва Панізоўя і Севершчыны даводзіў, што мясцовая шляхта не падтрымлівала паўстаньня і хутчэй дэманстравала вернападданніцкія настроі[19].

Тым ня менш, ня варта гэтыя факты абагульняць і перабольшваць. Ня ўсе стараверы сталі на бок царызму. *Федасееўцы* як найбольш радыкальная групоўка старавераў на беларускіх землях хісталіся ад татальнага ігнараваньня былой радзімы да нечаканага шанаваньня пасьля пэўных саступак цара. Менавіта *федасееўцы* праявілі актыўную падтрымку царызму падчас паўстаньня. Іншыя сагласы не праявілі падобнага імпэту.

Па-першае, пэўныя *беспапоўскія* і *папоўскія* сагласы працягвалі крытыкаваць цара і выказвалі падчас паўстаньня своеасаблівы нэўтралітэт. Веданьне спецыфікі стараверскіх сагласаў Беларусі ў XIX ст. вядзе да дакладнага разуменьня агульнай карціны *свае/чужыя* ў той перыяд гісторыі. Значная частка стараверства за-

---

[17] Брежго Б. Очерки по истории крестьянских движений в Латгалии 1507–1907 гг. Рига, 1956; Заварина А. Русское население восточной Латвии…; Yvan Leclère. Naissance d’une nation? Les vieux-croyants du gouvernement général de Vilnius…

[18] Брежго Б. Очерки по истории крестьянских движений...; Yvan Leclère. Naissance d’une nation? Les vieux-croyants du gouvernement général de Vilnius…

[19] Васькоў У. Каталікі на абшарах Панізоўя і Севершчыны. Менск: Pro Christo, 2010. С. 6–9.

ставалася нэўтральнай у такім вялікім сацыяльным канфлікце як паўстаньне 1863 г. З аднога боку, мы маем справу з «фэдасееўскай здрадай», калі пэўныя сагласы стараверства зьмянілі важныя ідэалягічныя арыентыры і сталі на бок царызму, з другога – назіраем млявую, інэрцыйную і часта нэўтральную большасьць стараверства, якая станавілася аб'ектам падзеяў.

Па-другое, варта адкінуць выключна нацыянальнае вымярэньне канфлікту. Многія беларускія і летувіскія сяляне былі адарваныя ад паўстанцаў, ад шляхты і нобіляў, якія жадалі пазбавіцца царскай апекі. Напрыклад, сяляне-нестараверы Магілёўскай і Віцебскай губерняў часта здавалі інсургентаў уладам, што дэманструе адсутнасьць нейкай агульнабеларускай ці агульнапольскай салідарнасьці. То бок, на першае месца выходзіць зноў клясавасьць канфлікту, што сталася слабінай і адной з прычынаў паразы паўстаньня.

Той факт, што паўстаньне ня стала агульным, а ахапіла пераважна шляхту, не зьдзіўляе, бо ўсе тагачасныя паўстаньні ў Эўропе ня мелі салідарызаванасьці паміж усімі пластамі аднога грамадзтва. Ня толькі тагачаснае сялянства Беларусі ці Летувы, але і скандынаўскае, французкае сялянства атаясамляла сябе перадусім з лякальным і не заўсёды ці зусім не лічыла сябе французкім ці нарвэскім або швэдзкім.

Адсутнічала салідарызаванасьць паміж прадстаўнікамі (сялянамі, шляхтай, месьцічамі) адной нацыі, тым больш такой рэлігійна, ідэалягічна разьяднанай, аморфнай, несфармаванай ці ў стане фармаваньня, як беларуская. Адсутнічала самое разуменьне адзінай нацыі, бо не было дзяржавы перадусім. Якраз хаатычныя, непасьлядоўныя ўдзелы пэўнай часткі мясцовага стараверства нароўні з беларускім сялянствам у лоўлі інсургентаў сьведчаць аб тым, што сувязі паміж усімі пластамі аднога грамадзтва адсутнічалі ці былі слабымі. Гэта дае падставы зыдэалягізаваным заходнерусацэнтрычным гісторыкам кшталту Бэндзіна цьвердзіць аб «небеларускасьці» Каліноўскага і «шляхецкім тэрору» падчас паўстаньня.

Апэраваньне паняткамі «беларускае» і «рускае» ў той момант было ня проста зыдэалягізаваным, але і штучным. Самыя беларускія сяляне не ўжывалі панятку «беларускі», пры гэтым застаючыся беларускімі па сутнасьці. Ініцыятыва называньня гэтага народу была аддадзеная цэнтру, імпэрыі. Гісторыкі кшталту Бэндзіна разглядаюць працэс адносінаў беларусы – расейцы праз прызму нібыта роўнасьці, а, насамрэч, першапачатковай прыгнечанасьці і падпарадкаванасьці беларусаў. Пры гэтым апэраваньне паняткам «расейскі» ці «рускі» ў дачыненьні да старавераў Беларусі XIX ст. таксама некарэктнае, бо нельга называць мінулае сучаснымі назвамі. Зыдэалягізаваныя гісторыкі сьмела дазваляюць сабе парушаць межы гісторыі, надаваць учорашняму сучасныя рысы. Так, стараверы, якія ўцяклі з Масковіі, малююцца імі як адвечны «рускі элемэнт», як заўсёдашнія расейцы. Але гэта не адпавядае рэчаіснасьці. Фантазмы зыдэалягізаваных гісторыкаў лёгка і безупынку разьбіваюцца такімі працэсамі, як мяшаньне і асыміляцыя, якія, дарэчы, адлюстроўваюцца ня толькі ў шматлікіх апісаньнях этнографаў і вандроўнікаў XIX ст. Яны прысутныя таксама ў статыстыцы[20], дзе зафіксаваныя дадзеныя, якія руйнуюць ці ставяць пад сумнеў цьверджаньні расейскацэнтрычных, заходнерускіх мысьляроў і ідэолягаў.

Па-трэцяе, удзел старавераў у паўстаньні на баку інсургентаў ці іх нэйтралітэт часта цалкам ігнаруюцца. Стараверства трактуецца, як актыўны варожы, антыбеларускі элемэнт[21]. Але ж пэўная, няхай і меншая ці нават мінарытарная частка старавераў Беларусі трапіла ў інсургенцкі, прашляхецкі лягер. У сьпісах удзельнікаў паўстаньня

---

[20] Первая всеобщая перепись населения Витебской губернии. Тетрадь 1. СПб., 1899, а таксама: Первая всеобщая перепись населения Витебской губернии. Тетрадь 2. СПб., 1901. Таблица 13; Сементовский А. Памятная книжка Витебской губернии на 1864 год. СПб., 1864.

[21] Яўмененка В. «Пятая калона» ў 1863 годзе.; Вальтар В. «Леснікова сена». С. 80–82; Доўнар-Запольскі М. Гісторыя Беларусі. С. 222; Васькоў У. Каталікі на абшарах Панізоўя і Севершчыны...

1863–1864 гг. мы знаходзім ня толькі польскія, беларускія ці летувіскія прозьвішчы-імёны, але і жыдоўскія і рускія[22]. Да ўсяго, сучасныя гісторыкі і археографы на аснове аналізу архіваў і фотаматэрыялаў таго часу даводзяць пра наяўнасьць рускага – па ўсёй верагоднасьці, стараверскага – элемэнту сярод паўстанцаў 1863–1864 гг.[23]

Пры гэтым ня варта забывацца на антыраскольніцкую палітыку архіяпіскапа Полацкага Васіля, які не заўсёды – і тым меней у часы паўстаньня – прытрымліваўся лініі Сіноду[24]. Калі ўлады паступова мякчэлі ў дачыненьні да старавераў, архіяпіскап у час паўстаньня нагадваў Сіноду і царскаму ўраду пра «асаблівую варожасьць віцебскіх раскольнікаў абодвух палоў»[25].

З усяго гэтага вынікае, што староверы тагачаснай Віцебшчыны хутчэй працягвалі варожа ставіцца да ўладаў і Праваслаўнай царквы, якія яны па-ранейшаму трактавалі, як *«змийное или мурашное гнездо и истое сатанино или бесов его прескверное дверище»*[26]. Пэўныя праявы стараверскай салідарнасьці з царызмам, на якія зьвяртаюць увагу гісторыкі і этнографы, неабходна ўспрымаць як выключэньні ці проста прыватныя акты. Зрэшты, этнаграфічны матэрыял таго часу паказвае, што нярэдка стараверска-беларускія стасункі разьвіваліся інтэнсіўна і мірна ў рэчышчы мяшаньня, спантаннай акультурацыі. Іх мова, звычкі, норавы, заняткі паступова

---

[22] Сводный список участников восстания 1863–1864 гг. Рэжым доступу: http://kdkv.narod.ru/1864/Spis-A.htm. Дата доступу: 31.10.2014 г.

[23] Янушкевіч К., Янушкевіч Я. Партрэты паўстаньня, фотаальбом. Ракаў, 2014; Матвейчык Д. Паўстанне 1863–1864. Крыніцы з Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі // Архівы і справаводства. 2013, № 1. С. 66–77.

[24] Собрание постановлений по части раскола. СПб., 1858. С. 689–690.

[25] Тамсама.

[26] Краткое обозрение существующих в России расколов, ересей и сект, как в религиозном, так и в политическом их значении. Составил Липранди (1853 г.). Лейпциг, 1883. С. 57.

мяшаліся, зьліваліся, што таксама сьведчыць аб бесканфліктнасьці ў стасунках значнай часткі старавераў з беларусамі[27].

Неабходна ўспрымаць паўстаньне 1863–1864 гг. як важны надлом, разрэз, штуршок у кагорце іншых (паўстаньне 1830 г., скасаваньне прыгону, індустрыялізацыя) да фармаваньня як беларускай, так і расейскай нацыі. Стараверы ў сэрыі гэтых надломаў і ў залежнасьці ад ступені інтэграванасьці і асыміляцыі траплялі то на адзін, то на другі бок нацыястварэньня. Якраз на прыкладзе старавераў, прыбышоў з Масковіі, але стаўшых у выніку мяшаньня і інтэграцыі цалкам тубыльскім насельніцтвам, бачны не прыроджаны характар народнасьці, нацыі, а сацыяльны, набыты, канструяваны. Мясцовае стараверства заўсёды знаходзілася на мяжы расейшчыны і беларушчыны. Яно спалучала гэтыя дзьве мадэлі, а часам пры палітычным імпэрскім уплыве адхіляла адну мадэль на карысьць другой.

Другім пунктам зьяўляецца рэвізія і аналіз ролі старавераў у беларускім нацыятворчым працэсе другой паловы XIX ст., актываваным якраз паўстаньнем 1863 г. Праз асыміляцыю і гістарычную інтэграцыю ў беларускую традыцыйную супольнасьць многія стараверы разьвіваліся і фармаваліся разам з беларусамі і разам зь імі склалі неадымную частку будучай беларускай нацыі. Такім чынам, пэўная частка беларускіх старавераў натуральна ўвайшла ў склад беларускай нацыі ў момант яе канчатковага фармаваньня. Гэта можа падацца дзіўным і складаным, але беларуская нацыя сфармавалася ў XIX ст. насупор палітыцы русіфікацыі імпэрскага рэжыму, і ў працэс стварэньня нацыі беларусы зацягнулі пэўную колькасьць прадстаўнікоў некаторых іншых этнічных супольнасьцяў.

---

[27] Сементовский А. Этнографический обзор Витебской губернии...; Сементовский А. Памятная книжка Витебской губернии на 1864 год.; Сапунов А. Витебская старина. Т. 1; Никифоровский Н. Очерки простонародного жития-бытья в Витебской Белоруссии...; Горбачевский И. Лепельский уезд Витебской губернии; Аникиевич К. Сенненский уезд Могилевской губернии.

Этналягічная рэканструкцыя праз аналіз этнаграфічных працаў Нікіфароўскага, Анікевіча, Маркса, а таксама статыстыкі XIX ст.[28] дазваляе цьвердзіць, што частка старавераў Беларусі XIX ст. (ад 10 да 18%) інтэгравалася ў беларускі этнас і ўвайшла ў беларускую нацыю. Назвы, якія мы сустракаем у канцы XIX ст. у працах этнографаў і статыстаў – *старообрядцы-белорусы, белорусы-староверы, витебские староверы-белорусы* – не памылкі ці недакладнасьці, як лічыў, напрыклад, Яўхім Карскі[29], а пазьней Антаніна Заварына[30], а якраз сьведчаньне тых самых працэсаў мяшаньня і інтэграцыі старавества ў беларускі масыў. Зрэшты, гэтая тэндэнцыя ахоплівала ня толькі старавераў Беларусі. Так, у нядоднакрэўнай Латвіі, часам сустракалася ў канцы XIX ст. інфармацыя пра *латышоў-старавераў*[31].

Асьцярожны і крытычны зварот да дадзеных Першага перапісу насельніцтва Расейскай імпэрыі дае нам цікавыя лічбы: 18–20% старавераў г. Віцебску, 45% старавераў Невельскага ўезду, 80% старавераў Вяліжскага ўезду, наагул каля 22 % усіх старавераў Віцебскай губерні прызналі беларускую мову роднай[32]. Нават калі мы прызнаем хібнасьць арганізацыі Першага перапісу насельніцтва і перакрут ягоных вынікаў, усё адно тэндэнцыя да

[28] Первая всеобщая перепись населения Витебской губернии. Тетрадь 1; Первая всеобщая перепись населения Витебской губернии. Тетрадь 2. Таблица 13; Сементовский А. Этнографический обзор Витебской губернии.; Сементовский А. Памятная книжка Витебской губернии на 1864 год; Сапунов А. Витебская старина. Т. 1; Никифоровский Н. Очерки простонародного жития-бытья в Витебской Белоруссии...; Маркс М. Записки старика...; Iwaniec E. Z dziejów staroobrzędowców na ziemiach polskich XVII–XX w. Warszawa, 1977.

[29] Карский Е. Этнографическая карта белорусского племени. Пгр., 1917.

[30] Заварина А. Русское население восточной Латвии…

[31] Тамсама.

[32] Первая всеобщая перепись населения Витебской губернии. Тетрадь 1; Первая всеобщая перепись населения Витебской губернии. Тетрадь 2. Таблица 13.

мяшаньня і пэўнай беларусізацыі стараверства ў XIX ст. ахопленая і апісаная шматлікімі тагачаснымі дасьледнікамі.

Такім парадкам, стараверскае вымярэньне паўстаньня 1863–1864 гг. разбурае адназначныя падыходы ў трактаваньні канфлікту і дазваляе паставіць пытаньні, якія не зусім зручныя для нацыяльных гістарычных падыходаў (летувіскага, беларускага і расейскага). У час, калі беларусы і летувісы ня сталіся яшчэ нацыяй, у цэнтры паўстаньня ляжала не нацыянальная (альбо ня толькі яна) кампанента, а клясавая, сацыяльная і рэлігійная, што і абумовіла паразу паўстаньня. Аднак гэтая спроба, асабліва дзейнасьць і пасланьні Кастуся Каліноўскага, істотна актывавалі нацыятворчыя працэсы ў Беларусі і спрыялі завяршэньню фармаваньня беларускай нацыі, у склад якой увайшлі прадстаўнікі іншых нацыяў і народаў (палякі, цыганы, стараверы, жыды, расейцы, латгалы). Часам наўпрасткі самое паўстаньне, а таксама рэакцыя на яго і царская палітыка прыгнёту і перашкодаў у дачыненьні да беларускага нацыянальнага і культурнага руху радыкальна зьмянілі і актывавалі працэсы мяшаньня небеларускага насельніцтва з беларускім і выклікалі новыя, часам нечаканыя ўладамі вынікі (мяшаньне стараверства з беларусамі, латышамі і літоўцамі).

У выніку, незважаючы на ўсе інфармацыйныя, адміністрацыйныя і ідэалягічныя рэсурсы імпэрыі (русіфікатарскую палітыку царызму ў Беларусі), на спробу задзейнічаць гэтак званы «рускі элемэнт» (старавераў перадусім) з мэтай паслабіць культурны і нацыянальны беларускі рух, у канцы XIX ст. завяршылася фармаваньне беларускай нацыі. Гэтаму спрыяла лёгіка эканамічнага разьвіцьця ў Расейскай імпэрыі, менавіта частковая урбанізацыя, індустрыялізацыя, зьяўленьне школ, прэсы і г. д. А яшчэ раней гэтаму паспрыяла паўстаньне 1863 г., якое сталася цалкам натуральным выбухам незадаволенасьці пэўнай часткі беларуска-летувіска-польскай шляхты станам доступу да рэсурсу ўлады і вырашэньня сацыяльна-эканамічных, а перадусім ідэалягічных пытаньняў і праектаў.

# The Role of Old Believers in the Uprising of 1863–64 and the Belarusian Nation-building Process in the Second Half of the 19th Century

## *Towards a historical and ethnographical reconstruction*

*Uladzislaŭ Ivanoŭ*
*Viĺnia*

Any consideration of the role played by Old Believers in the uprising of 1863–64 raises questions that can be somewhat difficult for historians to deal with if they strive to analyse the conflict in strictly national (Lithuanian, Belarusian, Russian) terms. At a time when Belarusians and Lithuanians had not yet formed political nations, the origins of the Uprising are to be sought more in questions of social class and religious allegiance, rather than in national yearnings. Questions of class and religion were ultimately the factors that ensured the defeat of the Uprising. Even so, the part played by Kalinoŭski through his military actions and his writings was a significant element in the nation-building process, bringing together a number of different peoples and groupings (Poles, Roma, Old Believers, Jews, Russians and Latgalians) into the nascent Belarusian nation.

In the aftermath of the Uprising Tsarist policies were aimed at obstructing in every possible way the development of a Belarusian national and cultural movement. However, these policies yielded results that were at times quite unintended. The processes whereby Belarusians were merging with non-Belarusians – specifically, Old Believers with Belarusians, Latvians and Lithuanians – changed radically: they actually speeded up (see the work of scholars such as Ja. Karski, E. Iwaniec, A. Zavarina and U. Ivanoŭ, as well as the First General Census of the Viciebsk Province [1897]).

The Russian Empire had at its disposal vast informational, administrative and propaganda resources – notably the Russification policy in Belarus and the authorities' readiness to play the so-called «Russian card» (i.e. the Old Believers) in order to weaken the resurgence of Belarusian national awareness. Nevertheless, by the end of the 19th century the nation-building process in Belarus had been completed. The development of capitalism in the Russian Empire as a whole – with its attendant features of urbanisation, industrialisation, schooling and the press – undoubtedly contributed a great deal to this process.

Even so, the process had been accelerated much earlier by the Uprising of 1863 – an explosion of dissatisfaction among certain sections of the Belarusian, Lithuanian and Polish gentry classes at the lack of access to positions of real power in the Empire and their consequent inability to contribute to a solution of pressing social, economic and national problems.

# КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ І ПАЎСТАНЬНЕ 1863–1864 гг. У АЙЧЫННЫМ І ЭЎРАПЕЙСКІМ ФОТАЛЕТАПІСЕ

*Каміля Янушкевіч,*
*Язэп Янушкевіч,*
*канд. філал. навук (Менск)*

Напачатку XXI стагоддзя даводзіцца канстатаваць, што гісторыя беларускай фатаграфікі пазамінулага XIX ст. не напісаная і не раскрытая аніякім чынам. Гэта асабліва ўражвае на фоне гісторыі айчыннай архітэктуры, жывапісу і інш., ня кажучы пра няблага вывучаныя гісторыі беларускай літаратуры й мовы, дзе налічваюцца сотні дасьледаваньняў.

Адзін з магчымых момантаў такога занядбаньня крыецца ў тым, што на бальшыні ацалелых фотаадбіткаў стагодзьдзя Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Францішка Багушэвіча, Кастуся Каліноўскага, Рамуальда Траўгута, Ігнася Грынявіцкага захаваліся абрысы «не тых герояў». Пад савецкай акупацыяй яны блага ўкладаліся ў канцэпцыю адміраньня беларускай мовы і пабудовы адзінай «савецкай нацыі». Наогул, належыць памятаць, што XIX ст. – гэта таксама стагодзьдзе Джузэпе Гарыбальдзі, Шымана Канарскага, Адама Міцкевіча. У тыя паднявольныя часы сам факт перахоўваньня твораў і фотаадбіткаў правадыроў нацыянальна-вызвольных рухаў пагражаў для жыхароў «Паўночна-Заходняга Краю» высылкай «у нялюдзкую зямлю». Таму не дзіўна, што першая «ілюстраваная энцыклапедыя» пра Кастуся Каліноўскага паўстала толькі напрыканцы 1980-х гадоў, у часы «галоснасьці»[1].

[1] Драчоў П., Янушкевіч Я. Адданы сын Бацькаўшчыны // Бярозка. 1988. № 2.

Наогул жа касінеры Каліноўскага, Траўгута і Мацкявічуса, будучы асьвечанымі сучасьнікамі, адразу па гарачых сьлядах узяліся пісаць мемуары-успаміны (амаль стоадсоткава на польскай мове)[2]. Прытым некаторыя зь іх сабралі й прапанавалі адмысловы багаты фотапартрэтны матэрыял[3]. Аднак праз сваю іншамоўнасьць і «антысаветызм» дадзеныя каштоўныя крыніцы ў падсавецкай гістарычнай навуцы замоўчваліся і не папулярызаваліся, доступ да іх быў абмежаваны. Іх пераклад – справа бліжэйшай будучыні.

Так супала, што канец 1850 х – пачатак 1860-х пазначаны не толькі ўздымам рэвалюцыйнага руху на акупаваных Расейскай імперыяй абшарах Беларусі-Літвы, Польшчы й Украіны, але й паўсюдным пашырэньнем фатаграфічнага мастацтва.

Як грыбы пасьля дажджу, падхопленыя ўзьвейным подыхам адкрыцьця Луі Дагера[4], на нашых землях порстка пачалі ўзьнікаць фотамайстэрні (фотаатэлье). Найперш яны зьявіліся ў Менску (Эмэрыка Адамовіча, Казімера Бжэскага, Якуба Брафмана, Альфонса Дэльпасцэ, Антося Прушынскага), у Гародні (І. Штумана, Э. Менцэля), у Віцебску (Серабрына) й Магілёве (братоў Прасольных)[5]. Нават «заштатны» Дзьвінск меў пазьней свайго фотамайстра Юльляна Лукоўскага[6].

---

2 Giller A. Historja powstania narodu polskiego w 1861–1864 r. Paryż, 1867; яго ж: Z wygnania. Lwów, 1870. 2 tomy; Czernik W. Pamiętniki weterana 1864 r. Wilno, 1914.

3 Gieysztor J. Pamiętniki z lat 1857–1865. Wilno, 1913. T. 1–2. У абодвух тамах пададзена каля 110 здымкаў; Kowalewska Z. Ze wspomnień wygnańca z r. 1863 [Apolinarego Świętorzeckiego]. Wilno, 1911; 87 фотаздымкаў.

4 Дакладней, Дагер працягнуў дасьледаваньні свайго памерлага суайчыньніка-вынаходніка Жозэфа Ньепса. Самы раньні ацалелы фотаадбітак апошняга датуецца 1826 г., а ў Дагера толькі канцом 1830-х гг.

5 Гарбачова В. Фотаздымак як крыніца па гісторыі паўстання 1863 г. // Кастусь Каліноўскі і яго эпоха ў дакументах і культурнай традыцыі. Матэр. міжнар. навуковай канферэнцыі. Менск, 25 верасня 2009 г. / Рэд. А. Смалянчук. Менск: Беларускае гістарычнае таварыства, 2011. С. 93–102.

6 Muzeum Wojska Polskiego (MWP). Сігнатура 4113\1476.

Эканоміка дыктавала сваё. Фотасправа сталася не толькі «модным», але й прыбытковым заняткам. Традыцыя персанальнага й сямейнага фатапартрэта становіцца досыць распаўсюджанай зьявай на беларуска-літоўскіх прасторах.

Што да нашай Вільні, якая працягвала выконваць ролю праўдзівага культурнага цэнтру цэлага Краю, колькасьць такіх фотамайстэрняў не нашмат адставала ад сталічных – маскоўскіх і пецярбургскіх. На той час у Вільні адкрылася амаль паўтара дзесятка фотасалонаў Джузэпе Ахіла Эльвіра Банольдзі (1821–1871)[7], Вальдэмара Борхарта, Абдона Карзона (каля 1826–1865)[8], Альбэрта Сваўкоўскага, Прывальскага і Рамке, Івана Трутнева і К. Бржазоўскага, Аколава (дзейнічала пад кіраўніцтвам мастака Аляксандра Страўса), а таксама фотамайстэрні Яна Бржазоўскага і А. Страўса, А. Друэ і Лявіцкага ды інш. Характэрна, што амаль усе яны прайшлі праз судова-вайсковыя справы, заведзеныя на іх падчас паўстаньня 1863–1864 гг. Часам дастаткова было мець у атэлье «крамольны» антураж у выглядзе крэсла з «Арлом-Пагоняй», каб падпасьці пад крымінальную справу. Трагічныя лёсы некаторых піянераў фотасправы становяцца вядомымі праз стагодзьдзі[9].

Што да тэматыкі паўстаньня, то найбольшая колькасьць фактычнага матэрыялу захоўваецца ў архівах Летувы і Польшчы. У першай гэта Дзяржаўны гістарычны архіў Летувы, дзе амаль у некранутым выглядзе ацалеў *«Архіў музея графа М. М. Мураўёва»*. Зборы ягоныя налічваюць каля 600 фотаздымкаў перыяду 60-х гадоў XIX – пачатку XX ст.

[7] Паходжаньнем італьянец, Ахіл слынуў не толькі як фатограф, але быў вядомы як настаўнік сьпеваў, танцмайстар, сьпявак і... рэвалюцыянер.

[8] У архіўных матэрыялах «*Корзун*». Віленскі фатограф належаў да Правінцыянальнага літоўскага камітэту. Падчас арышту здрадзіў роднага брата паўстанца Брунона Карзона, а таксама выдаў увесь вядомы яму склад кіраўніцтва. Сасланы ў Сібір, памёр на выгнаньні (Apolonia z Dalewskich Sierakowska. Wspomnienia / Opracowanie Jolanta Sikorska-Kulesza, Tamara Bairašauskaitė. Warszawa 2010. S. 235).

[9] Гарбачова В. Фотаздымак як крыніца па гісторыі паўстання...

Менавіта ў ім знаходзіцца неаднатаваны фотаздымак русявага дзецюка, з пазнакай алоўкам на адвароце «*К. Каліноўскі*», які, паводле Вольгі Гарбачовай, «*вельмі падобны на К. Каліноўскага*». Такім чынам, нам прапаноўваецца «трэці фотапартрэт» правадыра паўстаньня.

Сапраўды, побач з адзначаным здымкам[10] знаходзяцца выявы паўстанцаў Людвіка Звяждоўскага, Ігнася Здановіча, Зыгмуся Сераkoўскага, Аляксандра Скірмунта, Баляслава Свентаржэцкага, Багуслава Семірадскага, Альфрэда Ромэра, Браніслава Залескага, Ціта Далеўскага, графа Лявося Плятэра, Эдуарда Чыжэўскага і інш.[11] Аднак навукова пацьвердзіць (або адкінуць) гіпотэзу адносна «трэцяга фотаздымка Каліноўскага» можа толькі належная судовая экспертыза. Нагадаем, што ўжо аднойчы гісторыкі-каліноўсказнаўцы прамахнуліся – памылкова прыпісаўшы правадыру нацыянальна-вызвольнага супраціву фатаграфію паўстанца са стрэльбай-ружжом[12].

Мы зьвярнуліся з адпаведнай заявай (07.03.2014) у галоўнае кіраваньне крыміналістычных экспертызаў Дзяржаўнага камітэта судовых экспертызаў у Менску.

У якасьці матэрыялу на экспертызу былі аддадзеныя тры фотаздымкі:

1) здымак Ахілеса Банольдзі (Каліноўскі ў поўны рост) (Ілюстр. 1);

2) фотаздымак пагрудны (з чорным гальштукам) (Ілюстр. 2);

3) здымак асобы, якую В. Гарбачова лічыць «вельмі падобнай» да Каліноўскага (Ілюстр. 3).

Цікава, што розьніца ва ўзросьце асобаў на здымках, зробленых прыкладна ў адзін час (перад паўстаньнем), у апісаньні эксперта-крыміналіста вызначаецца ў дзесятак (і больш!) гадоў:

---

[10] Дзяржаўны гістарычны архіў Летувы (ДГАЛ). Ф. 439, воп. 1, ад. з. 147. Арк. 126.

[11] Гл.: Ілюстрацыі да зборніка матэрыялаў канферэнцыі «Кастусь Каліноўскі і яго эпоха ў дакументах і культурнай традыцыі…» (2011).

[12] Гл.: Смирнов А. Кастусь Калиновский. Москва, 1959. С. 64.



*Ілюстр. 1. Фотаздымак К. Каліноўскага, выкананы Ахілесам Банольдзі з паметкамі эксперта.*



*Ілюстр. 2. Фотаздымак К. Каліноўскага з паметкамі эксперта.*

Фотаздымак № 1. «*…На здымку выяўлены мужчына ў поўны рост. Мужчына – антрапалагічнага тыпу еўрапеоід, узрост на выгляд –* ***каля 35 гадоў****. Галава яго павернутая да аб'ектыву левым*

*паўпрофілем. У мужчыны цёмныя валасы. На твары ў мужчыны маецца расьліннасьць у выглядзе вусаў і барады цёмнага колеру…»;*

*«Фотаздымак № 2 чорна-белы, прастакутнай формы. На здымку пагрудным мужчына... антрапалагічнага тыпу еўрапеоід, узрост на выгляд – **каля 30-ці гадоў**. Ракурс здымка – блізкі да анфаснага. У мужчыны цёмныя валасы…»;*

*«Фотаздымак № 3, чорна-белы, прастакутнай формы. На здымку захаваны мужчына ў поўны рост. Мужчына – антрапалагічнага тыпу еўрапеоід, узрост на выгляд – **каля 20 гадоў**. Галава ў яго павернутая да аб'ектыву левым паўпрофілем. У мужчыны цёмныя валасы…».*




*Ілюстр. 3. Фотаздымак асобы, «падобнай на Каліноўскага», з фонду Музея графа М. Мураўёва з паметкамі эксперта.*

Выснова крыміналістычнай экспертызы наступная: «*1. На фотаздымках № 1 і № 2 выяўлены адзін і той жа чалавек.*

*2. Вырашыць пытанне пра тое, ці не зьяўляецца чалавек на фотаздымку № 3 тым самым чалавекам, што і на фотаздымках №№ 1 і 2, не ўяўляецца магчымым»*[13].

[13] Экспертны дакумент у асабістым архіве аўтараў. Параўнальнае дасьледаваньне праводзілася мэтадам візуальнага супастаўленьня прыкметаў,

Апошняя няпэўнасьць – нібыта з прычыны нездавальняючай якасьці прапанаванага фотаздымка. Але – што важна на дадзеным этапе – станоўчага адказу пра падабенства таксама няма. Таму «пытальнік», пастаўлены нейкім мураўёўскім падручным, застаецца, пакідаючы прастору для розных версіяў. Напрыклад, можна выказаць меркаваньне, што на здымку мы бачым старэйшага брата Кастуся Віктара Каліноўскага.

Разгледжаны «пытальнік» на адвароце паўстанцкага фотаздымка – адзін з нешматлікіх прыкладаў, якія толькі заблытвае справу. Большасьць падпісаных паўстанцкіх фотакартак нясуць у сабе найкаштоўнейшую інфармацыю, якой не знойдзеш і на дзесятках архіўных аркушаў:

«*Дмитрий Базанов, отставной юнкер Староингермандского полка. Отобрано от мятежника в шайке Нарбута*»[14];

«*Вельчинский – по показанию пленных, бывший поручик русской службы, а в шайке капитан (ранен, в плену и доставлен в крепость)*»[15];

«*Ксендз Александрович. Начальник Новоалександровского уезда, член Революционной организации. – 1864*»[16];

«*Доктор Мечислав Оттонович Глиндзич – Начальник Волковыского уезда, член Революционной организации. – 1864. Mieczysław Glindzicz*»[17].

Калі пра праваслаўнага Зьмітра ***Базанава*** з Гарадзеншчыны (найбліжэйшага паплечніка Кастуся Каліноўскага) або каталіцкага сьвятара ***Александровіча*** ў гістарычных дасьледаваньнях можна

дзе ўсяго ўлічана 17 парамэтраў – ад унутранага позірку вачэй і ажно да мочкі вуха.

[14] ДГАЛ. Ф. 439, воп. 1, ад.з. 148. Арк. 25–25 адв. Тое ж самае, як пад пратакольную капірку, «*Отобрано от мятежников в шайке Нарбута*», прадублявана на адвароце фотаздымку безыменнага Ясевіча. (Тамсама. Арк. 30–30 адв.).

[15] Тамсама. Арк. 33–33 адв.

[16] Тамсама. Арк. 40–40 адв.

[17] Тамсама. Арк. 41–41 адв.

адшукаць нейкія зьвесткі, дык пра **Вяльчынскага** ці **Гліндзіча** няма аніякіх. Зрэшты, усе названыя персаналіі цалкам адсутнічаюць у айчыннай «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі», што яшчэ раз пераконвае, наколькі дадзены шасьцітомнік «энцыклапедычны» і «гістарычны». А калі насур'ёз, дык перад айчыннымі гісторыкамі ў поўны рост паўстае неабходнасьць глыбокага асэнсаваньня тагачасных падзеяў і капітальнага энцыклапедычнага выданьня, прысьвечанага паўстаньню 1863–1864 гг.

Часам подпіс пад фотаздымкам сваёй лапідарнасьцю й скупой інфармацыйнасьцю цягне на раманныя калізіі. «*Памешчыца Ванда Белíковіч Віцеб[ская] губ. Фотакартка знойдзена ў труне ейнага мужа. Заплаціла ка́ры 300 руб.*»[18] Кароткая анатацыя з-пад жандарскай рукі спараджае рэфлексію: «Дзе вы, айчынныя раманісты!!! Караткевічы й Сянкевічы! Драматургі! Шэкспіры й Аляхновічы! За разьвітальны жэст каханьня акупанты без жалю адмералі грашовую кару вартасьцю гадавога прыбытку невялікага маёнтка...» (Турэмны наглядчык у 1863-м атрымаў за год у Менскай турме 285 рублёў. А ўтрыманьне паняволеных інсургентаў у 1863 г. у менскім турэмным замку каштавала 7 кап. штодня. Палітычныя «злачынцы» і тады абыходзіліся для ўлады даражэй – 10 кап.)[19]. Апратка, у якой сфатаграфавалася ўдава нябожчыка-паўстанца, тыповая для жанчыны ў жалобных строях, забароненых генералам Мураўёвым.

Хто ж быў ейны муж, яшчэ належыць высьветліць. Адзначым толькі, што ў картатэцы Музэя Войска Польскага ў Варшаве анатаваны здымак безыменнага Беліковіча: «*Bielikowicz – zamordowany w więzieniu w Witebsku*» («Беліковіч — закатаваны ў турме ў Віцебску»)[20]. Гэта, бясспрэчна, і ёсьць муж Ванды. У выданьні «Партрэты паўстаньня» яны й закампанаваныя побач, на развароце альбому[21].

---

[18] Тамсама. Арк. 36–36 адв.

[19] Інф. Зьмітра Дразда.

[20] Muzeum Wojska Polskiego (MWP). Сігнатура 27929/47. Zbiór Zarewicza. $4^{0}$ - 20/47. Fot. S. Victor. Paryż.

[21] Янушкевіч Каміла, Янушкевіч Язэп. Партрэты Паўстаньня. Ракаў, 2014. С. 52–53.

Апроч архіваў Варшавы й Вільні[22], найбольш плённымі для будучых дасьледаваньняў бачацца расейскія архівы. І не толькі традыцыйныя Масквы-Пецярбургу, але далёкіх «сібірска-іркуцкіх» земляў – месцаў выгнаньня й высылкі тысячаў нашых суайчыньнікаў. Сібірскія архівасховішчы па-ранейшаму застаюцца недасьледаванымі нашымі гісторыкамі. Архівы ж Беларусі ў гэтых адносінах значна бяднейшыя з прычыны канфіскацыяў, высылак або перасылкі распачатых судовых справаў у Вільню ці Пецярбург.

Ня менш плённым бачыцца пошук парэшткаў ацалелых сямейных збораў. У іх і сёньня нас чакаюць сенсацыйныя знаходкі. Так, праўдзівай сенсацыяй стала віленская фотавыстава здымкаў магната з Валожыншчыны Бенедыкта Тышкевіча (1852–1935) з 86 фотаадбіткаў з відарысамі нашых абшараў і партрэтамі жыхароў Беларусі-Літвы, якія захоўваюцца ў Музэі фатаграфіі Нісефора Ньепса ў Францыі[23].

Для Беларусі пакуль што адзіным такім «сямейным» альбомам, цалкам захаваным і ў адносна добрым стане, зьяўляецца «Альбом» паэта й паўстанца Францішка Багушэвіча[24]. А на вокладцы альбома «Партрэты паўстаньня» выкарыстаны невядомы фотаздымак нацыянальна-патрыятычнага асяродку ліцьвінаў у Пецярбургу (на чале з Эдвардам Жалігоўскім і Зыгмунтам Серакоўскім), які захаваўся ў родавым архіве Фалевічаў (Варшава).

Матэрыялы гэтага дакладу (як фотададатак) былі выкарыстаныя падчас сакавіцкай канфэрэнцыі ў Лондане (2014) у якасьці фотавыставы – наглядная разгорнутай панарамы абліччаў змагароў «*За нашу і вашу свабоду*» (усяго каля 100 фотавыяваў). Сабраныя ў тым альбоме фотапартрэты – першае ў гісторыі айчыннага фотамастацтва альбомнае выданьне з такімі багатымі відарысамі. Тут

---

[22] У Летуве й Польшчы ў 1920–1930-я гг. праводзіўся адмысловы збор фотаматэрыялаў, зьвязаных з паўстаньнем.

[23] Раманюк Д. Фатограф граф Тышкевіч // Наша Ніва. 1999. № 34.

[24] Зберагаецца ў фондах Дзяржаўнага гістарычнага музея ў Менску. Здымкі з яго выкарыстоўваліся ў альбоме «Францішак Бенядзікт Багушэвіч: Жыццё і творчасць» (Склад. У. Содаль і Е. Мацюш. Мінск, 1986.).

пададзена звыш 180 фотаабліччаў нашых суайчыньнікаў пераважна змагарнага XIX ст., а таксама паплечнікаў з суседніх народаў Латвіі, Летувы, Польшчы, Украіны.

Здымкі адлюстроўваюць моцныя і глыбокія пачуцьці гонару за сябе як грамадзяніна краіны, хай сабе й пазбаўленай афіцыйнага існаваньня на мапах Эўропы. Амаль усе аблічча на фотаздымках цалкам перадаюць настрой карцін «Сармацкага партрэту» і стылю рамантызму. У момант пазіраваньня ў фотаатэльле нашчадкі грамадзянаў Вялікага Княства Літоўскага хацелі быць такімі ж героямі для сваёй Радзімы і застацца назаўжды ў памяці сваіх продкаў, як і іх дзяды на палотнах мастакоў.

Разглядаючы сямейныя партрэты паўстанцаў «Шляхецкі род Багушэвічаў», «Сільвестар, Язэп і Гэлена Барановічы», «Бацян», «Мечыслаў Тукала з жонкай», партрэты Далеўскіх, Серакоўскіх, Ямантаў і шмат-шмат іншых, мы бачым перад сабою найкультурнейшых і адданейшых прадстаўнікоў нашай Радзімы. Соль зямлі, высыпаную ў вагонь Паўстаньня… Хоць дасюль яшчэ невядомыя аблічча большасьці слынных герояў-змагароў, палеглых за Айчыну: Ігнася Будзіловіча (расстраляны ў Воршы 9 верасьня 1863 г.), Тамаша Грыневіча (расстраляны ў Рагачове 13 ліпеня 1863 г.), Яна Жмачынскага[25] і сотні іншых.

Узіраючыся ў фотаадбіткі паўстанцаў, належыць таксама памятаць, што іх героі ўжо шмат пражылі. Бязвусыя дзецюкі парабіліся барадатымі катаржнікамі. У позірках сібірскіх ссыльных зусім іншая настраёвасць.

…Кожнаму з нас хочацца адшукаць свайго продка на гэтых сотнях здымкаў, заўважыць хоць нейкае візуальнае падабенства ў рысах абліччаў, зразумець, што перажывалі яны, перш чым адышлі

[25] Жмачынскі расстраляны ў Менску 5 жніўня 1863 г.. Калі Яся з астрога вялі на пакараньне, з вакна сваёй камеры Каміла Марцінкевічанка кінула яму пад ногі букет кветак (Гл.: Кісялёў Г. Сейбіты вечнага: Артыкулы пра беларускіх пісьменнікаў і дзеячаў рэвалюцыйнага руху 1863 года. Мінск, 1963. С. 173).

на Неба, напоўніцу адпакутаваўшы тут і не страціўшы надзеі, што *«адно з праўдай у грамадзе згодна дажджэш, Народзе, старасьці свабодна»*[26].

## Kastuś Kalinoŭski and the 1863–1864 Uprising in Photographs

*Kamila Januškievič, Jazep Januškievič*
*Miensk*

Amazingly, even now – when we are well into the 21st century – the history of 19th-century Belarusian photography has still to be written. By contrast the history of Belarusian architecture, painting, literature and language has been well documented in hundreds of studies.

One possible reason for this neglect lies in the fact that most surviving photographs of the 19th century – the century of Kastuś Kalinoŭski, Ramuald Traugutt and Ihnat Hryniavicki – depict the 'wrong' heroes, heroes whose glorification does not fit the concept of a dying Belarusian language and the establishment of a single Soviet Nation. However, we should not forget that the 19th century was also the century of Giuseppe Garibaldi, Szymon Konarski, and Adam Mickiewicz. In times of foreign occupation, simply storing works and photographs of the leaders of national liberation movements were threats to one's livelihood, and even life. Residents of the North-Western Region of the Russian Empire who stored these works faced Siberian exile or even death.

The end of the 1850s and the beginning of the 1860s witnessed not only an awakening of a revolutionary movement on the Russian-occupied lands of Belarus-Lithuania, Poland and Ukraine, but also the beginning of the extensive use of photography.

Most of these photographs are stored in the archives of Lithuania and Poland. The Lithuanian State Archive includes all the materials held in the Archive of the Museum of Count Muraviov, containing some 600 photographs ranging from the 1860s to the beginning of the 20th century. This archive includes an

[26] За нашую вольнасць. Творы, дакументы / Уклад., прадм., паслясл. і камент. Г. Кісялёва – Мінск: Беларускі кнігазбор, 1999. С. 45.

unsigned photograph with *K. Kalinoŭski* written in pencil on the back, which, according to Professor Volha Harbačova, closely resembles Kalinoŭski. In order to shed light on the case the authors contacted forensic experts in Miensk. They scrutinised three photographs mounted on card:

1) A photograph made by Achilles Banoldi (a full length portrait);
2) A bust image of Kalinoŭski (with black tie);
3) A photograph which Prof. Harbačova considers might be of Kalinoŭski.

The results of the forensic examination were:

1) Photographs 1 and 2 depict the same person.
2) It is not possible to state with absolute certainty that the person depicted on photograph 3 is the same individual as the one shown on pictures 1 and 2.

This uncertainty is attributable to the unsatisfactory quality of the photograph. There is therefore no definitive answer as to who the person is, leaving the way open to further conjecture.

Apart from Polish and Lithuanian archives, the most fruitful sources for subsequent studies in search of Kalinoŭski are Russian archives, especially remote archives from Siberia and the Irkutsk region – places of exile for thousands of Kalinoŭski's Belarusian compatriots.

In addition, what is left of family archives of the time may reveal some more evidence of what Kalinoŭski actually looked like.

The material of this report was used in a March 2014 conference held in London, exhibiting around 100 photographs from the period of the Uprising.

# РЫФМУЮЦЦА КАСТУСЬ І БЕЛАРУСЬ: СТВАРЭНЬНЕ ГЕРОЯ Ў ПРАЦЭСЕ НАЦЫЯТВОРЧАСЬЦІ

*Ірына Дубянецкая,*
*докт. сакр. тэалёгіі,*
*докт. філязофіі (Менск)*

Пасьля стагоддзяў дэфармацыі нацыятворчыя працэсы адбываліся ў беларусаў пазьней, марудней і менш усеабдымна, чым у іншых народаў Эўропы. Калі буйныя эўрапэйскія народы прайшлі праз гэткія працэсы і сфармавалі нацыянальныя дзяржавы да канца XIX ст., выкшталтавалі іх у войнах і дыпляматыі цягам XX ст. і «перарасьлі» нацыянальныя формы ў канцы XX і пачатку XXI стст., то ў Беларусі працэсы нацыянальнага фармаваньня не завяршыліся й дагэтуль.

На ідэнтычнасьць народу і на яго волю да дзяржаўнага самакіраваньня ў вялікай ступені ўплывае інтэрпрэтацыя яго гісторыі, якая праз пасярэдніцтва культуры і школьнай адукацыі замацоўваецца ў масавай сьвядомасьці.

Літаратура адыгрывае бадай найбольшую ролю ў фармаваньні папулярнага вобразу гістарычных падзей і асоб. Гэтыя вобразы набываюць сваё ўласнае жыцьцё й характар, не абавязкова падобныя да жыцьця й характару сваіх прататыпаў. Калі вобраз стаецца асабліва сугучным сацыяльным працэсам свайго часу, яго запатрабаванасьць расьце і ён натхняе новых аўтараў на новыя ўвасабленьні, якія, у сваю чаргу, яшчэ больш умацоўваюць ня толькі папулярнасьць героя-прататыпу, але й ягоную новую – літаратурную, па-сутнасьці ўжо легендарную – асобу.

У беларускай літаратуры (гэтаксама як і ў беларускай культуры наогул) гэткую нацыяфэрмэнтавальную функцыю з найбольшым посьпехам выконваў вобраз героя паўстаньня 1863–1864 гг. Касту-

ся Каліноўскага. Літаратурная інтэрпрэтацыя як самога героя, гэтаксама й сутнасьці паўстаньня супадае з уяўленьнямі пра Кастуся Каліноўскага і паўстаньне ў масавай сьвядомасьці, бо яна ж і паўплывала на іх фармаваньне.

Ніводзін з пэрсанажаў тысячагадовае пісанае беларускае гісторыі не ўвасабляўся ў літаратуры гэтак шматкротна і з гэткім аднадушным захапленьнем, як Кастусь Каліноўскі. Цікава, што гэтага нельга сказаць пра гістарычную падзею, з якою асацыяваны Каліноўскі, г. зн., пра паўстаньне. Яно таксама мае велізарную папулярнасьць і больш-менш сугалосную інтэрпрэтацыю ў літаратуры, аднак саступае ў колькасьці ўвасабленьняў падзеям XX ст., найперш Другой сусьветнай вайне. Аднак з паасобных герояў нацыянальнае гісторыі Каліноўскі далёка пераўзыходзіць усіх у папулярнасьці й непахісна пазітыўным успрыняцьці.

Рэдка які беларускі літаратар не дадаў фарбаў да арэолу героя. Асабліва справядліва гэта ў дачыненьні да паэзіі, дзе шматкроць паўтораная рыфма «Кастусь – Беларусь» магутным пражэктарам высьвечвае абранасьць Каліноўскага на пасад народнага ўлюбёнца[1].

[1] Поўнага каталёгу літаратурных тэкстаў, прысьвечаных паўстаньню і асабіста Кастусю Каліноўскаму няма і, відаць, пакуль ня можа быць, бо, па-першае, узьнікаюць новыя творы, і ня толькі паэтычныя ці празаічныя, але й музычныя, у т. л. з тэкстамі, напісанымі для пэўных музычных праектаў. Па-другое, сабраць усе публікацыі, якія аднаразова зьяўляліся ў пэрыёдыках за апошняе стагоддзе, уяўляецца надзвычай складанай задачаю. Дзеля прыкладу літаратурных падборак твораў, прысьвечаных Каліноўскаму, гл. калекцыю «Кастусь Каліноўскі і літаратура» на сайце: http://www.vilnia.com/library/default.asp?newsId=3; падборку на сайце «Сьвіслацкія аркушы»: http://arkushy.by/kalinouski/museum/kalinouski/index.htm; а таксама кнігу вершаў, прысьвечаных Каліноўскаму, укладзеную Язэпам Янушкевічам да 150-годзьдзя паўстаньня 1863–1864 гадоў і 175-годзьдзя з дня нараджэньня Кастуся Каліноўскага, *Тварам да шыбеніцы. Кастусь Каліноўскі і Паўстаньне 1863–1864 гадоў у беларускай і летувіскай паэзіі. Анталогія і ўкладаньне Я. Янушкевіча* (Ракаў, 2013).

Так, Міхась Машара ў паэме «Сьмерць Кастуся Каліноўскага» (1934) гэтаю неаднаразова паўторанаю рыфмай лучыць Каліноўскага з лёсам Беларусі, але й адначасна ўзвышае яго над краінаю, якая ня здолела ўзьняцца на ягоны покліч:

На суд, на зьдзек, на глум крывавы!
На суд апошні йдзём, Кастусь!
Алтар дыміцца – трэ' ахвяры,
За сонны грэх твой, Беларусь[2].

Такім чынам, Каліноўскі сьвядома прыносіць сябе ў ахвяру, аднак падзякі ці хоць якое рэакцыі не атрымлівае, бо краіна знаходзіцца ў купалавым «салодкім магільным сьне», што «сьмяецца сьвету ўсяму ў вочы».

І зьгінуў ён – ахвярны і вялікі,
Пад шум таўпы і бубна гук
Павіс – змагар Кастусь.
І з тых ніхто ня чуў, каго ён клікаў,
Ў апошні час сьмяротных мук, –
Бо спала Беларусь[3].

Магчыма, гэта самы раньні прыклад, дзе вобраз Каліноўскага набывае эвангельскае гучаньне, аднак біблійныя і рэлігійныя алюзіі гучаць у вершах пра яго з зайздросным пастаянствам. Можа, гэта й ня самы тонкі літаратурны прыём, аднак безумоўна вельмі эфэктыўны, бо прамаўляе наўпрост да калектыўнай сьвядомасьці, у якой рэлігійны, міталягічны й культавы складнікі маюць велізарнае значэньне. Актывізаваць гэтыя складнікі азначае ўзьдзейнічаць на масавую сьвядомасьць.

Наогул, вобраз Кастуся прадстаўлены ў беларускай паэзіі ў надзвычай шырокім спэктры герояслоўя ад рамантычна-трагічнага

---

[2] Машара М. Сьмерць Кастуся Каліноўскага. Поэма: У 70-тыя ўгодкі яго сьмерці (1864–1934). Вільня, 1934.

[3] Машара М. Кастусь Каліноўскі. Паэма // Мая азёрная краіна. Мінск, 1962.

юнака з пранізьліва-балючым лёсам да нябёснага героя-дэміурга, якога славяць хоры анёльскія і якому моляцца зямныя натоўпы.

Кароткая фармулёўка літаратурнага Кастуся Каліноўскага будзе прыкладна такой: мужны, сумленны, пасьлядоўны юнак, высакародны заступнік усіх простых людзей, непахісны змагар за сацыяльную роўнасьць і справядлівасьць, перакананы абаронца беларускіх інтарэсаў, як перад кастамольнай расейскай імпэрскай машынай, так і перад «рэчпаспалітнымі» калегаміпаўстанцамі, якія бачылі Беларусь неад’емнаю часткаю старое (і новае!) Польшчы. Пры гэтым сам Кастусь Каліноўскі тонкі, сьветлы і чысты, поўны неспатоленага каханьня да дзяўчыны і магутнае палымянае любові да свае зямлі й свайго народу, верны ў сяброўстве, непахісны ў ідэях, лідар, за якога людзі гатовыя аддаць свае жыцьці.

Беларусь табе паверыла –
За табой пайшла змагацца[4].

Гэтак піша ў 1925 г. Алесь Дудар (верш «Кастусь Каліноўскі»). І водгульлем яму:

Беларусь Кастусю паверыла –
І пайшоў на паўстаньне Кастусь[5].

Юркі Лявоннага з верша з такою самаю назвай 1928 г.

Сувязь Кастуся Каліноўскага з Беларусьсю ёсьць ня толькі асноўнай тэмаю паэтычнага герояслоўя, але й падставаю для яго. Цікава, што самы раньні вядомы тэкст пра Каліноўскага датуецца яшчэ часам паўстаньня, 1863 годам. Народная паўстанцкая песьня «Лётае арол» сталася вядомаю ў апрацоўцы Міколы Шчаглова-Куліковіча. Найбольш верагодна, што гэта аўтарскі тэкст, магчыма, пачатку XX ст., але які ўсё з тых жа нацыятворчых прычын

[4] Дудар А. Кастусь Каліноўскі // Душа мая тужлівая. Сярэбраныя галасы: Вершы і паэмы. Укладанне В. Шніпа. Мінск, 2005.

[5] Лявонны Ю. Кастусь Каліноўскі // Магілёўскі селянін. 1928, 29 сакавіка. С. 4.

хацелі выдаць за фальклёрны. У гэтай песьні Каліноўскі прадстае змагаром за Беларусь і пагрозаю ворагам Беларушчыны:

Лётае арол шызакрылы
Пад цёмнымі хмарамі.
Йдзе наш Кастусь, змагар наш народны
Зь сябрамі змагарамі.

Шыкуйцеся ж, варожыя каты,
Шалёныя ваўкалакі.
Йдзе беларус, змагар Каліноўскі
Сьцежкамі, лясамі[6].

Кастусь Каліноўскі застаецца адданым Беларусі да самага канца. І ягоныя апошнія словы, апошнія думкі, апошні ўздых прысьвечаныя ёй:

Беларусь, мая матуля, Беларусь, Беларусь,
Заквітней чароўнай краскай, паланіўшы абшар.
Ні пятлі, ні здраднай кулі не скарыўся твой Кастусь –
Касінер адвечны Яська, што з-пад Вільні гаспадар[7], –

гаворыць Каліноўскі ў вершы-песьні Сержука Сокалава-Воюша «Маналёг Кастуся Каліноўскага», напісанай у 1980-я гг. на новым вітку стваральнага пошуку маладымі беларусамі сваіх нацыянальных каранёў і культурнай ідэнтычнасьці.

Гераізацыя сьмерці Каліноўскага таксама вельмі паказальная. Магчыма, гэта адзіны выпадак у беларускай літаратуры масавага апяваньня сьмерці героя – пагатоў канкрэтнага гістарычнага пэрсанажа. Сама па сабе гэтая тэма тыповая для эўрапэйскай

[6] Арыгінал апрацоўкі захоўваецца ў некаталягізаваным архіве Міколы Куліковіча ў Скарынаўскай бібліятэцы ў Лёндане. Песьня была запісаная камэрным мужчынскім хорам «Унія» і ўвайшла ў кампакт-кружэлку 1998 г. «Беларускія маршы і песьні. Лірыка змаганьня». Гэта быў супольны праект хору і рэдакцыі газэты «Наша Ніва», прысьвечаны 80-м угодкам Беларускай Народнай Рэспублікі.

[7] Сокалаў-Воюш С. Кроў на сумётах. Вершы і паэма. Мінск, 1989. С. 53–54.

гераічнай эпікі, пачынаючы ад Гамэра. Аднак у беларускім прыгожым пісьменстве яна набыла размах толькі ў каліноўскіяне, уражваючы шматстайнасьцю вобразаў і культурных асацыяцый.

Язэп Падабед у вершы «Ён спіць» (1926) бачыць Каліноўскага пахаваным як легендарнага волата, над чыёй магілаю насыпаны курган:

Ён сьпіць пад насыпам кургана,
замёр у сэрцы бурны ўздым.
Злажыўшы бойкі зброю рана,
Ён сьпіць пад насыпам кургана.
Няма сягоньня атамана,
але аб ім зьвіняць гады:
– Ён сьпіць пад насыпам кургана,
злажыўшы зброю маладым[8].

Алесь Жамойцін, наадварот, перамяшчае сьмерць героя ў нябёсныя высі:

Сьветлы Кастусь, як апошняя зорка,
Зараз ужо згарыць…[9]

і падсумоўвае ўнікальнасьць падзеі для Беларусі:

У ГІСТОРЫЮ лёг Кастусь,
Больш ніхто ўжо не ляжа так[10].

Апяваньне сьмерці Каліноўскага беларускімі паэтамі мае і пэўнае эвангельскае гучаньне, найчасьцей амаль няўлоўнае, але прысутнае. Каліноўскі памірае, аддаючы сябе за іншых. У драме Ўладзіміра Караткевіча з красамоўнаю назваю «Кастусь Каліноўскі. Сьмерць і неўміручасьць», напісанай у 1963 г. на стагоддзе пачатку

[8] Падабед Я. Ён спіць // Наш працаўнік. 1926, 11 красавіка. С. 3.

[9] Жамойцін А. Змоўклі Лукішкі… Зь нізкі «Дудка між кайданаў». 1987 // Тварам да шыбеніцы. Кастусь Каліноўскі і Паўстаньне 1863–1864 гадоў у беларускай і летувіскай паэзіі. Анталогія і ўкладаньне Я. Янушкевіча. Ракаў, 2013. С. 100.

[10] Жамойцін А. Кастусь Каліноўскі. Паэма // Азірнуўшыся – не скамянею. Мінск, 1989. С. 19–29.

паўстаньня, Кастусь прамаўляе з шыбеніцы, нібы з крыжа, да ўсіх, дзеля каго ён ахвяраваў сваім жыцьцём:

Вялікі мой народ, зямля мая.
Гняздо пакут, змаганьня і свабоды,
Зямля маіх нябёс, маёй каханай,
Маіх сяброў, маёй сьпявучай мовы...
Я толькі што памёр. І ў гэты час
Аддаў табе, зямля, сябе самога,
Каб ведала, як я цябе люблю.
Аддаў азёрам – вочы, чуб – ільнам,
Сьмех – ручаінам, песьні – цёмным пушчам,
Закатам – кроў, мужыцкім бунтам – гнеў.
А душу – кожнаму з братоў сапраўдных,
Каб кожны меў хоць трохі ад мяне.
Што бачу я ўдалечыні? Пажары,
Паўстаньні, сечы, зарыва, нашэсьці.
Меч ворага амаль ля сэрца пройдзе,
Ты будзеш паміраць. Ды толькі ведай,
Бяссьмертны ты, як фэнікс, мой народ...[11]

Неўміручасьць Каліноўскага зьвязаная і з тым, што патрэба ў ім як у абаронцы зьнядоленых будзе столькі, колькі будзе на сьвеце панаваць несправядлівасьць. У вершы Алеся Бачылы «Думы Каліноўскага» (1970) Кастусь заяўляе:

Катам ня дам я спакою,
Я не памру і мёртвым[12].

У паэтычнай гераізацыі сьмерці, нават пятля, што здушыла Каліноўскага, ня проста згадваецца як прылада катаваньня й сьмерці, а сама міталягізуецца і пэрсаніфікуецца. І калі ў Генадзя Бураўкіна яна «няўмольна халоднай вужакай» (1977) абвівае ягоную

[11] Караткевіч У. Кастусь Каліноўскі. Смерць і неўміручасць. Трагедыя ў трох актах, трынаццаці карцінах // Збор твораў у 8 тамах. Т. 8. П’есы. Нарыс. Кніга 1. Мінск, 1990. С. 96–97.
[12] Бачыла А. Вершы. Мінск, 1974. С. 84–86.

шыю[13], то ў Янкі Сіпакова (1966) яна горка смуткуе, што ёй выпаў такі жахлівы лёс – адняць Кастусёва жыцьцё:

Нялёгка быць вераўчынай пятлёю
І чакаць тваёй шыі, хлопча…
Лепей з табою я звозіла б сноп'е, –
Калёсы аж квокчуць, а мы на возе…

Яна хацела б служыць яму хоць у жыцьці, хоць у пасьмерці:

А магла б я стаць і аборамі
Для лапцей тваіх. І з табой тады
Мы пайшлі б таптаць небасхілы
Гэтым вечным мужыцкім абуткам,
Гэтай вечнай мужыцкай праўдаю, –
І сьвятло б мы выкралі ў ночы…

І пятля праклінае сябе і сваю ганебную місыю:

Кляніце мяне, стагоддзі!
Кляніце,
Мяне кляніце!
Моц маю, людзі, кляніце![14]

Данута Бічэль-Загнетава называе адзін з сваіх вершаў «На пляцы Пятлі»[15], пераймяноўваючы славуты Лукішскі пляц, бо, маўляў, ніколі ніякая іншая падзея ня здолее для гэтага месца пераважыць значнасьці, велічы й трагізму страты Каліноўскага.

Яркае кароткае жыцьцё й трагічная сьмерць дадае да рамантычнасьці ягонага вобразу яшчэ й мэтафізычнай лёсавай лучнасьці з іншымі ўлюбёнцамі беларускае культуры, а змагарнасьць і «беларускасьць» узносяць яго на вяршыню нацыянальнага пантэёну, дзе ён ператвараецца ў магутную постаць, сфармаваную асабістай

[13] Бураўкін Г. Ленін думае пра Беларусь // Выбраныя творы ў 2-х т. Т. 2. Мінск, 1986.

[14] Сіпакоў Я. Пятля Кастуся Каліноўскага // 3 вясны ў лета. Мінск, 1972.

[15] Бічэль-Загнетава Д. На пляцы Пятлі // А на Палессі. Вершы і балады. Мінск, 1990; Яе ж. Вулка паўстаньня // Бічэль Д. Снапок. Мінск, 1999. С. 45.

і нацыянальнай трагедыяй. Ён той, хто сьвядома ахвяраваў сваім жыцьцём дзеля іншых і сваёй сьмерцю даў новае жыцьцё цэламу народу. Якраз таму ён заслугоўвае вечнае славы.

Хвала таму, хто вылецеў на волю,
Хвала таму, хто праўду ў сэрцы нёс,
Хвала таму, хто з пекла, з мукаў, з болю
У цёмных сілаў вырываў наш лёс[16]. –

пісала Ларыса Геніюш (1964) на сотыя ўгодкі сьмерці Кастуся Каліноўскага.

Гэтая слава ці, хутчэй, адзінадушнае паэтычнае славаслоўе і гераізацыя Каліноўскага часам канчаткова трансфармавала чалавечае аблічча героя, надаючы яму звышчалавечыя характарыстыкі. Так, Каліноўскі набывае аблічча прарока:

З агнём ў вачах, з душою брата,
На вуснах з клічам вызваленьня, –
Агорнен ўвесь агнём сумленьня
Ён з вёскі ў горад, з кузьні ў хату

Ішоў па землях беларускіх,
І, як прарок, прарочыў людзям –
Сваім братом, што шчасьце будзе…[17]

(*Алесь Гурло, верш «К. Каліноўскі», 1924*);

асілка, нябёснага героя:

З кім ты лётаў між хмар, з кім зямлю ты будзіў[18].

(*Максім Танк, паэма «Каліноўскі», 1938*);

Забуяніла ў полі рэхам:
– За мужычую праўду – ў бой!..

---

[16] Геніюш Л. Звычайны дзень, шляхі і раздарожжы // Невадам зь Нёмана. Мінск: Мастацкая літаратура, 1967.

[17] Гурло А. К. Каліноўскі // Тварам да шыбеніцы. Кастусь Каліноўскі і Паўстаньне 1863–1864 гадоў у беларускай і летувіскай паэзіі. С. 93.

[18] Танк М. Каліноўскі. Паэма // Збор твораў у 6 т. Т. 1. Мінск, 1978.

Не Ільля па хмары праехаў,
Не Пятро зазваніў булавой…[19]
*(Алесь Дудар, верш «Кастусь Каліноўскі», 1925)*;

Ня бура-пярун з бліскавіцай
Грукоча, грыміць над зямлёй, –
Над змучаным краем ірдзіцца
Народнае волі узьлёт.
….
Ня зьзяньне на небе вірue,
Ня сьвеціць на моры маяк, –
То сілай паўстанцаў кіруе
Кастусь Каліноўскі – ваяк.

Ён люду свайму і Радзіме
Здабыць хацеў шчасьця пару...
Яго легендарнае імя
Запомніць навек Беларусь.[20]
*(Янка Золак, верш «1863», 1946)*;

народнага сьвятога і патрыярха:

Лісты з-пад шыбеніцы піша наш сьвяты Каліноўскі,
Агеньчык кволы блішчыць з-пад турэмнае столі,
І не просты народ, рушыць вялікае войска,
Нам не патрэбны прыгнёт, нам трэба толькі...
Кожнаму беларусу мой запавет вельмі просты:
Усё залежыць ад нас, ідзем наперад, да мроі!
За Кастуся поўны келіх, да гары й без тостаў,
За Каліноўскага-бацьку, і Слава Героям![21]

*(Рэфрэн рэп-песьні 2009 г. «Слава героям!»,
аўтар і выканаўца Vinsent)*;

---

[19] Дудар А. Кастусь Каліноўскі // Сярэбраныя галасы. Душа мая тужлівая. Мінск, 2005.

[20] Золак Я. 1863 // Вятрыска з радзімай краіны. Мінск, 1996.

[21] Гл. аўтарскую інфармацыю на сайце: http://rap.by/media/audio/2010/02/18/vinsent-slava-geroyam. Тэкст песьні: http://myzlo.info/poisk/%D0%93%D0%B5%D1%80%D0%BE%D1%8F%D0%BC/1

Хрыста:

І сам, як Ісус Хрыстос,
празь пятлю ўзыходзіць на Неба…[22]
*(Алесь Чобат, паэма «Чорныя касінеры», 1992).*

Эвангельскі вобраз несправядлівага суду пракуратара Пілата над Ісусам як прататып і паралель з лёсам Каліноўскага ўжывае Міхась Машара ў паэме «Сьмерць Кастуся Каліноўскага» (1934):

Навокал ціш… а пракуратар
Прысуд чытае над таўпой…[23]

Хрысьціянскую, хаця й паза-біблейскую, тэрміналёгію ўжывае і Алесь Гурло. У ягоным вершы Каліноўскі выступае крыніцаю асноўных веравызнаўчых пастулятаў:

Героя памяць заўжды вечна,
Яго заветы – сымболь веры;
Народ шануе ўсё бязь меры,
Што жыцьцем поўна, чалавечна[24].
*(Алесь Гурло. «К. Каліноўскі», 1924)*

І ўрэшце, Каліноўскі набывае рысы боства, якому служаць анёлы нябёсныя:

Так плача й плача Беларусь,
І гэты плач пачуў Кастусь
І ў Божы Храм ва ўрочны час
Прыслаў з архангелам наказ[25].
*(Ніл Гілевіч, верш «Балада пра пасланьне ад Кастуся», 2002–2003).*

---

[22] Чобат А. Чорныя касінеры // Тварам да шыбеніцы. Кастусь Каліноўскі і Паўстаньне 1863–1864 гадоў у беларускай і летувіскай паэзіі. С. 154–156.

[23] Машара М. Сьмерць Кастуся Каліноўскага. Поэма: У 70-тыя ўгодкі яго сьмерці (1864–1934). Вільня, 1934.

[24] Гурло А. К. Каліноўскі // Тварам да шыбеніцы. Кастусь Каліноўскі і Паўстаньне 1863–1864 гадоў у беларускай і летувіскай паэзіі. С. 93.

[25] Гілевіч Н. Балада пра пасланьне ад Кастуся // Тварам да шыбеніцы. Кастусь Каліноўскі і Паўстаньне 1863–1864 гадоў у беларускай і летувіскай паэзіі. С. 92.

Гэты верш Ніла Гілевіча робіць алюзію яшчэ й на славутую біблейскую гісторыю з Кнігі Сыходу, дзе да Майсея з незгаральнага куста зьвяртаецца Бог і матывуе сваё жаданьне памяняць хаду чалавечае гісторыі спачуваньнем да прыгнечанага народу: *«Убачыў Я пакуты народу Майго ў Эгіпце і пачуў лямант ягоны ад бязьлітаснасьці наглядчыкаў ягоных». (гл. Сх 3:2–10)*.

Але й нават без абагаўленьня Каліноўскі паўстае ў беларускай паэзіі як універсальны абаронца пакрыўджаных і змагар з гвалтаўнікамі, трансцэндэнтны прасторы й часу. Так, падчас акупацыі Беларусі ў Другую сусьветную вайну, у 1943 г. Пятрусь Броўка стварыў вобраз новага Каліноўскага, які апекуецца сваім народам у гэтых трагічных акалічнасьцях:

На Беларусі
Па вёсках ідуць пагалоскі –
Зьявіўся Кастусь Каліноўскі.
…………………………..
Калі ён пачуе, як ворагі скачуць,
Калі ён пачуе сірочыя плачы
Ля рэчкі Бярозы, –
Душу яго сьлёзы
Запаляць.
І будзь ён пад Бугам
Ці далей дзе, можа,
Ён шабляй дастане да самай Бярозы,
Да сэрцаў варожых,
І коцяцца голавы катаў у лозы.
……………..
Прыходзяць дзяўчаты
Дахаты,
І плачуць яны, і сьпяваюць,
Той песьняй яго праслаўляюць,
Што ёсьць Каліноўскі на сьвеце,
Што ён ратаваў іх ад сьмерці[26].

[26] Броўка П. Кастусь Каліноўскі // Збор твораў у 7 т. Т. 2. Мінск, 1975.

Любую крытычную сытуацыю можна паспрабаваць разьвязаць з дапамогаю здані Каліноўскага. Так, Ніл Гілевіч (1996) папярэджвае «запраданцаў ды зноскаў»:

Прыйдзе час – Каліноўскі
Вас аднойчы падыме ўначы[27].

Новае тысячагоддзе не прынесла беларусам палёгкі. І драматычныя калізіі пачатку XXI ст. ізноў змушаюць паэтаў клікаць Каліноўскага на паратунак. Вось, Тацяна Сівец (2001) складае верш «Дзе ты, Кастусь Каліноўскі?»:

Хутка Радзіма голасам боскім
Зноўку пакліча: «Кастусь Каліноўскі!»
Шмат «абаронцаў», ды сэрцы іх з воску –
Дзе палымяны Кастусь Каліноўскі?[28]

Усё гэта непазьбежна творыць з Кастуся Каліноўскага нацыянальнага героя нумар адзін. Твор да твору, тэкст да тэксту, рэхам адно аднога, дадаюць дыямантаў у карону Каліноўскага-героя. І не істотна, наколькі адпавядае гэты бліскучы, велічны і адначасова кранальны вобраз ня толькі характару, але й жыцьцю гістарычнага прататыпу.

З гісторыі мы ведаем напэўна, што Кастусь Каліноўскі быў. Гэта рэальны ўдзельнік рэальных падзей з біяграфіяй і нават фотапартрэтам, зробленым у віленскай студыі ягоным паплечнікам з ня менш яркім лёсам, але не апетым паэтамі, Ахілам Банольдзі. А вось якім быў сам Каліноўскі, у што верыў, што і на якой мове пісаў, якой бачыў будучыню беларускае зямлі, і нават якое месца й ролю адыгрываў у паўстаньні? Пра гэта спрачаюцца гісторыкі многіх пакаленьняў.

---

[27] Гілевіч Н. Папярэджанне // Выбраныя творы. Мінск, 2009. (Верш датаваны 29 траўня 1996 г., калі ў беларускай дзяржаўнай палітыцы ўмацоўваліся дэбеларусізацыя і аўтарытарызм).
[28] Сівец Т. Ліпеньская навальніца // Мінск, 2003.

Літаратура бярэ на сябе ролю інтэрпрэтатара гісторыі і асобы. Міталягізацыя абапіраецца на гістарызацыю. Многія паэты апавядаюць пра Каліноўскага ў кантэксьце вядомых гістарычных падзей і гістарычных асоб, актыўна цытуюць ягоныя тэксты і выказваньні. Згадваюцца паасобныя выразы з «Мужыцкае праўды», яшчэ болей – з «Ліста з-пад шыбеніцы», асабліва з верша «Марыська чарнабрэва, галубка мая», у якім самая ўлюбёная ды найбольш цытаваная фраза – гэта «Бывай здаровы, мужыцкі народзе». Шырока прыгадваецца паўстанцкі пароль («Каго любіш? – Люблю Беларусь. – То ўзаемна!») і легендарная рэпліка Каліноўскага падчас чытаньня прысуду, дзе ён адпрэчыў сваё шляхецтва, заявіўшы, што «ў нас усе роўныя».

Надзвычай важную ролю адыгрывае той факт, што Каліноўскі змагаўся за вызваленьне свайго краю ад расейскага панаваньня. І ягоны галоўны вораг, Мураўёў-вешальнік, натуральна, фігуруе ў беларускай паэзіі як люты вораг Беларусі й беларускага народу. Так, у паэме Анатоля Вольнага «Кастусь Каліноўскі» (1926) Мураўёў злуецца:

Хто пасьмеў Расіі ня верыць?
Хто паўстаў супроць Русі?
Ой, каго звар'яцеўшае сэрца
Так чырвона ў грудзёх брусьніць?
Выдаць!
…………………

Я павешу мяцежную банду,
Банду дзікіх галодных сабак.
Я зраблю ім крывавую ванну,
Што пасьмелі Расію скубаць.
Загарэліся вы валежнікам;
Хай-жа вас цяпер пацкуюць...
Злавіць трыццаць любых начлежнікаў
І павесіць на першым суку!

……………………………

Петлі,
Петлі
Рэжуць галовы,
Яны падаюць, –
Дзе іх падзеці?
Гэта Беларусі лепшыя дзеці...[29]

Алесь Чобат параўноўвае Мураўёва з пазьнейшымі высокапастаўленымі катамі, якія спрычыніліся да гібелі многіх беларускіх культурных і грамадзкіх дзеячаў:

Генерал-губернатар
і граф Мураўёў
на той час быў не горш
за Цанаву з Яжовым.
Біў шляхэцкую дур,
піў мужыцкую кроў,
спраўных гнаў на Сыбір
з іх тутэйшаю мовай[30].

Варожая Расея міталягізуецца і ў вобразе цара, з якім спрачаецца скаваны ў ланцугі Каліноўскі ў паэме Максіма Танка «Каліноўскі» (1938)[31].

Што тычыцца асобы Кастуся, то тут найперш кранае аўтараў ягоная страчаная маладосьць:

Калі ў бой на змаганьне з царамі
йшоў адчайна славуты Кастусь,
мала вёснаў ён меў за плячамі
а ў сэрцы – адну Беларусь[32].

*(Ларыса Генію́ш,*
*верш «Кастусь Каліноўскі», 1982),*

[29] Вольны А. Чорнакудрая радасьць // Менск, 1926. С. 3–20.
[30] Чобат А. 1863 // Мінск, 1992. С. 10–12
[31] Танк М. Каліноўскі. Паэма // Збор твораў. У 2 т. Т. 1. Мінск, 1958.
[32] Генію́ш Л. Кастусь Каліноўскі // На чабары настоена. Мінск, 1982.

як і ягонае няспраўджанае каханьне. Хаця й яно пераплятаецца з любоўю Кастуся да Беларусі – у гэтым выпадку, цалкам спраўджанай і ўзаемнай.

Не сумуй, не сумуй,
Беларусь,
Па-над крыўдай сваёй уздыміся.
Імя слаўнае ўспомні Кастусь
І адданыя вочы Марысі[33].

*(Алесь Пісьмянкоў,*
*верш «Кастусь і Марыся», 2005)*

Сваю вэрсію прапаноўвае Ўладзімір Караткевіч у вершы «Нявесьце Каліноўскага» (1960):

Недзе поруч ляжалі дарогі,
Кліч кахання ляцеў ад ніў,
Але ён не кахаў нікога,
Бо занадта радзіму любіў.
Варты лепшага ў свеце кахання,
Рана скончыўшы мужны палёт,
Русы хлопец золкім світаннем
На высокі ўзышоў эшафот[34].

У пранізьлівым вершы Рыгора Семашкевіча «Апошняя ноч Каліноўскага» (1967) Кастусь у турме перад стратаю мроіць пра сына ад сваёй каханай, які б працягнуў ягоную справу вызваленьня Беларусі. І каханьне шчыльна пераплятаецца з ідэйнасьцю:

Заўтра ўсё... Заўтра смерць. Мяне выведуць каты.
Сакавік на двары... Яшчэ тыдзень – і птушкі дамоў,
О буслы, дзеці сонца! Летучы, адшукайце вы хату,
Дзе жыве маё шчасце, якога ў жыцці не знайшоў.

---

[33] Пісьмянкоў А. Кастусь і Марыся // Думаць вершы... Мінск, 2005.

[34] Караткевіч У. Нявесьце Каліноўскага // Збор твораў. У 8 т. Т. 1. Вершы, паэмы. Мінск, 1987. С. 234.

У вясновай красе! Ясна-чыстая, нібы бяроза.
Вуснаў не цалаваў і яе не насіў на руках.
Птушкі! Людзі казалі... Прашу вас праз слёзы –
Ўкіньце вы ёй праз комін маленькага хлапчука,

Веру – кроў мая ў сэрца яго застукоча.
І калі прыйдзе час новай гнеўнай касьбы, то ізноў, –
Хай жа пільнымі будуць і ноччу і днём яго вочы.
І пажары палацам! За мову, за слёзы, за кроў!..

Хлопчык мой! Я цябе, дарагі, абдымаю.
На радзіме маёй здратаванай павінен ты быць.
Крокі ў лёхах! Ужо і світаць пачынае!
Беларусь, мая маці! Ты будзеш, адзіная, жыць![35]

Яму адгукаецца Ніна Мацяш зь ня менш пранізьлівым «Маналёгам каханай Кастуся Каліноўскага» (1987), дзе голас дзяўчыны, што страціла свайго каханага, зьліваецца з голасам краіны, што страціла свайго найлепшага героя:

«...галубка... чарнабровая мая... мая галубка...
галубка... чарнабровая мая... мая галубка...»
О Божухна неміласэрны!..
Костусь!..
Не па свайму мяне абраў ты росту.

Не па свайму. Ты дужы. Я слабая.
Ты смерць прыняў за ўвесь гаротны люд.
А я адно табой была жывая.
А мне адзіна ты быў сонцам тут.

Цябе няма – і сонца мне пагасла.
І не сарваць бязлітаснай пятлі
Цяперка з долі і маёй уласнай,
Як з долі нашай роднае зямлі.

Я знала: шчасце наша немагчыма,
Пакуль лютуе самаўладства гнусь.

[35] Семашкевіч Р. Апошняя ноч Каліноўскага // Лічыла дні зязюля. Мінск, 1987. С. 63.

Тваёй любоўю, верай і айчынай
Адна была жанчына – Беларусь.

Яшчэ твой воблік родны Беларусі.
Кастусь, мой Костусь, любы мой Кастусе[36].

Воблік, любімы Беларусьсю... І тое, што паўстаньне было прайгранае, што мроі Каліноўскага ды іншых паўстанцаў ня спраўдзіліся, і нават тое, што жорсткія рэпрэсіі, якія зьнішчалі край пасьля падаўленьня паўстаньня, і забарона ўсяго, што мела або магло абудзіць беларускі дух, надоўга адкінулі назад і беларускае слова, і беларускую думку, і беларускую палітычную ідэю, – ніштo з гэтага ня зьменшыла любові нашчадкаў да Каліноўскага й захапленьня ягоным подзьвігам. Ужо адна толькі спроба, адзін толькі намер даць волю свайму народу, вызваліць яго ад расейскае дзяржаўнае й духоўнае акупацыі, а таксама вызваліць селяніна з прыгнёту, гарантуе Каліноўскаму вечную любоў і падзяку. (О каб так было заўсёды з змагарамі за праўду ды лепшую долю!).

У акростыху на ймя Каліноўскі Васіль Жуковіч адно мроіць, як было б цудоўна, калі б справа Каліноўскага перамагла:

Няхай бы ворагаў Ты перамог –
О, як наш край расьцьвіў бы! Неўміручы
Ўладар, прарок свабоды немінучай,
Свой дух магутны ў праўдзе ты зьбярог[37].

Адна з асноўных адметнасьцяў беларускіх вершаў, прысьвечаных Каліноўскаму – гэта іх пераважна рэфлексыйны характар, г. зн., персанаж сьвядома разглядаецца вачыма сёняшняга часу, у поўні сучаснае веды пра вынікі ягонай прысутнасьці ў нацыянальнай гісторыі, пра ягоную ролю ў тым, што з намі адбывалася цягам стагоддзяў, і што адбываецца цяпер. Так, Алесь Чобат

[36] Мацяш. Н. Маналёг каханай Кастуся Каліноўскага // Душою з небам гаварыць. Мінск, 1999.

[37] Жуковіч В. ...Пятлю здымаючы з паўстання // Краязнаўчая газета, 2013. № 48. С. 4.

пісаў пра набліжэньне «часу касінераў» у цяперашняй беларускай рэчаіснасьці, калі тыя, што пачуваюцца нашчадкамі й пераемнікамі справы паўстанцаў Каліноўскага, чуюць, як «гудуць у нябёсах паўстанцкія душы званамі», гатовыя абараняць сваю свабоду й свой гонар нават пад пагрозаю сьмерці:

Толькі нам не канец.
Мы працяг да другіх пакаленняў.
Грамадзяне з натоўпу
рабіцца людзьмі пачалі,
бо Кастусь Каліноўскі
застаўся ў душы і сумленні,
а не ў голым граніце
застаўся на гэтай зямлі[38].

Каліноўскі выступае ў літаратуры як перакананы і непахісны абаронца самых знакавых для беларускае ідэі рэалій і сымбаляў, такіх як свабода, гістарычная памяць, нацыянальныя колеры, дзяржаўная атрыбутыка, мова – усяго таго, што наўпрост зьвязана, з аднога боку, з нацыянальнай ідэнтычнасьцю, з тым, што пазначае беларусаў як адметны народ, а, з другога боку, з тым, што мэтанакіравана зьнішчаецца ці скажаецца тымі, хто працуе дзеля асыміляцыі беларусаў, распусканьні іх у моры іншага народу.

З роднай мовай на вуснах змагаўся,
Каб свабоднай была Беларусь,
І загінуў на пляцы лукішскім
Наш герой Каліноўскі Кастусь[39],

сьцьвярджае Сяргей Новік-Пяюн (1946), сам пацярпелы за сваю адданасьць Беларушчыне, калі беларуская мова імкліва траціла прыхільнасьць савецкага кіраўніцтва.

---

38 Чобат А. Час касінераў // Новы час, 2003. № 2(7).

39 Новік-Пяюн С. Беларуская мова мая // Тварам да шыбеніцы. Кастусь Каліноўскі і Паўстаньне 1863–1864 гадоў у беларускай і летувіскай паэзіі. С. 129.

Часьцяком згадваецца і гістарычная дзяржаўная сымболіка беларусаў – «Пагоня» і бел-чырвона-белыя колеры. Так, у вершы Галіны Хінкі-Янушкевіч «Малітва Каліноўскага» Кастусь прамаўляе нам з сваіх вышыняў, якія з прычыны сваёй сапраўднай, а не часовай, прыроды, акурат і нясуць у сабе традыцыйныя беларускія колеры:

З таго самага
Белага-з чырваньню-белага
Сьвету
Я сумую, сумую, сумую
Па вас[40].

І, прадказальна, Каліноўскі ёсьць носьбітам штандару свабоды – галоўнай беларускай мроі. Шматлікія аўтары лучаць прагу свабоды й змаганьне за яе ў часы Каліноўскага і ў нашым часе.

Асінавым лісьцем магнаты
Дрыжэлі пры слове – Кастусь!
Паўстаньне гуло, як пачатак
Свабоды тваёй, Беларусь[41], –

пісаў Віктар Гардзей.

А Ўладзімір Караткевіч перакідае міжчасавы мост узаемаразуменьня й падтрымкі паміж тымі, хто па-над усім цэніць свабоду:

Такія не даюць сабе дазволу
Любіць што-небудзь, акрамя свабоды.
Няшчасна закаханыя ў яе,
Адрынутыя ёю ў смерць і ў турмы,
Яны пажнуць найлепшых закаханых
Праз трыста год. У новы вольны час,
Калі прамовіць нейкая дзяўчына:
«Чаму я не жыла тады, матуля?
Чаму не йшла на бітву сярод іх?»[42]

---

[40] Хінка-Янушкевіч Г. Малітва Каліноўскага // Тварам да шыбеніцы. Кастусь Каліноўскі і Паўстаньне 1863–1864 гадоў у беларускай і летувіскай паэзіі. С. 152.

[41] Гардзей В. Кастусю Каліноўскаму // Касавіца. Мінск, 1975. С. 54.

[42] Караткевіч У. Кастусь Каліноўскі. Смерць і неўміручасць. С. 30–31.

Такім чынам, не гістарычны Кастусь Каліноўскі, а яго легенда, вобраз, адпаліраваны ў паэзіі, уплываў і працягвае ўплываць на беларускія нацыятворчыя працэсы. Ён стаўся, бадай, самым нацыятворчым вобразам і сымбалем, неабходным для нацыянальнае тоеснасьці, самапавагі й адчуваньня свае адметнасьці. Якраз таму ў сучаснай Беларусі стаўленьне да Кастуся Каліноўскага роўназначна стаўленьню да беларускае гісторыі, больш за тое, да незалежнасьці й сувэрэнітэту, і, адпаведна, яно ёсьць паказчыкам узроўню нацыянальнае сьвядомасьці. Адсюль і гарачыя спрэчкі пра гэтую постаць, што летась захлынулі беларускую мэдыя-прастору напярэдадні 150-годзьдзя паўстаньня й 175-годзьдзя Каліноўскага. Пасутнасьці, гэта былі спрэчкі пра «лёс Бацькаўшчыны». У беларускай культурнай традыцыі вобраз Каліноўскага шчыльна злучаны з вобразам краіны – ажно да іх супадзеньня. Як, напрыклад, у вершы *Зьніча* канца 1980-х гг.:

Дзе ў сусьвеце плыве Беларусь?..
дзе зьліваюцца сум і сумленьне,
дзе адвечнае супраціўленьне,
дзе блакітны мужык
        Кастусь…[43]

## 'Kastuś with Belaruś in rhyme is steadfast bound': Nation-building and the making of a true hero

*Iryna Dubianieckaja*
*Miensk, Belarus*

The process of nation-building in Belarus started later than in other European countries and extended over a longer period; even now the process is still not completed.

[43] Зьніч. Дзе у сьвеце плыве Беларусь? // Рэха малітвы. Вершы зь Беларусі. Нью-Ёрк, 1988. С. 19.

The identity of a nation is to a large extent influenced by the interpretation of its history, which becomes established in popular thought through culture and school education. Literature plays perhaps the most important part in the formation of popular images of historical figures and events. Such images may acquire a life and character of their own, which do not necessarily correspond to the life and character of their prototypes. They also incorporate the author's own ideas and the reader's imagination. Whenever a particular literary image matches the social and historical dynamics of the time, it becomes more popular and thus inspires new authors to create new representations, which in their turn reinforce not only the popularity of the historical prototype itself, but also its new, now mythologized character.

In Belarusian literature, the function of creating national identity has most successfully been served by the image of Kastuś Kalinoŭski. The literary interpretation of the significance of both the man and the Uprising with which he is associated has exerted a tremendous influence on the formation of the popular image.

No other figure in the one thousand years of Belarusian written history was represented in literature as often and with such unanimous popularity and admiration as Kalinoŭski. The image of him as hero spans a remarkably wide spectrum of representations, especially in poetry: from a romantic image of a tragic youth with a heart-rending, sad fate to a heavenly figure, a demiurge hallowed by angelic choirs and glorified by the multitudes below. Kalinoŭski stands out as a refined and sublime person, full of romantic love for a young woman and of powerful and passionate love for his land and people, unwavering in his ideas. His short life and tragic death add to the romantic image. This all makes him a powerful figure, shaped by personal and national tragedy: he is the one who consciously sacrificed his life for others and whose death gave a new life to the whole nation. It does not matter whether this radiant, magnificent and simultaneously touching image actually corresponds to the life of its historical prototype. What exactly he was like, what he believed in, what he wrote and in what language, how he saw the future of the Belarus or even what exactly was his role in the Uprising – all these questions have been disputed by generations of historians. Literature at this point becomes the interpreter of history. The poetic image of Kalinoŭski, rather than the real person, has become one of the most potent nation-making symbols in the quest for national self-identity, self-esteem and distinctiveness. This is why in modern Belarus the way in which Kalinoŭski is perceived amounts to an attitude towards Belarusian history as a whole This is the reason for the heated discussions in the Belarusian media on the eve of the Kalinoŭski anniversary. Essentially they were discussions about the future of Belarus.

# ТЭМА КАЛІНОЎСКАГА Ў МАЛАДОЙ БЕЛАРУСКАЙ ПАЭЗІІ*

*Арнольд Макмілін,*
*докт. філасофіі*
*(Лёндан)*

Постаць Кастуся Каліноўскага і яго страта на шыбеніцы прыцягваюць увагу беларускіх паэтаў, пачынаючы ад Францішка Багушэвіча (таксама ўдзельніка паўстаньня) ды такога ж бунтоўніка Адама Гурыновіча – і да сёньняшняга дня. У ХХ ст. шмат паэтаў натхняліся вобразам гэтага нацыянальнага героя, а ў постсавецкі час усё часьцей гучыць тэма шыбеніцы, з празрыстым намёкам на Каліноўскага.

Адна з вехаў мінулага стагоддзя – гэта драматычная паэма Аркадзя Куляшова «Хамуціус», напісаная ў 1970-х гг., другая – вершы, п’есы і раманы Уладзіміра Караткевіча, жарснага выкладніка беларускай гісторыі праз мастацкае слова. Куляшоў і Караткевіч, хоць і выпадаюць з галоўнага фокусу майго дасьледаваньня, але менавіта яны значна паўплывалі на цяперашніх маладых паэтаў. Таксама ў гэтай сувязі трэба назваць нямы фільм Уладзіміра Гардзіна пра Каліноўскага, зьняты ў 1928 г. Наколькі мне вядома, ён недаступны на Захадзе. Але яго фрагменты можна знайсьці ў інтэрнэце.

Пераходзячы да галоўнага, хачу адзначыць, што многія сучасныя паэты зьвяртаюцца да тэмы паўстаньня наўпрост, некато-

* Паўнейшая версія гэтага артыкула надрукаваная па-ангельску ў альманаху M. Sajewicz, S. Kawalou, M. Korzeniowski (red.), «Studia Białorutenistyczne» 8/2014.

рыя – прыхавана, некаторыя – праз гульнёвы/жартоўны верш, іншыя – ускосна, закранаючы творы згаданых папярэднікаў, а найчасьцей – праз тэму шыбеніцы, якая выклікае вобразы не толькі Каліноўскага, але таксама шматлікіх пакутнікаў нашых дзён.

«Дзе ты, Кастусь Каліноўскі?» – верш маладой аўтаркі Тацяны Сівец. Вось яго першыя дзьве страфы:

Хутка Радзіма голасам боскім
Зноўку пакліча: «Кастусь Каліноўскі!»
Шмат «абаронцаў», ды сэрцы іх з воску –
Дзе палымяны Кастусь Каліноўскі?

Невінаватых за кратамі мноства –
Ты не баішся, Кастусь Каліноўскі?
З праўдай ідзем на ілжывыя войскі –
Сцяг утрымай наш, Кастусь Каліноўскі!

Тацяна Сівец не належыць да самых ярых змаганцаў між паэтаў свайго пакаленьня, тым ня менш яе занепакоенасьць станам роднай краіны відавочная. У якасьці прыкладу прывяду яскравыя ўступныя радкі трыялета: *«Крыжы над плошчай – гэта наш канец / Або працяг атрутнага шаленства»*, а таксама спашлюся на верш «У палоне», дзе рыфмуюцца словы *к**ра**ты* і *к**а**ты.* (Зрэшты, ня першы дый не апошні раз у беларускай паэзіі пра няволю: *«Хаваныя ценямі кратаў, / Вечна ў цемрадзі згубаў і лютасьці катаў»*).

«Дзе ты, Кастусь Каліноўскі?» – найноўшы твор, зьмешчаны ў анталёгіі Язэпа Янушкевіча, – паказвае героя-пакутніка як магутнага і палымянага носьбіта беларускіх ідэалаў, надзвычай актуальных сёньня.

Малады паэт Анатоль Івашчанка ў 2013 г. напісаў верш «Каліноўскі», які зьяўляецца вольным перакладам песьні «Дубровский» вядомага расійскага барда і рок-сьпевака Барыса Грабеншчыкова. У вершы расійскія тапонімы замяняюцца на беларускія, а Дуброўскі ператвараецца ў Каліноўскага. Ва ўсім астатнім зьмест верша адпавядае арыгіналу.

Іншы малады аўтар Зьмітрок Кузьменка піша пра беларускую патрэбу роўнасьці і волі, бачыць у Каліноўскім сімбаль Радзімы

і перадае гэтую думку праз рыфму ў трэцім слупку свайго верша «Белая Русь»:

Роўнасьць і воля –
Мёртвы Кастусь.
Чорная доля –
Белая Русь.

Далучэньне Каліноўскага маладою паэткай і крытыкам Марыяй Мартысевіч да сьпісу «лузераў» у эсэі «Мужчыны, якіх мы выбіраем» выглядае ня столькі абразьлівым як дурасьлівым. Тым болей, што сярод ягоных таварышаў па «недалужнасьці» апынуліся такія славутыя асобы як Максім Багдановіч, Вацлаў Ластоўскі, Максім Гарэцкі ды іншыя.

Аднак знойдзецца таксама некалькі ўзораў даволі ўдалай гульні нават з такою тэмаю як Кастусь Каліноўскі. Напрыклад, у сюррэалістычным вершы Зьмітра Пляна «…Мяне злавілі…» лірычны герой праходзіць праз шэраг такіх балючых зьнявагаў як адразаньне вушэй і заторкваньне рота кавалкам каўбасы. У выніку ён становіцца муміяй, загорнутай у туалетную паперу, і гэтак знаёміцца з Каліноўскім. Ды той не надта праймаецца ягоным лёсам:

пазнаёмілі з
кастусём каліноўскім
ён сьпеў мне песьню
і сышоў

Як паэт-гумарыст і перакладчык найбольш вядомы Андрэй Хадановіч, які нарадзіўся ў 1973 г. і недзе на дзесяць гадоў старэйшы за раней названых паэтаў. Ягоныя звароты да Каліноўскага і зьвязанай з ім тэмы шыбеніцы часта, хоць і не заўсёды, маюць гумарыстычны характар. У 2002 г. у інтэрв'ю ён заўважыў, што калі сёньня возьмешся пісаць вершы «пад Каліноўскага», то ўжо назаўтра будзеш схоплены. Ён прызнаў, што ўважае за лепшае выяўляць свае палітычныя погляды ў іншай форме. Мусіць, самым яскравым сьведчаньнем гэтага зьяўляецца назва ягонага зборніка «Лісты з-пад коўдры» (2004), празрысты намёк на «Лісты з-пад шыбеніцы» Каліноўскага. У іншым інтэрв'ю Хадановіч

падкрэсьліў, што, як паэту новай генерацыі, яму імпануе пісаць пра Каліноўскага ад імя прыватнай асобы, а не «калектыву», як гэта рабілася раней.

Да твораў Хадановіча мы яшчэ вернемся пры разглядзе вобразу шыбеніцы, на якой загінуў Каліноўскі, – вобразу, ня менш пашыранага ў найноўшай беларускай паэзіі ад вобразу самога героя.

Тэма «Лістоў з-пад шыбеніцы» К. Каліноўскага ў сучаснай беларускай літаратуры грунтоўна разглядалася дасьледчыкамі Яраславай Ананкай і Генрыхам Кіршбаўмам (Heinrich Kirschbaum). За кропку адліку ў сваіх працах яны бяруць выбітны твор Веры Бурлак (якая часта падпісваецца псеўданімам *Джэці*) «Верш пра шыбеніцу». Прывяду цалкам гэты зьмястоўны твор, багаты на алюзіі, імгненна падхопленыя іншымі паэтамі:

**Верш пра шыбеніцу**

У двары на вуліцы Каліноўскага
Для дзяцей паставілі шыбеніцу.
Якую сьпісалі з турмы,
Бо яна састарэла маральна.
І адразу прыбеглі дзеці,
Каб гайдацца на ёй і падцягвацца,
Каб поўзаць на ёй і караскацца
І займацца карыснай гімнастыкай.
А бацькі былі ўжо ня радыя,
Бо забылі дзеці пра мульцікі,
Пра ўрокі і пра кампутары –
Пpыляпіліся сэрцам да шыбеніцы.
Мамкі-нянькі грукаюць шыбінамі
І крычаць ім: «Хутчэй дахаты!»
І хвалююцца: што зь іх вырасьце? –
Баючыся вымавіць «шыбенікі».
Ды, здаецца мне, лепей шыбенікі,
Так, я думаю – лепей шыбенікі,
Лепей, лепей дакладна шыбенікі,
Лепей шыбенікі,
чым каты.

Што да Хадановіча, дык сярод напісанага ім напачатку стагоддзя ёсьць два вершы, якія не наўпрост, але беспамылкова вядуць да Кастуся Каліноўскага, – «Сьпеў аб маім суіцыдзе» і «данс макабр». У больш вядомым з гэтых вершаў «Сьпеве аб маім суіцыдзе» аўтар сьцьвярджае, што сапраўдныя героі (змагары) самі сябе не забіваюць. У якасьці прыкладу ён згадвае ахвяраў гільяціны і спаленую на вогнішчы ангельцамі Жанну Д'Арк, а потым разважае пра павешаньне, быццам перагукваючыся з Верай Бурлак:

Самы цымус – ня зіркаць углыб:
кожны вечар фіранкі зашморгвай,
бойся, шыбенік, позірку шыб!

Асацыяцыя *шыбеніцы – шыбы* магла быць падказаная сугуччам гэтых словаў, а магла быць пэўнай спасылкай на Бурлак, адну з найбольш таленавітых пратэжэ Хадановіча. Некалькімі радкамі вышэй аўтар у сваёй характэрнай іранічнай манеры дзівіцца з колькасьці зданяў вайны і міру, захаваных у літаратуры, і гэтым ускосна падкрэсьлівае трываласьць памяці Каліноўскага:

Колькі прывідаў войнаў ды міру
Паўстае з рукапісных папер!..
Што тэатрам было за Шэкспірам,
Мыльнай опэрай стала цяпер!

Чамусьці ў кніжным варыянце гэтага верша адсутнічае страфа, прысутная ў арыгінальным часопісным варыянце. Яе варта прывесьці, бо тут наўпрост называецца «вяроўка» (пятля), а таксама цытуецца, хоць і не зусім дакладна, апошні радок «Пагоні» Багдановіча, аднаго з найбольш патрыятычных твораў беларускай паэзіі:

Палка прагнуў далёкай вандроўкі –
і знайшоў пуцяводную ніць.
А чароўнасьці мыльнай вяроўкі
не разьбіць, не стрымаць, не спыніць!..

Намёкаў на Каліноўскага багата ў вершы «данс макабр». Тут і «пятля», і «павешаны», і гульня слоў «вісельня» – «вясельля». Тут і вышуканая повязь паміж складаньнем (зацягваньнем) песень і пасыланьнем і-мэйлаў з-пад шыбеніц:

мы з табой цудоўныя песьні
ў паражні парахні і плесьні
зацягнулі б нібы пятлю
як павешаны на перадвесьні
раз памёршы ўжо не ўваскрэсьне
ды па пальцы камень ня трэсьне:
спадзяюся помню люблю
вам з-пад шыбеніц шлем і-мэйлы

У «Пасланьні да беларускага пошт-мадэрніста» Хадановіч спасылаецца на Каліноўскага, дакараючы невядомага адрасанта, што драматызуе свае ўласныя праблемы:

Твой «ex infernis» – амаль што «зь вёскі ад пэўнага дзеда»:
Хочаш адказ атрымаць – адрас зваротны пакінь!
А рэпартажы зь пятлёй на шыі, з-пад шыбеніц пісьмы
Твой папярэднік табе ў горшых варунках пісаў.

Пераклады Хадановіча з французскай паэзіі таксама трапляюць у тэму шыбеніц і катаў. Тэксты нібыта адмыслова выбіраліся. Назвы гэтых перакладаў гавораць самі за сябе: «Эпітафія Віёна» з падзагалоўкам «Балада шыбенікаў» Франсуа Віёна, «Танец сьмерці» Шарля Бадлера, «Баль шыбенікаў» Арцюра Рэмбо.

Перш чым зьвярнуцца да надзвычай уплывовай постаці Уладзіміра Караткевіча, трэба заўважыць, што аніводны з паўстанцаў не выклікае ў сучаснай беларускай літаратуры гэткай цікавасьці, як Каліноўскі, хаця ў выдатным апавяданьні Уладзіміра Арлова «Пяць мужчын у лесьнічоўцы» малююцца рэальныя гістарычныя постаці ягоных паплечнікаў. Караткевіч сваім раманам «Каласы пад сярпом тваім», п’есай «Кастусь Каліноўскі: сьмерць і неўміручасьць», палкімі вершамі пра паўстаньне (напрыклад, «Павешаным 1863 года», «Нявесьце Каліноўскага») прычыніўся да таго, што Станіслаў Станкевіч з падказкі Адама Мальдзіса назваў «культам Кастуся Каліноўскага».

Апроч пералічанага, у драматызаванай паэме «Слова пра чалавечнасьць» пісьменьнік стварыў вобраз нязломнага Рыгора Чаховіча, нашчадка паўстанцаў па духу.

Нядзіўна, што Караткевіч служыць натхняльнікам і праваднікам да герояў мінулага для маладзейшых творцаў. Напрыклад, Сяргей Коўган у сваім вершы «У. Караткевічу» удзячны пісьменніку за навуку любові і разуменьня роднай зямлі і яе герояў, за тое, што дапамог узгадаваць

Павагу да нашых славутых продкаў,
Што край баранілі ад ворагаў лютых
І сьмерць напаткалі на гэтых узгорках,
Крывёю і потам народа палітых.

Коўгану таксама належыць горача патрыятычны верш «Гімн паўстанцаў», дзе аўтар натхняецца не Каліноўскім, а іншым героем, з глыбейшай на тры стагодзьдзі даўніны, персанажам аповесьці Караткевіча «Сівая легенда» Раманам Ракутовічам:

Ракутовічаў лёс
Нас на подзьвіг заве
І да самых нябёс
Нашы словы нясе.

Нарэшце, нельга абмінуць такі цікавы твор як «Чужынец» маладой паэткі Вікі Трэнас, дзе матыў павешаньня гучыць метафарай усялякага чужынскага ўціску. Пасьля апісаньня адчужанасьці адрасата аўтарка малюе наступствы няпрошанага ўмяшаньня, пад якім можна разумець русіфікацыю, а выраз «твая пятля» ўтрымлівае намёк на Мураўёва-Вешальніка:

**Чужынец**

Ты мне чужы. Як першы сьнег, што хутка тае.
Ты мне чужы, як выпадковыя дажджы,
І кроў мая, сваёй ахвярнасьцю сьвятая,
На твой каўнер зусім па-здрадніцку імжыць.
Тваю пятлю з замілаваньнем стрэне шыя,
Ды покуль кроў мая дажджыць, хачу дажыць.
Ты мне чужы, бо ўсе табе чужыя,
Бо мне чужыя ўсе, ты мне чужы.

Кастусь Каліноўскі і ягоная гібель на шыбеніцы без сумневу далі магутны штуршок нацыянальнай сьвядомасьці беларусаў, што адлюстравалася ў літаратуры. Ягоны прыклад, на жаль, вельмі актуальны ў сучаснай беларускай рэчаіснасьці з яе пратэстнымі дэманстрацыямі пасьля выбараў, зьняволеньнямі і нават сьмерцямі.

Вяртаючыся да Хадановіча і імкнучыся аспрэчыць меркаваньне, што ягоная адданасьць слоўнай гульні сьведчыць якраз пра адсутнасьць рэальнага клопату, хачу нагадаць ягоную «Прамову на Плошчы 20 сакавіка 2006» ды іншыя вершы тае пары, як, напрыклад, «Памяці намётаў на Пляцы Кастуся Каліноўскага».

Актуальнасьць Каліноўскага для ўдзельнікаў акцыі пратэсту 2006 г. відавочная таксама ў перайменаваньні імі Кастрычніцкай плошчы ў «Плошчу Кастуся Каліноўскага». У кароткім безназоўным вершы Алеся Аркуша (1960 г. нараджэньня) паўстанец XIX ст. становіцца побач з двума іншымі нацыянальнымі героямі, гэтаксама ахвярамі хлусьні і гвалту:

у хлусьні кароткія рукі
каб схаваць Каліноўскага
каб прымусіць маўчаць Купалу
каб забраць грамадзянства БНР
у Ларысы Геніюш

Імя Каліноўскага працягвае асацыявацца з сучаснымі палітвязьнямі, а таксама з памяцьцю пра Уладзіслава Кавалёва і Дзьмітрыя Канавалава, абвінавачаных пры спрэчных акалічнасьцях у тэрарыстычным акце ў менскім метро, асуджаных на сьмерць і расстраляных у 2011 г.

Сёньня цяжка ўявіць час, калі імя Кастуся Каліноўскага не будзе зьвязвацца з доўгім і пакутным шляхам Беларусі да сапраўднай незалежнасьці і палітычнай свабоды.

# References, direct and indirect to Kalinoŭski in Young Belarusian Poetry

*Arnold McMillin*
*London*

Belarusian writers have been interested in Kalinoŭski since the end of the 19th century, and the twentieth century saw a great body of poetry and prose devoted to him. Amongst poets who began writing under the present regime, Taćciana Siviec is one of the most direct, presenting the insurgent as a fiery and bold embodiment of Belarusian ideals that are very relevant today.

Other direct references include the transformation of Grebenshchikov's 'Dubrovskii' into 'Kalinoŭski' by Anatoĺ Ivaščanka, and the rhyming by Źmitrok Kuźmienka of Ruś with Kastuś.

Ludic treatment of this subject ranges from the heavy-handed humour of Maryja Martysievič to the postmodern absurdity of Źmicier Plian. One of Belarus's best ludic poets is Andrej Chadanovič, whose book *Listy z-pad koŭdry* makes a clear reference to Kalinoŭski's letters. He seeks to present an individual characterization of the insurgent, rather than the collective one in most 20th-century writing. In his poems 'Paslańnie da bielaruskaha pošt-madernista' and 'Dans makabr' Chadanovič ranges between mocking those who complain despite being in no danger of being hung, to his hope that Kalinoŭski will be reborn, planning to send him an e-mail.

The theme of gallows and the hangman's noose are unmistakeably linked to Kalinoŭski, and Viera Burlak's memorable 'Vierš pra šybienicu' has found echoes in many other poems, including Chadanovič's 'Śpieŭ ab maim suicydzie', where he strengthens his idea of heroic death by including the last line of Bahdanovič's 'Pahonia': 'nie raźbić, nie strymać, nie spynić'. Chadanovič's translations from Villon, Baudelaire and Rimbaud, moreover, all concern death and, particularly, hanging.

Young writers have taken an active interest in Kalinoŭski's literary heritage: for example, by interviewing Arkadź Kuliašoŭ's daughter, and by making studies of his play *Chamucius*. Most important are the works of Uladzimir Karatkievič, who almost made a cult of Kalinoŭski, for through his works young poets and others see a clear connection with Belarus's tragic past. A good example is Siarhiej Koŭhan with his poem 'U. Karatkieviču'. In another of his poems 'Himn paŭstancaŭ' he draws on the older poet to acclaim an earlier

rebel, Raman Rakuta. Karatkievič is associated by many with the theme of suffering for freedom. Finally, an interesting poem by Vika Trenas, 'Čužyniec' with its reference to a noose, looks indirectly back to Kalinoŭski's fate.

The theme of the scaffold and noose was often raised during the events of 2006, and many literary records of them are collected in a little book called *Repartaž z miesca padziejaŭ: Vieršy i pieśni*, which includes two serious poems by Chadanovič. Kalinoŭski also continues to be associated with later executions, for example of Uladzislaŭ Kavalioŭ and Dźmitry Kanavalaŭ, who were shot in 2012.

It is hard to imagine a time when the name of Kastuś Kalinoŭski will not be associated with Belarus's long and beleaguered path to political freedom.

# КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ НА БЕЛАРУСКАЙ ТЭАТРАЛЬНАЙ СЦЭНЕ: РЭВАЛЮЦЫЯНЕР, ПАТРЫЁТ, ТРАГІЧНАЯ АСОБА

*Сяргей Кавалёў,*
*докт. філал. навук*
*(Люблін)*

Постаць Кастуся Каліноўскага з'яўляецца знакавай для беларускай культуры: вобраз легендарнага паўстанца сустракаецца ў шматлікіх літаратурных творах, упрыгожвае мастацкія палотны, перыядычна з'яўляецца на тэатральных падмостках. Аналізуючы мастацкую эвалюцыю вобразу Кастуся Каліноўскага на беларускай сцэне, можна, па-сутнасці, прасачыць гісторыю нацыянальнага тэатра.

Пачатак тэатральнаму ўвасабленню постаці Каліноўскага паклаў драматург і рэжысёр Еўсцігней Міровіч, напісаўшы і ўвасобіўшы на сцэне Першага Беларускага дзяржаўнага тэатра (БДТ-1) гістарычную драму «Кастусь Каліноўскі». Адбылося гэта ў 1923 г. на хвалі адраджэнскага руху і палітыкі беларусізацыі ў БССР. Еўсцігней Міровіч, які з'яўляўся ў той час кіраўніком БДТ-1, сутыкнуўся з праблемай катастрафічнага недахопу ў рэпертуары тэатра нацыянальнай драматургіі і мусіў сам узяцца за пяро, ствараючы на працягу некалькіх гадоў шэраг цікавых гістарычных і легендарна-гістарычных драмаў: «Машэка», «Кастусь Каліноўскі», «Кавальваявода». Напісанню п'есы «Кастусь Каліноўскі» папярэднічала вялікая падрыхтоўчая праца, знаёмства аўтара з дакументальным і навуковым матэрыялам пра паўстанне 1863 г.

Як адзначыў Андрэй Масквін у манаграфіі «Teatr białoruski 1920–1930. Odrodzenie i zagłada» (2013): *«Міровіч не меў ані на-*

*меру, ані магчымасці паказаць усю гісторыю паўстання. Ён хацеў перадусім засяродзіцца на постаці Каліноўскага і прадставіць яго як чалавека выключнага і незвычайнага, гатовага ахвяраваць жыццём у імя свабоды іншых»*[1].

Каліноўскі ў трактоўцы Еўсцігнея Міровіча паўставаў як адважны рэвалюцыянер, змагар за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне сялянаў, палымяны патрыёт. «Народ» – слова, якое найчасцей паўтараецца ў п’есе Міровіча. Празмерна пафасны вобраз Каліноўскага ажыўляў і разнастаіў сваёй выдатнай ігрой акцёр Уладзімір Крыловіч, якому менавіта гэтая роля прынесла найбольшую славу. Спектакль «Кастусь Каліноўскі» стаўся значнай грамадскай падзеяй, выклікаў прыхільнасць гледачоў і крытыкаў, захопленыя водгукі Змітрака Бядулі, Янкі Купалы і іншых беларускіх пісьменнікаў.

Што праўда, з пазіцый сённяшняга дня п’еса Е. Міровіча выклікае пэўныя заўвагі. Вядома, для тагачасных гледачоў, выхаваных на бальшавіцкіх ідэях бескампраміснай класавай барацьбы, прайшоўшых цяжкія выпрабаванні на франтах Грамадзянскай вайны, было, відаць, нармальным, што беларускія сяляне на чале з пераапранутым у праваслаўнага дзяка Каліноўскім, спачатку радушна прымаюць на пастой атрад рускіх жаўнераў, частуюць іх, разам п’юць, гуляюць, співаюць і танчаць, а ноччу бязлітасна выразаюць увесь атрад. Але ў сучаснага чалавека такая крывадушнасць і жорсткасць выклікае пэўны маральны дыскамфорт. Напэўна, як і паводзіны Каліноўскага ў кабінеце графа Мураўёва: застаўшыся на хвіліну без нагляду, палымяны рэвалюцыянер (гэтым разам пераапрануты ў форму казацкага афіцэра) крадзе ў гаспадара вялікую суму грошай (вядома, на патрэбы паўстання). Гэтакі рэвалюцыйны «экс» у стылі расійскіх народнікаў і эсэраў-максімалістаў).

Нягледзячы на пэўныя недахопы, п’есу «Кастусь Каліноўскі»

[1] Moskwin A. Teatr białoruski 1920–1930. Odrodzenie i zagłada. Warszawa, 2013.

трэба прызнаць несумненнай творчай удачай Еўсцігнея Міровіча, як і пазнейшы спектакль. Асоба Кастуся Каліноўскага давала выдатныя магчымасці аб’яднаць рэвалюцыйную ідэю з нацыянальнай, што і зрабіў Міровіч, няхай сабе з акцэнтам на рэвалюцыйнасці героя ў духу свайго часу. Невыпадкова п’еса была пастаўленая пазней – у 1929 г. – яшчэ і ў тэатры Уладзіслава Галубка. Рэжысёрам спектакля выступіў тым разам Фларыян Ждановіч.

У трыццатыя гады патрыятычны вобраз Каліноўскага аказаўся небяспечны для камуністычнай улады, і наступны раз на тэатральнай сцэне публіка ўбачыла паўстанца толькі ў 1947 г. у оперы Дзмітрыя Лукаса «Кастусь Каліноўскі» паводле лібрэта Міхася Клімковіча. У відовішчным і пафасным спектаклі адлюстравалася прыўзнятая атмасфера ў савецкім грамадстве пасля перамогі ў Другой сусветнай вайне. Каб уславіць вызваленчую барацьбу беларускага народа і адначасна абысці небяспечныя антырасійскія акцэнты ў дзейнасці галоўнага героя, стваральнікі оперы свядома акцэнтавалі ўвагу на яго антыпольскіх настроях.

Адным з самых удалых тэатральных увасабленняў вобразу Каліноўскага ў другой палове XX ст. лічыцца спектакль Валерыя Мазынскага «Кастусь Каліноўскі» ў Беларускім акадэмічным тэатры імя Якуба Коласа паводле аднайменнай п’есы Уладзіміра Караткевіча.

П’еса Караткевіча «Кастусь Каліноўскі. Смерць і неўміручасць» была напісаная ў 1963 г. да 100-годдзя паўстання. Напэўна, аўтар перад тым, як узяцца за напісанне трагедыі пра Кастуся Каліноўскага, перачытаў п’есу Еўсцігнея Мровіча. Але творчым арыенцірам для У. Караткевіча стаўся «Барыс Гадуноў» Аляксандра Пушкіна. Менавіта «Барыс Гадуноў» быў для Караткевіча ўзорам гістарычнай драмы («Я напісаў табе «Барыса Гадунова». Бяры і стаў», – казаў пісьменнік рэжысёру Валерыю Мазынскаму, калі той прасіў аўтара ўнесці некаторыя змены ў п’есу). Арыентацыя на пушкінскую трагедыю адчуваецца ў маштабнасці твора, перанасычанасці п’есы персанажамі (больш за трыццаць дзеючых асобаў), і, самае галоўнае, у прысутнасці побач з вобразам галоўнага героя

вобразаў прадстаўнікоў народу (Чортаў Бацька, Яўхім і Яўхіміха, Чорная плакальшчыца, юродзівы Агей, нямы Ян і інш.).

У адрозненне ад Еўсцігнея Міровіча, Уладзімір Караткевіч акцэнтуе ўвагу на нацыянальных, а не на рэвалюцыйных пераканаццях Кастуся Каліноўскага, на яго патрыятызме, самаахвярнай любові да Беларусі. Але калі паставіць пытанне, кім у першую чаргу з'яўляецца Каліноўскі ў п'есе Караткевіча, адказ будзе нечаканым: паэтам. Паэтам, які займаецца небяспечнай рэвалюцыйнай дзейнасцю, ахвяруе жыццём дзеля вызвалення роднага краю і беларускага народу ад расійскага прыгнёту, але ў душы застаецца творцам – рамантычным, летуценным, закаханым. Напрыклад, у адной сцэне Уладзімір Караткевіч укладае ў вусны «чырвонага дыктатара Літвы», «Яські, гаспадара з-пад Вільні» наступныя лірычна-філасофскія радкі:

Пусціце зоры ў мой пакой шырокі!
Пусці ў пакой сузор'і, чалавек!
Нічога не палохайся. Пад сонцам
Ёсць толькі ты і светлыя сузор'і.
Нічога, акрамя цябе і іх.
Каханне, зорка чыстая, ў глыбінях
Бязмежнага сусвету ты гарыш
Святлом далёкім, цёплым, нездрадлівым,
О колькі год я да цябе ляцеў,
Раскрыліўшы свае слабыя рукі,
І сек сваім мячом мячы камет!
Я знемагаў, я паміраў у муках,
І ты пачула мой апошні крык.
Сама прыйшла, наблізілася, ўпала
Ў маю далонь. І стала ўсім на свеце.
Ўсё – ты. Маё чаканне – гэта ты,
Маё змаганне, і душа, і вочы,
Любоў, нянавісць, вера і сумненне –
Ўсё гэта ты. І праўда, і дыханне,
І… нават смерць. Нічога не баюся.
Бо космас неўміручы ў гэтым сэрцы,

Бо космас не заб’еш. І я лячу,
Лячу ў сусвет[2].

Караткевічаўская ідэалізацыя і паэтызацыя галоўнага героя гарманічна ўпісвалася ў метафарычна-сімвалічны стыль рэжысёра Мазынскага. Пастаўлены ў 1978 г. – праз пятнаццаць гадоў пасля напісання п’есы – спектакль Мазынскага стаў найбольш арыгінальным увасабленнем вобразу Каліноўскага ў беларускім тэатры другой паловы XX ст.

Вялікія магчымасці для адметнага тэатральнага ўвасаблення давала драматычная паэма Аркадзя Куляшова «Хамуціус» (1975), у якой намаляваны глыбокі псіхалагічны партрэт героя. Вядома, у паэме Куляшова, напісанай у савецкія часы, таксама завостраны канфлікт паміж панамі і мужыкамі, аўтар старанна затушоўвае антырасійскія і антыправаслаўныя матывы ў праграме і дзейнасці Каліноўскага і ўсяляк выпукляе яго грамадска-сацыяльныя ідэі:

Мужык і пан. Пан і мужык. Не ў слове
Хаваецца іх сутнасць, а ў аснове,
З якой яны, як з плесені грыбы,
Растуць. «Дзе ўладары, там і рабы»[3].

Такую трактоўку паўстання 1863 г. ахвотна падхапілі даследчыкі творчасці Аркадзя Куляшова. Напрыклад, Мікола Арочка ў «Гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя» адзначаў: *«У аўтара «Хамуціуса» раскрыўся выключны дар ужывання ў навальнічную атмасферу паўстанчых бітваў Каліноўскага. Сваім драматычным чуццём паэт разгадаў галоўны канфлікт часу. З першых радкоў твора загучала вядучая танальнасць, той лейтматыў, у якім вузлавая праблема гісторыі – зямля. У ёй, гэтай праблеме, канцэнтравалася сувязь многіх часоў, рэвалюцыйных выбухаў, трагічных зыходаў»*[4].

---

2 Тамсама. С. 80.

3 Куляшоў А. Хамуціус. Паэма // Збор твораў: У 5 т. Мінск, 1977. Т. 5. С. 125–126.

4 Арочка М. Аркадзь Куляшоў // Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя: У 4 т. Т. 3. Мінск, 2002. С. 453.

Насамрэч сваім творам А. Куляшоў імкнуўся не толькі перадаць сутнасць падзей, разгадаць канфлікт часу, але і ўвасобіць духоўныя пошукі, асаблівасці характару герояў. На жаль, стваральнікі аднайменнага спектакля «Хамуціус» у Брэсцкім абласным тэатры (1981) пайшлі традыцыйным шляхам рамантызацыі постаці Каліноўскага, пракладзеным рэжысёрамі Міровічам і Мазынскім.

Апошнім па часе стварэння драматургічным творам пра Кастуся Каліноўскага з'яўляецца п'еса Алеся Петрашкевіча «Рыцар свабоды». П'еса была напісаная ў 2003 г. з нагоды 140-х угодкаў паўстання, друкавалася ў газеце «Новы час» (урыўкі, ліпень-жнівень 2003 г.) і ў часопісе «Дзеяслоў» (2004, № 8), але пакуль не была ўвасобленая на тэатральнай сцэне. Прычына незапатрабаванасці сучасным беларускім тэатрам п'есы А. Петрашкевіча тоіцца як у ідэйна-мастацкіх асаблівасцях п'есы, так і ў сённяшнім стане нацыянальнага тэатра, а шырэй – усяго беларускага грамадства[5].

У адрозненне ад многіх айчынных і замежных гісторыкаў, Алесь Петрашкевіч ні на хвіліну не сумняваецца ў беларускай самасвядомасці Кастуся Каліноўскага. Ягоны герой адмаўляецца на допытах у царскім засценку адказваць на расійскай альбо польскай мове і з гонарам заяўляе следчаму Шалгунову: «*...Я буду размаўляць толькі на мове сваіх бацькоў, дзядоў і прадзедаў і маўчаць на ўсіх іншых, у тым ліку і на вашай расейскай*»[6].

Не сумняваецца ў беларускасці Каліноўскага і следчы Шалгуноў, які з баязлівай павагай сцвярджае: «*...Грамоты Стеньки*

---

[5] Сімптаматычна, што, задумаўшы ў 2011 г. вывесці постаць Кастуся Каліноўскага на сцэну Рэспубліканскага тэатра юнага гледача (спектакль «Майго юнацтва крылы...»), рэжысёр Уладзімір Савіцкі звярнуўся не да нацыянальна-адраджэнскай па духу і дэкларатыўнай па манеры п'есы Петрашкевіча, а да напісанай у савецкі час драматызаванай паэмы Аркадзя Куляшова.

[6] Петрашкевіч А. Рыцар свабоды: Трагедыя ў дзвюх дзеях // Дзеяслоў. 2004. № 8. С. 136.

*и Емельки ни в какое сравнение не идут с инструкциями, приказами, манифестами и политической публицистикой с теоретическими разработками освободительной войны, принадлежащими Калиновскому. Он – мыслитель, публицист божьей милостью, первый настоящий национальный белорусский политический деятель!..*»[7]

Алесь Петрашкевіч выкарыстаў у п'есе багатыя дакументальныя матэрыялы пра жыццё і дзейнасць Каліноўскага, даступныя напачатку XXI ст., шчодра цытаваў гістарычныя і літаратурныя крыніцы: тэксты «Мужыцкай праўды», інструкцыі і загады Літоўскага Правінцыйнага Камітэту, успаміны К. Кашыца, Я. Гейштара і інш. Чалавеку, які цікавіцца гісторыяй паўстання 1863 – 1864 гг. і гісторыяй Беларусі ўвогуле, вельмі карысна будзе прачытаць п'есу «Рыцар свабоды», як і іншыя гістарычныя драмы Петрашкевіча, галоўнай тэмай якіх з'яўляецца ідэя незалежнасці Беларусі[8].

З іншага боку, перагружанасць фактамі, моўная і стылістычная стракатасць, выразная публіцыстычная скіраванасць твора не пайшлі на карысць яго мастацкай прыродзе. У п'есе «Рыцар свабоды» няма дынамічнага дзеяння і амаль адсутнічае сюжэт. Характары герояў, іх светапогляд раскрываюцца праз бясконцыя маналогі і дыялогі. Каліноўскі ў інтэрпрэтацыі А. Петрашкевіча – не дзейсны правадыр паўстанцаў, а найперш палітолаг і тэарэтык рэвалюцыйнага дэмакратызму.

Многія выказванні рэвалюцыянера гучаць не вельмі натуральна, асабліва калі ўлічыць, што іх прамаўляе дзеяч XIX, а не XXI ст. Так, развагі Каліноўскага пра праявы нацыянальнага жыцця, літаратурны працэс, генацыд і г. д. наўрад ці маглі быць сфармуляваныя ў 1864 г. Некаторыя фразы героя, выказаныя ў прыватнай размове, нагадваюць газетныя перадавіцы ці падручнікі па паліталогіі. Напрыклад, у размове з расійскім палкоўнікам Лосе-

---

7 Тамсама. С. 148.

8 Siwek B. Wolność ukrzyżowana. Rzecz o białoruskim dramacie i teatrze. Lublin, 2011. S. 124.

вым герой заяўляе: *«Белая Русь, Літва, Польшча, Каўказ і народы ўсходніх і сярэднеазіяцкіх калоніяў Расійскай імперыі ня тое што доўга, а ніколі ў вякі вякоў не забудуць вашых крывавых подзвігаў на іх землях»*[9]. На парозе смерці арыштант Каліноўскі, як прафесійны гісторык, аналізуе прычыны паразы паўстання 1863–1864 гг.: «*І мы, і Польшча памыліліся ў рускім народзе. І ня толькі ў тым, што ён не падтрымаў нашай рэвалюцыі і сам у яе не ўключыўся. Пасля многагадовай вынішчальнай вайны на Каўказе расіяне перанесьлі шавіністычную нянавісьць усіх сваіх слаёў грамадства з народаў непакорнага Каўказа на народы Польшчы, Беларусі і Літвы. Гэта была першая прычына нашай паразы. А другая, што вынікала з першай, гэта выкарыстанне расейскай арміяй набытага вопыту генацыду супраць каўказскіх народаў і прыменёнага да нашых паўстаўшых народаў. Трэцюю ракавую прычыну паразы спарадзіў Варшаўскі Цэнтральны нацыянальны камітэт, які адкінуў лозунг Герцэна «земля крестьянам – самобытность окраинам», зацьвердзіў праграму аднаўлення польскай дзяржавы ў межах былой Рэчы Паспалітай на 1772 год з уключэннем у яе склад Літвы, Беларусі і Правабярэжнай Украіны*»[10].

Думаецца, п’еса Алеся Петрашкевіча «Рыцар свабоды» адносіцца да разнавіднасці «п’ес для чытання», а не для тэатральнага ўвасаблення. «Асучасненасць», навуковасць мовы героя можа сведчыць пра імкненне драматурга данесці найбольш поўную, сканцэнтраваную інфармацыю пра палітычныя погляды і рэвалюцыйную тэорыю Каліноўскага. У выніку, у пагоні за энцыклапедычнасцю аўтар страціў адпаведнасць паміж мовай і эпохай, думкамі і часам.

Зрэшты, наша ацэнка п’есы старэйшага калегі, які шмат зрабіў для папулярызацыі беларускай гісторыі драматургічнымі сродкамі і для сцвярджэння ідэалаў незалежнасці Беларусі, можа быць

[9] Петрашкевіч А. Рыцар свабоды. С. 135

[10] Тамсама. С. 150–151.

суб'ектыўнай. Значна вышэй ацэньвае мастацкія вартасці п'есы Петрашкевіча Беата Сівэк, аўтар манаграфіі «Wolność ukrzyżowana. Rzecz o białoruskim dramacie i teatrze» (Люблін, 2011).

Польская даследчыца лічыць, што ў п'есе «Рыцар свабоды» Алесь Петрашкевіч паказаў усім вядомыя падзеі з новага пункту гледжання. На думку Беаты Сівэк, «*Трагізм лёсу Каліноўскага атаясамліваецца, па-сутнасці, з трагізмам беларускай гісторыі. Матыў змяняючыхся гістарычных падзей пераплятаецца ў п'есе Петрашкевіча з драмай індывідума, які, нават калі б хацеў пазбегнуць свайго прызначэння, ведае, што ад выроку лёсу ўцёкаў няма. У гэтым сэнсе постаць Каліноўскага рэалізуе мадэль наследавання Хрысту (imatio Christi), якая праяўляецца праз параўнанне з ахвярай Хрыста і яго збавіцельскай смерцю. [...] Ахвяры Каліноўскага, як і ахвярам многіх іншых нацыянальных герояў, якім прысвяціў свае п'есы Петрашкевіч, пісьменнік надае эсхаталагічны сэнс. Каліноўскі ў аналізаванай п'есе з'яўляецца трагічнай постаццю, бо ўсе найлепшыя вартасці героя непазбежна вядуць яго да смерці. [...] У спосабе стварэння вобразу Каліноўскага мы заўважаем выразную тэндэнцыю да ідэалізацыі. Аўтар выбірае такія факты з жыцця героя, паказвае нам яго з такой перспектывы, што ў пэўны момант постаць пачынае эвалюцыянаваць у бок легенды ці міфа. Можна шмат распавядаць пра яго жыццё, палітычную дзейнасць або светапогляд, але выразна відаць, што такога роду інфармацыя адыходзіць на задні план. Кастусь Каліноўскі ператвараецца ў інструмент лёсу, постаць у арэоле шматзначных сэнсаў. Мы маем дачыненне з вобразам, які ў нашым успрыняцці робіцца элементам міфа*»[11].

Тэндэнцыі да ідэалізацыі і міфалагізацыі вобраза Кастуся Каліноўскага заўважаюцца, аднак, не толькі ў п'есе Алеся Петрашкевіча, а ва ўсіх згаданых п'есах (Еўсцігнея Міровіча, Міхася Клімковіча, Уладзіміра Караткевіча, Аркадзя Куляшова). Сама Беата Сівэк,

[11] Siwek B. Wolność ukrzyżowana... S. 136–137.

разглядаючы жанр гістарычнай драмы ў беларускай драматургіі, прыходзіць да слушнай высновы: «*Шматлікія творы беларускіх пісьменнікаў пра мінулае Беларусі сведчаць пра тое, што гісторыя беларускага народу прадстае ў напластаванні міфаў, міф накладваецца ў іх на гісторыю, а містычныя падзеі на гістарычныя*»[12].

А як некалі заўважыў Ода Марквард, «*барацьба з міфамі – справа безнадзейная*»…

## Kastuś Kalinoŭski on the Stage in Belarus: Revolutionary, Patriot, Tragic Individual

*Siarhei Kavalioŭ*
*Lublin*

The figure of Kastuś Kalinoŭski is of major importance for Belarusian culture: the image of the legendary insurgent is found in many literary works, adorns artists' canvases, and periodically appears on the stage of Belarusian theatres.

On the wave of the renaissance movement and the Belarusification policy of the 1920s the dramatist and producer Jeŭscihniej Mirovič wrote and staged a historical drama entitled *Kastuś Kalinoŭski* (1923). The performance was a significant public event, arousing the sympathies of the audience and drawing enthusiastic responses from Janka Kupala, Źmitrok Biadulia and other Belarusian writers. In Mirovič's interpretation, Kalinoŭski was a bold revolutionary, a fighter for the social and national liberation of the peasants, an ardent patriotic figure.

In the 1930s the image of Kalinoŭski became too dangerous for the Communist government, and audiences were unable to see the rebel on stage before 1947, in an opera by Dźmitry Lukas, *Kastuś Kalinoŭski*, with a libretto by Michaś Klimkovič. The emotional atmosphere of the performance reflected the elated mood of Soviet society after victory in the Second World War; the anti-Polish attitude of the main hero was especially accentuated.

[12] Ibidem. S. 139.

Valery Mazynski's production of the play by Uladzimir Karatkievič at the Jakub Kolas Belarusian Academic Theatre – also entitled simply *Kastuś Kalinoŭski* – was a vivid example of romantic drama. Karatkievič's idealization of the main hero was exactly suited to the metaphoric and symbolic style of the director. Staged in 1978 – fifteen years after the play was written – Mazynski's production served as a model representation of the image of Kalinoŭski in the second half of the 20th century.

The dramatic poem by Arkadź Kuliašoŭ, *Chamucius* (1975), offered great possibilities for an excellent theatrical performance; in the poem the author offers a deep psychological portrait of the hero. However, the people who staged the eponymous show in the Brest Provincial Theatre (1981) followed the tradition path of romanticizing the figure of Kalinoŭski that had been created by Mirovič and Mazynski.

It is symptomatic that contemporary Belarusian theatres do not feel the need for Alieś Pietraškievič's play *Rycar svabody* (Knight of Liberty), written in 2003. In 2011 the idea was conceived of bringing the figure of Kastuś Kalinoŭski to the stage of the Republican Youth Theatre under the title *Majho junactva kryly* (Wings of my youth). The director, Uladzimir Savicki, turned not to the spirit of national rebirth, in the declarative spirit of Pietraškievič, but harked back to the Soviet-era dramatic poem of Arkadź Kuliašoŭ.

# КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ Ў КАЛЕКТЫЎНАЙ ПАМЯЦІ ЖЫХАРОЎ БЕЛАРУСІ
## *(па выніках сацыялагічных даследаванняў)*

*Аляксей Ластоўскі,*
*канд. сацыял. навук*
*(Менск)*

150-гадовы юбілей паўстання 1863–1864 гг. пад кіраўніцтвам Каліноўскага, які адзначаўся ў 2013 г., зноў ажывіў гарачыя дыскусіі наконт сучаснай інтэрпрэтацыі паўстання і асобы яго правадыра ў дачыненні да актуальных беларускіх рэаліяў.

Паўстанне адбывалася ў перыяд, калі на беларуска-літоўскіх землях рэалізоўваўся пераход ад польскага патрыятызму Рэчы Паспалітай да нараджэння нацыянальных патрабаванняў. Прамежкавы стан лозунгаў і ідэяў паўстання нараджае відавочныя цяжкасці у далейшых інтэрпрэтацыях. Так, для ўключэння паўстання і Кастуся Каліноўскага ў нацыянальны канон запатрабавалася істотная часавая дыстанцыя (фактычна, гэта адбылося ў 1920-я гг.). Да таго ж, немагчымасць адназначных вытлумачэнняў паўстання супадае з нявырашанымі пытаннямі беларускай ідэнтычнасці (суадносіны ліцьвінскай і русінскай традыцый, праваслаўя і каталіцызму, арыентацыі на Еўропу ці Расію). І, па-трэцяе, ужо ў гады незалежнасці Рэспублікі Беларусь стаўленне да паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага было наноў палітызаванае і надзеленае новым сэнсам моладзевага рэвалюцыйнага руху. І ў такім ракурсе яно стала важным сімвалам для нацыянальна-дэмакратычнай апазіцыі ў сучаснай Беларусі.

Да гэтага часу абмяркоўваецца, ці было гэта польскае ці беларускае паўстанне? Ці было яно шляхецкім ці таксама мела пад-

трымку сялянаў? Якім было стаўленне паўстанцаў да праваслаўя? Ці быў апраўданым паўстанцкі тэрор? Вырашальную ролю ў гэтых дыскусіях маюць спасылкі да асобы Кастуся Каліноўскага, да вызначэння яго персанальнай ідэнтычнасці і мэтаў дзейнасці.

Юбілей паўстання прывёў да чарговай хвалі абмеркаванняў, якія ўсё больш набываюць «тоеснасцевы» характар, то бок, аргументы і тэзісы актыўных удзельнікаў дыскусіі грунтуюцца не на жаданні аднавіць складаны і шматстайны характар гістарычнай рэчаіснасці, а ператвараюцца ў аднаўленне і падмацаванне ўласных праектаў нацыянальнай ідэнтычнасці. Актыўную ролю тут адыгрываюць крытыкі культа Каліноўскага з лагера «неазаходнерусаў», у той час як дзяржаўныя органы імкнуцца заставацца ўбаку ад гэтай ідэйнай канфрантацыі, што фактычна выключыла беларускую дзяржаву з юбілейных мерапрыемстваў.

Такая цікавасць да асобы Каліноўскага вымушае ставіць пытанні не толькі гістарыяграфічнага кшталту і не толькі аналітычнай рэканструкцыі яго нацыяналізацыі ў XX ст. ці камемарацыі ў савецкай Беларусі. Відавочна, таксама істотна, які вобраз Каліноўскага склаўся ў калектыўных уяўленнях жыхароў Беларусі пра мінулае? Ці сапраўды ён з'яўляецца пазітыўным героем у масавай свядомасці? Ці існуюць істотныя падзелы ў яго грамадскай інтэрпрэтацыі?

Варта таксама мець на ўвазе значны ўплыў не толькі сродкаў масавай інфармацыі, але і школьнай адукацыі на калектыўную памяць. У савецкія часы выкладанне гісторыі БССР было вельмі абмежаваным, але пры гэтым такім гістарычным асобам, як Францыск Скарына і Кастусь Каліноўскі надавалася асаблівая ўвага (пра гэта сведчыць той факт, што ў пасляваенных падручніках па гісторыі БССР толькі ім вылучалася асобная старонка на партрэт).

У дачыненні да Каліноўскага не працуе звыклая апазіцыя нацыянальнае/савецкае, калі мы можам супрацьстаўляць розныя мадэлі гістарычнай памяці – адну, скіраваную на пошукі ўласнай велічы ў далёкім мінулым, і другую, скіраваную на аднаўленне супольнасці з Расеяй. Кастусь Каліноўскі можа быць і нацыянальным, і савецкім, і гэта зноў жа нараджае складанасці ў інтэрпрэтацыі масавага стаўлення да гэтага гістарычнага дзеяча. Напрыклад, пра што можа

сведчыць пазітыўнае стаўленне да Кастуся Каліноўскага? Ці гэта павага да нацыянальнага гістарычнага канону, ці гэта эфект савецкай адукацыі, рэха вывучэння ў школе гісторыі БССР? Ці гэта ўжо вынік новай адукацыйнай палітыкі беларускай дзяржавы, дзе пры ўсіх нюансах паўстанне адлюстроўваецца ў пазітыўным ключы?

На шчасце, мы маем досыць істотны масіў сацыялагічных дадзеных, які дазваляе зрабіць абагульненні і паставіць некалькі гіпотэзаў, якія ўжо патрабуюць праверкі ў далейшых даследаваннях.

Коратка пазначым наяўныя вынікі сацыялагічных даследаванняў, якія мы можам скарыстаць для аналізу вобраза Кастуся Каліноўскага:

1) Даследаванні НІСЭПД, дзе Каліноўскі ўключаны ў спіс персаналіяў пры адказе на пытанне «*Кто из нижеперечисленных политических деятелей в наибольшей степени Вам симпатичен, соответствует Вашему идеалу политика?*» (пры не вельмі прадуктыўнай для нашых мэтаў фармулёўцы пытання, гэтыя даследаванні даюць вельмі каштоўную дыяхранічную перспектыву з 1996 па 2013 г., апроч таго, дазваляюць звязаць гэтае пытанне з геапалітычным выбарам і палітычнымі арыентацыямі рэспандэнтаў)[1];

2) Даследаванне Інстытута сацыялогіі НАН Беларусі 2008 г., дзе Кастусь Каліноўскі змешчаны ў шэраг гістарычных дзеячаў, і рэспандэнтам прапаноўваецца ацаніць унёсак гэтых дзеячаў у гісторыю Беларусі (фармулёўка пытання тут больш карэктная, дадзеныя гэтага даследавання дазваляюць прааналізаваць шэраг сацыяльна-дэмаграфічных параметраў)[2];

---

[1] Выкарыстоўваліся дадзеныя даследаванняў НІСЭПД, якія выкладзеныя ў сеціва: Белорусские герои: Калиновский и другие // НИСЭПИ [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://www.iiseps.org/analitica/544. Дата доступу: 23.06.2014; Белорусский пантеон // НИСЭПИ [Электроны рэсурс]. Рэжым доступу: http://iiseps.org/old/06-12-07.html. Дата доступу: 23.06.2014.

[2] Блок пытанняў па гістарычнай памяці рыхтаваўся аўтарам гэтага артыкула для сацыялагічнага апытання 2008 г., ажыццяўлёнага сектарам сацыяльнай псіхалогіі Інстытута сацыялогіі НАН Беларусі пад кіраўніцтвам Людмілы Навуменка.

3) Даследаванні лабараторыі НОВАК 2009 і 2012 гг. на замову кампаніі «Будзьма», якія дазваляюць праранжыраваць Каліноўскага ў рэйтынгу самых вядомых беларускіх гістарычных дзеячаў, а таксама яго патэнцыял у якасці «імя Беларусі»[3].

Адпаведна, ужо на падставе аналізу гэтых сацыялагічных дадзеных паспрабую вызначыць асноўныя рысы вобразу Кастуся Каліноўскага ў масавай гістарычнай свядомасці беларусаў.

*Рыса 1.* **Каліноўскі з'яўляецца адным з самых вядомых насельніцтву дзеячаў беларускай гісторыі.**

Для гэтай высновы найперш можна выкарыстаць даследаванні НОВАК 2009 і 2012 гг., дзе пытанне ставілася менавіта такім чынам: «*Каких из нижеперечисленных исторических личностей (деятелей, героев) Вы знаете, слышали?*» Пытанне задавалася ў закрытым фармаце, то бок, рэспандэнтам давалі падрыхтаваны спіс.

Вынікі гэтага даследавання выяўляюць наступную іерархію вядомасці гістарычных дзеячаў (табліца 1):

**Табліца 1**
*Ступень вядомасці беларускіх гістарычных асобаў, лабараторыя НОВАК, %*

| *Гістарычныя асобы* | *2009* | *2012* |
|---|---|---|
| Францыск Скарына | 94,8 | 95,7 |
| Еўфрасіння Полацкая | 95,0 | 92,9 |
| **Кастусь Каліноўскі** | **83,0** | **76,2** |
| Тадэвуш Касцюшка | 70,6 | 70,2 |
| Францішак Багушэвіч | 67,1 | 60,8 |
| Вітаўт | 54,7 | 47,1 |
| Леў Сапега | 48,0 | 46,9 |

[3] Дадзеныя даследавання лабараторыі НОВАК 2009 г. запазычаныя з прэзентацыі «Беларускія брэнды: гістарычная памяць, сімвалы і масавая культура», прадстаўленай Віталем Сіліцкім 2 снежня 2009 г. Дадзеныя даследавання лабараторыі НОВАК 2012 г. былі ласкава прадстаўленыя аўтару Надзеяй Яфімавай.

Адразу кідаецца ў вочы вялікая перавага асветнікаў, што можа быць сведчаннем найвялікшай папулярнасці «культурніцкай» версіі беларускай гісторыі, дзе галоўныя героі – культурныя дзеячы розных эпох, ад Еўфрасінні Полацкай да Васіля Быкава. Тым не менш, трэцяе месца Каліноўскага ў гэтым рэйтынгу – вельмі пачэснае.

У даследаванні лабараторыі НОВАК таксама ажыццяўлялася спроба вызначыць некалькі «брэндаў» Беларусі, сярод якіх значная роля адводзілася і гісторыі. Асобнае пытанне датычыла вызначэння найбольш выбітнага гістарычнага дзеяча (глядзіце табліцу 2). Каліноўскі тут знаходзіцца на трэцім месцы, хоць канфігурацыя постацяў пры такой фармулёўцы пытання змяняецца (тут пытанне давалася ў адкрытым фармаце, г. зн. рэспандэнты самастойна ўносілі адказы):

**Табліца 2**
*Выбар гістарычнага дзеяча ў якасці «імя Беларусі», лабараторыя НОВАК, %*

| *Імя Беларусі (гістарычныя дзеячы)* | *2009* | *2012* |
|---|---|---|
| Францыск Скарына | 24,8 | 20,6 |
| Пётр Машэраў | 12,6 | 9,9 |
| **Кастусь Каліноўскі** | **7,7** | **8,4** |
| Еўфрасіння Полацкая | 4,0 | 4,5 |
| Аляксандр Лукашэнка | 3,7 | 2,2 |
| Цяжка сказаць / няма адказу | 32,8 | 40,5 |

Няхай у дадзеным выпадку нас не палохае невялікая колькасць (7,7% і 8,4%) рэспандэнтаў, якія палічылі Каліноўскага найбольш выбітным дзеячам у айчыннай гісторыі. Для гістарычнай памяці беларусаў наогул характэрная невыразнасць і слабая праяўленасць, доказам чаго з'яўляецца і нежаданне ці немагчымасць для амаль паловы апытаных вызначыцца па гэтым пытанні. Паводле даследавання 2009 г., найбольш высока яго рэйтынг у якасці выбітнага дзеяча трымаецца сярод рэспандэнтаў з вышэйшай адукацыяй

(9,2%), тады як сярод людзей з пачатковай і няпоўнай сярэдняй адукацыяй Кастусь Каліноўскі ў такой якасці папросту адсутнічае.

Цікава тое, што паводле абодвух даследаванняў (2009 і 2012 г.) выяўляецца досыць устойлівая іерархія беларускіх гістарычных дзеячаў у масавай свядомасці. Топ-5 застаецца нязменным, і гэта ўжо сведчыць пра ступень трываласці гістарычнай памяці. Кастусь Каліноўскі нязменна займае трэцяе месца ў гэтым пантэоне, а калі ўлічваць эрозію памяці пра Пятра Машэрава (што будзе заўважна і па іншых выніках сацыялагічных даследаванняў, якія надалей будуць згадвацца ў тэксце), то кіраўнік паўстання мае добрыя шанцы выйсці ў будучыні на другое месца ў гэтым нацыянальным пантэоне.

*Рыса 2.* **Кастусь Каліноўскі ў свядомасці беларусаў трапляе ў катэгорыю «гістарычны дзеяч».**

Паводле вынікаў сацыялагічных даследаванняў, постаці «герояў» у беларускай гістарычнай памяці можна разбіць на тры асноўныя кластэры:

1) «Культурныя» дзеячы – тыя, хто стаў вядомы дзякуючы сваёй культурна-асветніцкай дзейнасці. Такія персанажы атрымоўваюць выключна пазітыўную ацэнку, паколькі тут не спрацоўваюць палітычныя падзелы;

2) «Палітычныя» дзеячы – гэта пераважна палітыкі XX стагоддзя, ацэнка якіх з'яўляецца вельмі інтэнсіўнай і выяўленай, але ў адрозненне ад культурных дзеячаў мы назіраем вялізную разнастайнасць у стаўленнях да іх насельніцтва. Для шэрагу палітыкаў вельмі пашыраныя негатыўныя меркаванні датычна іх ролі ў гісторыі. Асабліва негатыўна ў беларускай гістарычнай памяці ўспрымаюцца Іосіф Сталін, Міхаіл Гарбачоў і Станіслаў Шушкевіч. Прынцыповае значэнне для ацэнкі мінулага ў такім выпадку маюць палітычныя арыентацыі рэспандэнтаў;

3) «Гістарычныя» дзеячы – персаналіі, якія атаясамляюцца з даўнім мінулым. Яны выклікаюць пераважна нейтральна-пазітыўную рэакцыю ў масавай свядомасці. Значная частка рэс-

пандэнтаў наогул слаба ведае гістарычных дзеячаў, нават пры наяўнасці ведаў яны не выклікаюць такую жвавую і разнастайную рэакцыю як палітыкі.

Але пры гэтым рэспандэнты, прыхільныя да нацыянал-дэмакратычных пазіцый, больш пазітыўна ацэньваюць персаналіі з нацыянальна арыентаванага наратыву (Кастусь Каліноўскі, Вітаўт), тады як прыхільнікі А. Лукашэнкі і саюза з Расеяй больш схільныя пазітыўна ацэньваць ролю ў гісторыі расейскіх гістарычных дзеячаў (Аляксандр Суховаў, Пётр І і г.д.)

Важна тое, што пры наяўнасці гэтых падзелаў, гістарычныя дзеячы не выклікаюць адмоўнай рэакцыі, незалежна ад прыналежнасці да любога гістарычнага наратыву.

Гэтае адрозненне паміж кластэрамі «культурных», «палітычных» і «гістарычных» дзеячаў найбольш адчувальнае па выніках даследавання Інстытута сацыялогіі НАН Беларусі 2008 года (табліца 3).

**Табліца 3**

*Ацэнка ролі ў беларускай гісторыі асноўных гістарычных асобаў, Інстытут сацыялогіі, %*

| *Ацэнка ролі ў беларускай гісторыі* | *Станоўча* | *Супярэчліва* | *Адмоўна* | *Цяжка адказаць* |
|---|---|---|---|---|
| Аляксандр Лукашэнка | 57,4 | 24,2 | 7,9 | 10,4 |
| Станіслаў Шушкевіч | 9,0 | 26,5 | 31,1 | 33,3 |
| Міхаіл Гарбачоў | 11,3 | 33,8 | 30,6 | 24,3 |
| Пётр Машэраў | 67,7 | 7,4 | 3,1 | 21,8 |
| Іосіф Сталін | 7,8 | 27,2 | 43,5 | 21,4 |
| Уладзімір Ленін | 18,0 | 32,4 | 25,2 | 24,4 |
| **Кастусь Каліноўскі** | 51,6 | 13,7 | 3,8 | 30,9 |
| Аляксандр Сувораў | 40,4 | 15,2 | 6,5 | 38,0 |
| Пётр І | 40,3 | 16,5 | 5,0 | 38,1 |
| Францыск Скарына | 84,5 | 2,2 | 1,1 | 12,2 |
| Вітаўт | 34,1 | 16,9 | 2,1 | 47,0 |
| Еўфрасіння Полацкая | 84,0 | 2,5 | 1,1 | 12,5 |
| Усяслаў Чарадзей | 33,6 | 12,0 | 1,6 | 52,8 |

Што азначае прыналежнасць да катэгорыі «гістарычных дзеячаў» для беларускай гістарычнай памяці? Найперш істотна тое, што гэтыя персаналіі не выклікаюць адмоўнай рэакцыі (у выпадку Каліноўскага, адмоўна яго ролю ў беларускай гісторыі ацанілі толькі 3,8% апытаных). З улікам адукацыйнай палітыкі і ўключэннем у актыўнае жыццё моладзі, якая вывучае ў школах беларускую гісторыю, няхай сабе і ў абмежаваным аб’ёме, уся катэгорыя «гістарычных дзеячаў» мае відавочны патэнцыял для пашырэння сваёй папулярнасці ў масавай свядомасці беларусаў. Пацверджаннем гэтага з’яўляецца і трэцяя рыса вобразу Каліноўскага.

*Рыса 3.* **Назіраецца пазітыўная дынаміка ў сімпатыях да Кастуся Каліноўскага, якая з’яўляецца стабільнай і падмацоўваецца больш высокімі станоўчымі ацэнкамі кіраўніка паўстання сярод моладзі**.

Фактычна, адзіная магчымасць для нас прааналізаваць, як змянялася на працяглым часавым адрэзку стаўленне да Каліноўскага з боку насельніцтва Беларусі – гэта дадзеныя НІСЭПД з пытаннем пра выбар «ідэала палітыка». Паколькі ў прапанаваны спіс палітычных лідараў яшчэ ў 1996 г. быў уключаны Каліноўскі, гэта дае магчымасць заўважыць дынаміку стаўлення за 17 год – да 2013 г. уключна.

Вось гэтыя дадзеныя ў параўнанні з рэйтынгамі іншых палітычных дзеячаў (табліца 4). Адразу ж назіраецца цалкам натуральная тэндэнцыя паступовай дэкамунізацыі, забыцця значэння савецкіх лідараў, што ў найбольшай ступені адбілася на Леніне (падзенне папулярнасці з 18,7% да 5,9%).

Тут заўважная тэндэнцыя, супрацьлеглая росту папулярнасці, якая тычыцца дзеячаў, што звычайна ўключаюцца ў нацыянальны гістарычны пантэон. З усяго спісу мы выбралі двух самых папулярных дзеячаў з нацыянальнага наратыву: Кастуся Каліноўскага і Вітаўта. Іх папулярнасць вырасла амаль у тры разы, а гэта сведчыць,

што марудна, але ўсё ж адбываецца заўважная нацыяналізацыя гістарычнай памяці праз замену лідараў з савецкага пантэону на нацыянальны канон.

**Табліца 4**

*Выбар найлепшых палітычных лідараў, НІСЭПД, %*

| | *06'96* | *06'04* | *06'08* | *06'12* | *03'13* |
|---|---|---|---|---|---|
| Аляксандр Лукашэнка | - | 21,3 | 25,2 | 20,6 | 20,9 |
| Пётр Машэраў | 45,2 | 32,7 | 23,5 | 23,2 | 19,8 |
| Уладзімір Пуцін | - | 39,3 | 31,2 | 19,2 | 19,8 |
| Пётр I | 34,2 | 30,9 | 18,5 | 16,1 | 12,1 |
| Кастусь Каліноўскі | 4,2 | 11,0 | 13,6 | 15,1 | 11,7 |
| Вітаўт | 2,2 | 6,6 | 8,8 | 9,3 | 7,1 |
| Іосіф Сталін | 10,8 | 9,0 | 6,3 | 3,9 | 6,4 |
| Міхаіл Гарбачоў | 4,2 | 8,7 | 7,6 | 7,2 | 6,1 |
| Уладзімір Ленін | 18,7 | 8,6 | 8,2 | 5,2 | 5,9 |

Гэтыя змены адбываюцца праз прадказальную змену каштоўнасцяў розных пакаленняў: калі людзі старэйшага пакалення ў большай ступені застаюцца арыентаванымі на каштоўнасці савецкага часу, то моладзь ужо не засвойвае камуністычныя арыенціры праз сістэму адукацыі. Цікава, што найбольш папулярным палітычным лідарам сярод беларускай моладзі (18–29 гадоў) апынуўся менавіта Каліноўскі, а ў пяцёрку прызнаных моладдзю палітыкаў уваходзіць таксама і Вітаўт, што досыць сур'ёзна разыходзіцца з уяўленнямі старэйшых пакаленняў. Але такая ацэнка Каліноўскага сярод моладзі сведчыць пра тое, што пазітыўная дынаміка стаўлення да кіраўніка паўстання 1863 г. будзе захоўваць стабільнасць, і праз натуральную змену пакаленняў будзе пашырацца.

Аднак ёсць казус, на які варта звярнуць увагу, а менавіта зніжэнне рэйтынгу папулярнасці Каліноўскага за адзін год, паміж даследаваннямі 2012 і 2013 года – з 15,1% да 11,7%.

Аналітыкі НІСЭПД тлумачаць гэты феномен такім чынам:

*«Не исключено, что имеет место просто флуктуация, случайное отклонение. Однако возможно и более содержательное объяснение. Фигура К. Калиновского была в последние месяцы действительно актуализирована, однако достаточно амбивалентным образом.*

*Именно сейчас появилась серия публикаций, авторы которых отстаивали точку зрения, согласно которой К. Калиновский является в лучшем случае польским, но никак не белорусским героем, что никакого белорусского национального самосознания у него не было. Авторы некоторых из этих публикаций писали о весьма неприязненном отношении лидера восстания к русскому православию.*

*Православная церковь в Беларуси не высказывала своего официального отношения к К. Калиновскому, но по некоторым косвенным данным можно судить о том, что неофициальное отношение было сугубо отрицательным и было доведено до паствы, по крайней мере до ее части. Не исключено, что нежелание белорусской власти как-то официально отмечать годовщину гибели К. Калиновского объясняется этой неофициальной, но достаточно внятно выраженной позицией БПЦ»*[4].

Сапраўды, зніжэнне папулярнасці невялікае, і захоўваецца ў межах статыстычнай памылкі. У любым выпадку, агульнай тэндэнцыі гэта не змяняе.

Адзначыўшы рознае стаўленне да Каліноўскага сярод розных сацыяльна-дэмаграфічных групаў, паспрабуем разгледзець гэтае пытанне больш дэталёва.

---

4 Белорусские герои: Калиновский и другие // НИСЭПИ [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://www.iiseps.org/analitica/544. Дата доступу: 23.06.2014.

*Рыса 4.* **Сацыяльна-дэмаграфічны партрэт «прыхільнікаў» Каліноўскага карэлюе з партрэтам прыхільнікаў нацыянальна-дэмакратычных каштоўнасцяў, але перавышае гэтую групу сваімі памерамі, то бок, істотна выходзіць за межы «апазіцыйнасці».**

Для пацверджання гэтай высновы мы можам скарыстаць дадзеныя даследавання НІСЭПД за сакавік 2013 г. Пытанне было сфармуляванае наступным чынам: «*Хто з ніжэйпералічаных палітычных дзеячаў вам найбольш сімпатычны, адпавядае вашаму ідэалу палітыка?*» Найперш звернем увагу на тое, якія прэферэнцыі ў выбары ідэальнага палітыка маюць розныя ўзроставыя групы (табліца 5).

**Табліца 5**
*Выбар ідэальнага палітыка рознымі ўзроставымі групамі, НІСЭПД, %*

| *Варыянт адказу* | *Агулам* | *Узрост* | | |
|---|---|---|---|---|
| | | *18-29* | *30-59* | *60+* |
| Аляксандр Лукашэнка | 20,9 | 12,5 | 15,8 | 40,6 |
| Пётр Машэраў | 19,8 | 11,3 | 21,4 | 24,7 |
| Уладзімір Пуцін | 19,8 | 19,9 | 21,4 | 15,7 |
| Пётр I | 12,1 | 11,1 | 12,0 | 13,3 |
| Кастусь Каліноўскі | 11,7 | 17,3 | 11,6 | 6,4 |
| Вітаўт | 7,1 | 11,6 | 5,9 | 5,2 |
| Іосіф Сталін | 6,4 | 4,5 | 5,4 | 10,7 |
| Міхаіл Гарбачоў | 6,1 | 4,8 | 6,1 | 7,5 |
| Уладзімір Ленін | 5,9 | 2,5 | 6,1 | 8,7 |

Заўважна, што найбольш актыўна выбіраюць Каліноўскага ў якасці ідэальнага палітычнага лідара прадстаўнікі малодшага пакалення (18–29 гадоў), і паводле папулярнасці сярод гэтай генерацыі ён саступае толькі Уладзіміру Пуціну (17,3% супраць 19,9%).

Але найбольш цікава паглядзець на тое, наколькі на дадзены выбар уплываюць геапалітычныя і ўнутрыпалітычныя арыентацыі насельніцтва краіны (табліца 6).

**Табліца 6**

*Выбар ідэальнага палітыка ў залежнасці ад геапалітычных і палітычных арыентацый, НІСЭПД, %*

| Варыянт адказу | Агулам | Геапалітычны выбар | | Ці давяраеце вы Прэзідэнту? | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | РФ | ЕЗ | Так | Не |
| Аляксандр Лукашэнка | 20,9 | 31,6 | 7,5 | 44,3 | 1,1 |
| Пётр Машэраў | 19,8 | 23,4 | 16,3 | 18,9 | 20,8 |
| Уладзімір Пуцін | 19,8 | 29,1 | 12,9 | 20,2 | 16,2 |
| Пётр I | 12,1 | 11,3 | 11,6 | 8,5 | 15,8 |
| Кастусь Каліноўскі | 11,7 | 7,8 | 17,3 | 8,1 | 17,5 |
| Вітаўт | 7,1 | 5,9 | 8,3 | 5,0 | 9,5 |
| Іосіф Сталін | 6,4 | 8,2 | 4,9 | 10,0 | 2,3 |
| Міхаіл Гарбачоў | 6,1 | 7,4 | 5,5 | 7,0 | 4,7 |
| Уладзімір Ленін | 5,9 | 8,7 | 4,1 | 9,0 | 2,9 |

Можам таксама параўнаць змены сацыяльна-палітычнага партрэта прыхільнікаў Каліноўскага за апошні год (табліца 7).

**Табліца 7**

*Сацыяльна-палітычны партрэт прыхільнікаў Кастуся Каліноўскага ў якасці ідэальнага палітыка, НІСЭПД, %*

| Год | Агулам | Узрост | | | Геапалітычны выбар | | Ці давяраеце вы Прэзідэнту? | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 18-29 | 30-59 | 60+ | РФ | ЕЗ | Так | Не |
| 2012 | 15,1 | 19,8 | 15,7 | 8,9 | 12,9 | 18,5 | 10,9 | 18,4 |
| 2013 | 11,7 | 17,3 | 11,6 | 6,4 | 7,8 | 17,3 | 8,1 | 17,5 |

Гэтыя дадзеныя яскрава пацвярджаюць выснову пра папулярнасць Каліноўскага найперш сярод моладзі.

Розніца паміж пакаленнямі пацвярджаецца і дадзенымі даследавання Інстытута сацыялогіі 2008 г., калі сярод малодшага пакалення (да 20 гадоў) пазітыўная ацэнка ролі Каліноўскага ў беларускай гісторыі дасягала 63,0%, то сярод старэйшага пакалення

зніжалася да 46,6%. Але тут найбольш істотна, што гэтая ацэнка сярод людзей старэйшага ўзросту зніжаецца не за кошт павелічэння адмоўных ацэнак, а за кошт павелічэння групы рэспандэнтаў, якім цяжка такую ацэнку даць (адмоўна – 4,8%, цяжка сказаць – 37,6%).

Калі зноў вярнуцца да даследавання НІСЭПД, то выяўляецца досыць істотная залежнасць ацэнкі Каліноўскага ад палітычных арыентацый рэспандэнтаў, відавочна, што яго рэйтынг як палітычнага лідара значна больш высокі сярод тых, хто арыентаваны на інтэграцыю з Еўрапейскім звязам (сярод гэтай групы рэспандэнтаў Каліноўскі вяршэнствуе), а таксама сярод тых, хто не давярае Прэзідэнту Беларусі Аляксандру Лукашэнка (сярод гэтай групы Каліноўскі знахозіцца на другім месцы і саступае ў папулярнасці толькі Пятру Машэраву).

Але пры ўсёй важнасці ўплыву палітычных арыентацый на стаўленне да Каліноўскага, варта звярнуць увагу на тое, што гэты гістарычны дзеяч знаходзіцца «вышэй» актуальных палітычных падзелаў, яго папулярнасць значна пераўзыходзіць памеры групы прыхільнікаў нацыянал-дэмакратычнай апазіцыі (у найлепшым выпадку – гэта 30% насельніцтва).

Зноў жа, варта ўзгадаць даследаванне Інстытута сацыялогіі НАН Беларусі 2008 г., дзе пазітыўна ролю Каліноўскага ў беларускай гісторыі ацанілі больш ад паловы (51,6%) апытаных. Відавочна, што Каліноўскі – гэта вельмі «палітызываны» гістарычны персанаж для беларускай масавай свядомасці, але ён не «палітызаваны» цалкам, як лідары XX ст., таму пазітыўнае ўспрыняцце вобразу Каліноўскага можа пераадольваць палітычныя падзелы.

І напрыканцы хацеў бы звярнуць увагу на цікавую адметнасць вобразу Каліноўскага, якая вылучаецца пры аналізе сацыяльна-дэмаграфічнай спецыфікі стаўлення да лідара паўстання 1863 г., менавіта надзвычай падвышанае значэнне падзелу па абласцях у стаўленні да Каліноўскага. Гэта тым больш дзіўна, што пры ацэнцы іншых гістарычных дзеячаў адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел Беларусі не адыгрывае прынцыповай ролі.

Прывяду дадзеныя даследавання Інстытута сацыялогіі 2008 г. (табліца 8).

**Табліца 8**
*Ацэнка ролі Кастуся Каліноўскага ў беларускай гісторыі ў залежнасці ад тэрытарыяльнай прыналежнасці, Інстытут сацыялогіі, %*

| *Вобласці* | *Станоўча* | *Супярэчліва* | *Адмоўна* | *Цяжка сказаць* |
|---|---|---|---|---|
| Берасцейская | 60,1 | 12,5 | 4,8 | 22,6 |
| Віцебская | 40,5 | 17,8 | 3,1 | 38,7 |
| Гомельская | 49,4 | 14,3 | 6,5 | 29,9 |
| Гарадзенская | 70,1 | 10,9 | 3,6 | 15,3 |
| г. Менск | 45,2 | 17,3 | 4,6 | 33,0 |
| Менская | 45,2 | 10,7 | 1,7 | 42,4 |
| Магілёўская | 56,6 | 10,7 | 1,6 | 31,1 |
| Агулам | 51,6 | 13,7 | 3,8 | 30,9 |

У іншых выпадках асаблівых адрозненняў у ацэнцы гістарычных персанажаў і падзеяў у Беларусі не назіраецца. Асоба Кастуся Каліноўскага з'яўляецца выключэннем. У нейкай ступені высокія станоўчыя ацэнкі ролі Каліноўскага ў беларускай гісторыі, якія даваліся ў Гарадзенскай вобласці, можна патлумачыць тым, што якраз там захавалася найбольш «месцаў памяці», звязаных з паўстаннем, ды і ў савецкі час менавіта ў гэтым рэгіёне найбольш ўшаноўвалася постаць гістарычнага дзеяча.

У падсумаванні варта адзначыць, што заўважны плён і савецкай адукацыйнай палітыкі, і намаганняў нацыянальна арыентаванага асяроддзя ў прапагандзе пазітыўнага вобразу Каліноўскага. Успрыняцце кіраўніка паўстання ў масавай свядомасці жыхароў Беларусі пераважна станоўчае. Разам з тым, Каліноўскі не ў стане прэтэндаваць на ролю аб'яднальнага гістарычнага героя для ўсёй беларускай нацыі, ён не настолькі інтэгратыўны для гістарычнай свядомасці, як Францішак Скарына ці Еўфрасіння Полацкая. Па-

ранейшаму істотную ролю для яго ўспрыняцця адыгрываюць грамадска-палітычныя арыентацыі рэспандэнтаў. Хоць вострая крытыка з абвінавачаннямі Кастуся Каліноўскага ў «польскасці» і «антыправаслаўі» практычна не знаходзіць адлюстравання ў масавай свядомасці. Пазітыўная дынаміка ў трактоўцы постаці Каліноўскага падмацоўвае тэндэнцыю паступовай нацыяналізацыі беларускай гістарычнай памяці, якая фіксуецца і па іншых паказніках. Пры ўсіх сваіх намаганнях і фінансавай падтрымцы з боку расейскіх уладных структураў пераламіць гэты трэнд «неазаходнерусам» практычна немагчыма.

## Kastuś Kalinoŭski in the Collective Memory of the People of Belarus: Results of Sociological Research

*Aliaksiej Lastoŭski*
*Miensk*

The 150th anniversary of the Uprising has increased interest in the person of Kastuś Kalinoŭski. There is therefore a need to address more closely particular features of Belarusian historical memory: what image of the man has been formed in the general public's view of the past? Is he really seen as a positive hero, or are there significant differences in the way he is perceived by society at large?

Fortunately we have at our disposal a sufficient quantity of sociological data that permit us to make particular generalisations and draw some preliminary conclusions.

The efforts of both Soviet educational policy and the nationally-minded milieu in propagating a positive image of Kalinoŭski have borne fruit – he is mainly viewed in a favourable light by the people of Belarus. At the same time, he cannot lay claim to the role of unifying national hero for the whole Belarusian nation, in the way that Francysk Skaryna and St Euphrosyne of Polacak can. The social and political views of the respondents continue to play a crucial role in the way he is perceived; for some of the people of Belarus he is identi-

fied with anti-Russian and anti-Orthodox sentiments, and this has a negative impact on his image. However, there is a positive shift in the way people regard him; this serves to strengthen the tendency of Belarusian historical memory to focus more on national history. This is borne out by other indicators as well.

# 120-ГАДОВЫ ЮБІЛЕЙ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА Ў БССР (1958)

*Андрусь Унучак,*
*канд. гіст. навук*
*(Менск)*

Юбілеі Кастуся Каліноўскага адзначаліся ў БССР, пачынаючы ад 1924 г., калі споўнілася 60 гадоў з дня яго смяротнага пакарання[1]. Адзначэнне круглых датаў мела вялікую ролю ў фармаванні вобразу К. Каліноўскага, папулярызацыі яго асобы і стымуляванні навуковых даследаванняў яго жыцця і дзейнасці. Галоўная адметнасць юбілеяў Каліноўскага ў БССР заключалася ў тым, што яны, калі і не святкаваліся шырока, то прынамсі заўважаліся і пэўным чынам адзначаліся на дзяржаўным узроўні. У гэта былі заангажаваныя навукоўцы-гуманітарыі, пісьменнікі, мастакі, скульптары, іншыя прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі, якія працавалі ў дзяржаўных інстытуцыях.

1958 год – гэта час хрушчоўскай «адлігі» ў Савецкім Саюзе, якая, безумоўна, закранула БССР. У гэты перыяд беларуская інтэлігенцыя атрымала негалосны дазвол на «рэабілітацыю» і пераасэнсаванне жыцця і дзейнасці многіх асобаў і падзеяў айчыннай гісторыі і культуры. І якраз юбілеі станавіліся нагодай пагаварыць пра таго ці іншага персанажа беларускай гісторыі, ушанаваць яго памяць, пашырыць веды пра яго ў грамадстве. Усё гэта непасрэдна

[1] Цьвікевіч І. Кастусь Каліноўскі. Біографічна-гістарычны нарыс (К 60-годзьдзю яго сьмерці) // Полымя. 1924. № 2. С. 3–18; Зімёнка А. Заходняму брату. Памяці К. Каліноўскага // Полымя. 1924. № 2. С. 20–21 і інш.

датычыць таксама святкавання 120-годдзя з дня нараджэння аднаго з кіраўнікоў паўстання 1863 г. у Беларусі.

Паспрабую адказаць на пытанне, як гэты юбілей паўплываў на фармаванне вобразу Каліноўскага ў афіцыйным дыскурсе БССР.

Напачатку варта адзначыць, што многія даследчыкі таго перыяду звычайна знаходзяцца пад уладай інтуітыўнага ўяўлення, што савецкая ідэалогія была чымсьці маналітным, канчаткова сфармаваным у 1930-я – пачатку 1950-х гг., і да канца 1980-х гг. яна зведала толькі касметычныя змены.

У дадзеным рэфераце, на прыкладзе вобразу К. Каліноўскага паспрабую паказаць, што ў БССР меў месца пэўны інтэлектуальны працэс, і што менавіта асоба кіраўніка паўстання 1863–1864 гг. была тым «месцам памяці», дзе можна было казаць пра беларускую нацыю, нацыянальную свядомасць і дзяржаўнасць. Але для таго, каб успамінаць Каліноўскага, мала было дазволу ці, прынамсі, адсутнасці забароны. Патрэбная была нагода. Ёю і стаўся ягоны юбілей.

Яшчэ ў 1957 г. на пленуме Саюза пісьменнікаў БССР прагучала інфармацыя аб тым, што: «Да 40-й гадавіны Вялікага Кастрычніка тэатры разлічваюць паставіць у новых рэдакцыях п’есы «Святло з Усходу» Пятра Глебкі і «Кастусь Каліноўскі» Міровіча»[2]. Пастаноўка п’есы Еўсцігнея Міровіча, прымеркаваная да юбілею Кастрычніцкай рэвалюцыі, сама па сабе адчыняла ідэалагічную дарогу да святкавання юбілею К. Каліноўскага ў 1958 г. Да таго ж, у 1957 г. праграма ўшанавання памяці пра Каліноўскага была падтрыманая на ўзроўні сакратара ЦК КПБ Цімафея Гарбунова, які рэкамендаваў Гарадзенскаму абкаму КПБ выкарыстаць прапановы пісьменніка Аляксея Карпюка, выкладзеныя апошнім у лісце на імя Ц. Гарбунова яшчэ 9 студзеня 1956 г.

У згаданым лісце Аляксей Карпюк сярод іншага пісаў: *«Да гэтага часу ў нас на Гродзеншчыне не ўшанавана памяць выдат-*

---

[2] Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва (БДАМЛіМ). Ф. 78, воп. 1, адз. з. 76. Арк. 221.

*ных дзеячаў беларускай культуры: Кастуся Каліноўскага, Элаізы Пашкевіч (Цёткі), Багдановіча, Карскага і іншых. Як гэта не дзіўна, але ўсё-ж нават такому выдатнаму нацыянальнаму герою, як Каліноўскаму, якога добра ведае ўвесь СССР, на яго радзіме ў Свіслачы няма нават мемарыяльнай дошкі […] Прыведзеныя мной факты вызываюць у некаторай часткі мясцовай беспартыйнай інтэлігенцыі розныя крыватолкі і не зусім здаровыя гутаркі аб мнімым ігнараванні беларускай культуры, на што я, як камуніст, лічу сваім абавязкам звярнуць Вашу ўвагу.*

*Каб пакласці канец усялякім гутаркам, а таксама каб выказаць належнае выдатным людзям нашага народа, на маю думку, першым чынам трэба зрабіць наступнае: Па Каліноўскаму: 1. Прысвоіць Гродзенскаму педагагічнаму інстытуту імя Кастуся Каліноўскага (ка дню 16 лютага, калі Каліноўскі быў павешаны)*[3]*; 2. Свіслацкую сярэднюю школу назваць імем Каліноўскага; 3. На месцы былой гімназіі, дзе вучыўся Каліноўскі, ўстанавіць мемарыяльную дошку; 4. Цэнтральную вуліцу Свіслачы назваць імем Кастуся Каліноўскага»*[4].

Пісьменнік сцвярджаў, што агучаныя ім першачарговыя прапановы не патрабуюць вялікіх матэрыяльных выдаткаў. На другім этапе трэба дбаць пра ўстаноўку помніка К. Каліноўскаму, дзеля чаго варта стварыць асобную камісію.

Роўна праз год, 15 студзеня 1957 г. з ЦК КПБ на імя сакратара Гарадзенскага абкама КПБ Баранава прыйшоў ліст, падпісаны Ц. Гарбуновым: «*Накіроўваю Вам на разгляд просьбу намесніка Гарадзенскага літаратурнага абласнога аб'яднання тав. Карпюка аб увекавечанні памяці выдатных дзеячаў беларускай культуры: Кастуся Каліноўскага, Алаізы Пашкевіч (Цёткі), Багдановіча, Карскага. Думаю, што прапанова, якая зыходзіць ад*

[3] Тут Аляксей Карпюк відавочна зрабіў памылку, бо Каліноўскі быў павешаны 10(22) сакавіка 1864 г. (заўвага аўт.).

[4] Спадчына акадэміка Яўхіма Карскага. Да 150-годдзя з дня нараджэння [Электронны рэсурс. CD-ROM]. Мінск, 2010.

*пісьменнікаў, заслугоўвае ўвагі. Тое, што прапаноўвае тав. Карпюк, падтрымліваецца Праўленнем Саюза пісьменнікаў Беларускай ССР.*

*Я са свайго боку лічу, што гэта мерапрыемства трэба было б правесці, у гэтым ёсць вялікі сэнс. Можна было б прысвоіць Гарадзенскаму педагагічнаму інстытуту імя Каліноўскага, на месцы былой гімназіі, дзе вучыўся Каліноўскі, устанавіць мемарыяльную дошку, адну з вуліц Свіслачы назваць імем Каліноўскага»*[5].

Як відаць, на ўзроўні ЦК былі падтрыманыя амаль усе прапановы А. Карпюка, за выключэннем устаноўкі помніка. Іх рэалізацыю, відавочна, прымяркоўвалі да 120-годдзя з дня нараджэння кіраўніка паўстання.

У студзені 1958 г. Гарадзенскі абкам КПБ і аблвыканкам прынялі рашэнне арганізаваць у Свіслачы музей Кастуся Каліноўскага. Інфармацыя пра гэта з’явілася на старонках газеты «Літаратура і мастацтва», органа Саюза пісьменнікаў БССР[6].

Цэнтральны юбілейны артыкул да 120-годдзя з дня нараджэння К. Каліноўскага напісаў прафесар БДУ, філосаф Іван Лушчыцкі[7]. Першапачаткова артыкул меў назву «Погляды Кастуся Каліноўскага па нацыянальнаму пытанню (Да 120-годдзя з дня нараджэння)»[8]. Знакавым было тое, што Іван Лушчыцкі для юбілейнага артыкула абраў адну з самых вострых тэмаў, звязаных з Каліноўскім, – нацыянальнае пытанне. Праўда, пры гэтым ён адзначыў, што галоўным пытаннем паўстання 1863–1864 гг. было «аграрна-сялянскае».

Нягледзячы на тое, што загаловак артыкула пры падрыхтоўцы да друку быў зменены, ён на самой справе быў прысвечаны амаль выключна нацыянальным поглядам Кастуся Каліноўскага.

---

5 Тамсама.

6 Кісялёў Г. З думай пра Беларусь. Мінск, 1966. С. 217.

7 Лушчыцкі І. Выдатны рэвалюцыянер-дэмакрат (Да 120-годдзя з дня нараджэння К. Каліноўскага) // Літаратура і мастацтва. 1958. 22 студзеня. № 7. С. 2.

8 БДАМЛМ. Ф. 12, воп. 1, адз. з. 360. Арк. 52–71.

І. Лушчыцкі пісаў: «*Паколькі пытанне аб рэвалюцыйным дэмакратызме К. Каліноўскага больш ці менш асветлена ў друку, мы знарок падрабязна спынімся на яго поглядах па нацыянальнаму пытанню*»[9].

Напачатку аўтар даў характарыстыку Каліноўскаму, якая сталася зыходным пунктам далейшага асвятлення яго асобы і дзейнасці. Прафесар БДУ пісаў: «*Выдатны беларускі рэвалюцыянер-дэмакрат Кастусь Каліноўскі нарадзіўся 21 студзеня 1838 года ў маёнтку Мастаўляны Гродзенскага павету. Паходзіць ён з беларускай сям'і дробнапаместнага дваранства*».

Пасля гэтага ў тэксце артыкула пачаліся рэдактарскія купюры. Так, быў выкраслены наступны абзац: «*Прагрэсіўнае значэнне публіцыстычнай і вуснай агітацыйнай дзейнасці Каліноўскага заключаецца ў тым, што ён гаварыў з народам на яго роднай беларускай мове. […] Вядома, што вялікадзяржаўныя і польскія нацыяналісты зняважліва ставіліся да беларускай мовы. Яны называлі яе «мужыцкай», «сярмяжнаю» моваю. У процілегласць нацыяналістам рознага роду, Каліноўскі выступае ў абарону правоў беларускага народу на развіццё сваёй нацыянальнай культуры, мовы і літаратуры*»[10].

Аднак, не зважаючы на гэтую купюру, далей па тэксце ішла інфармацыя пра тое, што «*Каліноўскі змагаўся за стварэнне школ на роднай мове […] выкрываў царскі ўрад, які праводзіў палітыку гвалтоўнай русіфікацыі школ і назначаў настаўнікамі чыноўнікаў-шавіністаў […] Ён патрабаваў, каб у школах дзяцей навучалі на іх роднай мове або на той мове, на якой народ добраахвотна сам пажадае навучаць сваіх дзяцей* (падкрэслена мною – *А. У.*)»[11].

[9] Лушчыцкі І. Выдатны рэвалюцыянер-дэмакрат (Да 120-годдзя з дня нараджэння К. Каліноўскага) // Літаратура і мастацтва. 1958. 22 студзеня. № 7. С. 2.

[10] БДАМЛМ. Ф. 12, воп. 1, адз. з. 360, арк. 54.

[11] Лушчыцкі І. Выдатны рэвалюцыянер-дэмакрат (Да 120-годдзя з дня нараджэння К. Каліноўскага) // Літаратура і мастацтва. 1958, 22 студзеня. № 7. С. 2.

З'яўленне апошняга тэзісу яўна выклікана тым, што ў БССР пастаянна павялічвалася колькасць рускамоўных школаў.

Паводле Івана Лушчыцкага, «польскія буржуазна-памешчыцкія нацыяналісты і вялікарускія памешчыцка-дваранскія шавіністы» ўсяляк намагаліся «сказіць» погляды Каліноўскага на нацыянальнае пытанне: «*З гэтай мэтай у літаратуры была пушчана легенда, з аднаго боку, польскімі буржуазна-памешчыцкімі нацыяналістамі аб «сепаратызме» Каліноўскага і яго прыхільнікаў. Гэта азначала, што быццам ён жадаў парваць якія б то ні было зносіны з польскім нацыянальна-вызваленчым рухам і весці незалежную ад Польскага Часовага Народнага Ўраду барацьбу з царызмам і памешчыкамі за ўтварэнне самастойнай літоўска-беларускай дзяржавы. З другога боку, памешчыцка-дваранскія велікарускія шавіністы распаўсюджвалі небывальшчыну аб тым, што Каліноўскі – польскі рэвалюцыянер, які змагаўся за нацыянальнае вызваленне Польшчы, за аддзяленне Беларусі і Літвы ад Расіі і ўтварэнне самастойнай літоўска-беларускай дзяржавы ў складзе польскай федэрацыі*»[12].

Пакрытыкаваўшы рускіх і палякаў, аўтар спыніўся на поглядах «беларускіх нацыяналістаў»: «*Не дзіва, што так моцна ўхапіліся за такія выдумкі (аб «дзяржаўніцкіх поглядах Каліноўскага». – А. У.) ворагі працоўных – беларускія буржуазныя нацыяналісты. Усёй істотаю ненавідзеўшыя ўсё перадавое, рускае, як і беларускае, яны стараліся ўсяляк фальсіфікаваць ідэйную спадчыну Каліноўскага, паказваючы яго ў ролі барацьбіта супраць Расіі. Яны ахвотна, разам з памешчыцка-дваранскімі велікарускімі шавіністамі прыпісвалі Каліноўскаму патрабаванне аб стварэнні незалежнай беларуска-літоўскай дзяржавы ў адрыве ад Расіі*»[13].

Цікава, што ў друк не пайшоў абзац І. Лушчыцкага, дзе ўзгадвалася сувязь Каліноўскага з БНР. Гэты абзац стаяў адразу пасля крытыкі «беларускіх буржуазных нацыяналістаў»: «*Фальсіфікуючы гісторыю, яны («беларускія буржуазныя нацыяналісты». – А. У.)*

---

[12] Тамсама.

[13] Тамсама.

*нагла і бесцырымонна хлусілі на Каліноўскага і беларускі народ, заяўляючы, што яго ідэя незалежнасці Беларусі ад Расіі ажыццёўлена 25 сакавіка 1918 г. актам аб утварэнні марыянетачнай «Беларускай Народнай Рэспублікі», на чале якой стаялі ворагі працоўных мас – беларускія буржуазныя нацыяналісты, прабаваўшыя гандляваць агулам і ў розніцу чужой радзімай»*[14].

Рэдактарскай рукой з юбілейнага артыкула была выкраслена крытыка Іванам Лушчыцкім высноваў польскага даследчыка Віктара Кардовіча, які пісаў, што Кастусь Каліноўскі бачыў будучыню Беларусі ў федэратыўнай дзяржаве з Польшчай[15].

Цікава, што І. Лушчыцкі крытыкаваў не толькі ідэйных ворагаў савецкай сістэмы, але і аўтараў маскоўскага падручніка па гісторыі СССР, які выйшаў у 1954 г. Ён пісаў, што *«патрабаванне аб стварэнні Літоўска-Беларускай рэспублікі прыпісваюць беларускім рэвалюцыянерам-дэмакратам аўтары падручніка «Гісторыя СССР» пад рэдакцыяй праф. М. В. Нечкінай. Не толькі ў першым, але і ў другім, перапрацаваным і дапоўненым выданні падручніка аўтары працягваюць прытрымлівацца гэтага пункту погляду. «На чале руху ў Беларусі, – сказана там, – стаў «Чырвоны жонд» (чырвоны ўрад), галоўная ўвага якога накіравана на ўзмацненне сувязі з шырокімі масамі.*

*«Чырвоны жонд» дзейнічаў пад кіраўніцтвам беларускага рэвалюцыянера Кастуся Каліноўскага, вучня рускіх рэвалюцыйных дэмакратаў, выдатнага рэвалюцыйнага дэмакрата. «Жонд» патрабаваў радыкальнага вырашэння сялянскага пытання ў форме раздзелу маёнткаў паміж сялянамі і стварэння асобнай літоўска-беларускай рэспублікі (падкрэслена І. Лушчыцкім. – А. У.)»*[16]. І далей, *«аўтары падручніка ў цэлым даюць правільную ацэнку дзейнасці*

[14] БДАМЛіМ. Ф. 12, воп. 1, адз. з. 360. Арк. 60.

[15] Тамсама. Арк. 57.

[16] История СССР. Том II. Россия в XIX веке. Кризис феодализма. Утверждение капитализма. Под редакцией члена-корреспондента Академии наук СССР . М. В. Нечкиной. Москва, 1954. С. 447.

*Каліноўскага, але яны таксама паўтарылі легенды аб тым, быццам Каліноўскі і яго прыхільнікі змагаліся за стварэнне асобнай літоўска-беларускай рэспублікі, і не разабралі крытычна пытанне аб тым, што ў той час азначала гэтае пытанне»* [17].

На думку Івана Лушчыцкага і рэдакцыі «Літаратуры і мастацтва», «*патрабаванне аб стварэнні ў той час нацыянальна-незалежнай літоўска-беларускай дзяржавы было рэакцыйным лозунгам, бо яно азначала б утварэнне гэтай дзяржавы ў адрыве ад Расіі. А адарваць Беларусь і Літву ад Расіі азначала аддаць яе памешчыцкай Польшчы*»[18].

Паводле Івана Лушчыцкага, Каліноўскі быў прыхільнікам «федэралістычнай тэорыі» Аляксандра Герцана, які «*звязваў пытанне аб самавызначэнні Літвы, Беларусі і Украіны з пытаннем звяржэння царскага самаўладства. Да гэтага пытанне аб самавызначэнні ён рэкамендаваў пакінуць адкрытым*»[19].

З рукапісу юбілейнага артыкула быў таксама выкраслены абзац, у якім аўтар заўважыў, што Каліноўскі прызнаваў моцныя сувязі паміж Беларуссю і Польшчай: «*Каліноўскі прызнае, што факт знаходжання Літвы і Беларусі пад панаваннем памешчыцкай Польшчы на працягу больш двух стагоддзяў налажыў сваю пячатку. «Сетка, якая ахоплівае нас ва ўсіх класах, – пісаў Каліноўскі, – мае столькі падстаў у традыцыях і нават забабонах, што разблытаць яе, знішчыць і стварыць што-небудзь новае складае векавую сістэматычную разумовую працу». Пры гэтым Каліноўскі звяртае ўвагу на той факт, што царская палітыка каланізацыі ўскраін Расіі мімаволі ўзмацняе спачуванне Беларусі і Літвы да Польшчы*»[20].

---

[17] БДАМЛМ. Ф. 12, воп. 1, адз. з. 360. Арк. 61–62.

[18] Тамсама. Арк. 62.

[19] Лушчыцкі І. Выдатны рэвалюцыянер-дэмакрат (Да 120-годдзя з дня нараджэння К. Каліноўскага) // Літаратура і мастацтва. 1958, 22 студзеня. № 7. С. 2.

[20] БДАМЛМ. Ф. 12, воп. 1, адз. з. 360. Арк. 68.

У тымсамым нумары «Літаратуры і мастацтва» рэдакцыя газеты змясціла яшчэ адзін юбілейны артыкул літаратара Іллі Клаза[21]. Паводле аўтара, будынак прагімназіі ў Свіслачы, дзе вучыўся Каліноўскі, «*разбурылі фашысцкія захопнікі*». Таксама І. Клаз адзначаў, што «*рашаючым фактарам у фарміраванні палітычных поглядаў Каліноўскага з'явілася яго дружба з Сігізмундам Серакоўскім, другам Шаўчэнкі і Чарнышэўскага*»[22]. Яшчэ адной адметнасцю артыкула І. Клаза было сцвярджэнне, што яму ўдалося знайсці сваяка К. Каліноўскага па мужчынскай лініі, якім «*аказаўся 76-гадовы калгаснік вёскі Навозы Парыцкага раёна Франц Эмануілавіч Каліноўскі*»[23]. Гэты чалавек быў унукам роднага брата бацькі Каліноўскага Сымона. Паводле аўтара артыкула, у сям'і гэтага чалавека захоўвалася памяць пра Кастуся Каліноўскага.

У Маладэчанскай абласной газеце «Чырвоны сцяг» да юбілею быў надрукаваны артыкул Міколы Ермаловіча, у будучыні знакамітага гісторыка[24]. З артыкулам І. Лушчыцкага яго яднала выразнае развядзенне «польскага паўстання» і «беларуска-літоўскага сялянскага паўстання»: «*[…] Паслядоўная дэмакратычная пазіцыя [Каліноўскага] у кіраўніцтве паўстаннем выклікала незадаволенасць і прамую варожасць з боку кіраўнікоў польскага паўстання, якое таксама праходзіла ў гэты час […] Зразумела, чаму царскі ўрад быў больш занепакоены беларуска-літоўскім, чым польскім паўстаннем*»[25]. Аўтар артыкула назваў Каліноўскага «*вялікім нацыянальным героем*».

Узгадваючы азначэнне Аляксея Карпюка ў лісце да Цімафея Гарбунова, можна канстатаваць, што характарыстыка Кастуся Ка-

---

[21] Клаз І. Змагар за шчасце народа // Літаратура і мастацтва. 1958, 22 студзеня. № 7. С. 2–3.

[22] Тамсама.

[23] Тамсама. С. 3.

[24] Ермаловіч М. Кастусь Каліноўскі (Да 120-годдзя з дня нараджэння) // Чырвоны сцяг. 1958, 2 лютага. № 24. С. 4.

[25] Тамсама.

ліноўскага як «нацыянальнага героя» паступова ўваходзіла ў абыходжанне беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі.

У першым нумары часопіса «Полымя» за 1958 г. выйшаў артыкул маскоўскага гісторыка Анатоля Смірнова, прысвечаны адлюстраванню вобразу Кастуся Каліноўскага ў польскай гістарыяграфіі[26]. Аўтар таксама характарызаваў Каліноўскага як *«нацыянальнага героя Беларусі»*[27].

Большая частка артыкула Анатоля Смірнова была крытыкай згаданай манаграфіі Віктара Кардовіча. Ён не пагадзіўся з тэзісам даследчыка наконт «польскага паходжання» К. Каліноўскага і адзначыў, што род Каліноўскіх прынамсі з 1679 г. жыў на Гарадзеншчыне. Не спадабалася маскоўскаму аўтару таксама высокая ацэнка В. Кардовічам польскай грамадскай думкі і культуры, якія лічыліся ідэйнай асновай рэвалюцыйнага дэмакратызму Каліноўскага: *«В. Кардовіч аднабакова паказвае працэс развіцця рэвалюцыйнага дэмакратызму ў Беларусі і фармаванне светапогляду Каліноўскага, высоўваючы на першы план уплыў польскай культуры. Аўтар абышоў маўчаннем значэнне рускай рэвалюцыйнай дэмакратыі ў развіцці вызваленчага руху ў Беларусі і Літве […] Абвясціўшы Каліноўскага палякам, аўтар палічыў непатрэбным гаварыць пра ўплыў рускіх рэвалюцыянераў на рэвалюцыйныя колы Беларусі»*[28]. А. Смірноў сцвярджаў, што К. Каліноўскі ў перыяд паўстання вёў змаганне з варшаўскім паўстанцкім цэнтрам, таксама ён аспрэчыў аўтарства К. Каліноўскага *«Пісьма да мужыкоў зямлі Польскай»*, паколькі вядомыя яго асобнікі ўтрымлівалі выяву пячаткі Варшаўскага Нацыянальнага ўраду, а не Віленскага рэвалюцыйнага камітэту[29].

---

[26] Смірноў А. Гісторыкі народнай Польшчы пра Кастуся Каліноўскага // Полымя. 1958. № 1. С. 170–178.

[27] Тамсама. С. 172.

[28] Тамсама. С. 173–174.

[29] Тамсама. С. 178.

У тым самым 1958 г. выйшла з друку манаграфія Івана Лушчыцкага «Нарысы па гісторыі грамадска-палітычнай і філасофскай думкі ў Беларусі», у якой ён падрабязна спыніўся на поглядах Кастуся Каліноўскага[30]. Высновы і пастулаты юбілейнага артыкула цалкам увайшлі ў гэтую манаграфію.

У 1958 г. была створаная знакамітая карціна «Кастусь Каліноўскі» супольнага аўтарства мастакоў Адольфа Гугеля і Раісы Кудрэвіч[31]. Гэтая карціна, якая сёння знаходзіцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, з'яўляецца ў пэўным сэнсе эталонам у адлюстраванні вобразу К. Каліноўскага ў БССР паводле метаду «сацыялістычнага рэалізму». У ёй выразна прасочваюцца адначасова «расійскія», «савецкія» і «беларускія» канатацыі[32]. Расійскія канатацыі *«мае адзенне самога Каліноўскага – кашуля з паяском, чорны гальштук (асацыяцыя – народнікі, народніцтва). Гэта руская і адначасова савецкая канатацыя […] Да відавочна савецкіх канатацыяў адносіцца поза, у якой стаіць Каліноўскі. Гэта варыяцыя адной з прынятых у савецкай іканаграфіі выяваў Леніна, які выступае перад рабочымі і сялянамі […] Нарэшце, беларускія канатацыі звязаныя з увасобленым у куце карціны мяшком бульбы»*[33].

У лістападзе 1958 г. у Свіслачы быў урачыста ўсталяваны помнік К. Каліноўскаму аўтарства Заіра Азгура[34]. Газета «Літаратура і мастацтва» паведаміла: *«Днямі ў гарадскім парку райцэнтра Свіслач адбылося ўрачыстае адкрыццё помніка вядомаму беларускаму рэвалюцыянеру-дэмакрату, кіраўніку сялянскага паўстання 1863 г.*

[30] Лушчыцкі І. Нарысы па гісторыі грамадска-палітычнай і філасофскай думкі ў Беларусі ў другой палавіне XIX веку. Мінск, 1958. С. 229–242.

[31] Баршчова В. Нацыянальнае vs сацрэалістычнае: семіятычны аналіз карціны Адольфа Гугеля і Раісы Кудрэвіч «Кастусь Каліноўскі» // Мастацтва: практыка, тэорыя, гісторыя. 2013. № 3. С. 40–43.

[32] Тамсама. С. 41.

[33] Тамсама. С. 41–42.

[34] Кісялёў Г. З думай пра Беларусь. Мінск, 1966. С. 219.

*Кастусю Каліноўскаму. У парку сабраліся жыхары райцэнтра, калгаснікі бліжэйшых вёсак. Урачысты мітынг адкрыў намеснік старшыні гарадскога Савета дэпутатаў працоўных тав. Клаўсуц. Затым выступілі дырэктар школы імя Кастуся Каліноўскага тав. Куцяпалаў, старшыня калгаса «17 верасня» тав. Поўзікаў, вучаніца сярэдняй школы Тамара Сухоцкая. Яны гаварылі, што жыхары горада помняць свайго земляка.*

*Ападае пакрывала, перад позіркам прысутных на высокім пастаменце бюст Кастуся Каліноўскага»*[35].

Зважаючы на вышэйсказанае, можна зрабіць некаторыя высновы. Па-першае, 120-годдзе К. Каліноўскага у БССР было адзначана даволі маштабна. Ініцыятыва ў гэтай справе належала беларускай інтэлігенцыі, і атрымала пэўную падтрымку з боку партыйнага кіраўніцтва. Па-другое, падчас гэтага святкавання на першае месца выйшаў нацыянальны момант «праграмы Каліноўскага». Афіцыйная пазіцыя ідэолагаў БССР палягала ў тым, што Кастусь Каліноўскі *«быў прыхільнікам федэрацыі Беларусі з рэвалюцыйнай Расіяй»*.

Разам з гэтым, крытыка поглядаў пра тое, што К. Каліноўскі выступаў «за незалежнасць Беларуска-Літоўскай рэспублікі» здольная была папулярызаваць вобраз Каліноўскага як беларускага дзяржаўніка сярод тых, хто ўмеў чытаць паміж радкоў. Па-трэцяе, у ходзе святкавання назіраліся дзве тэндэнцыі: з аднаго боку – імкненне часткі беларускай гуманітарнай інтэлігенцыі ўмацаваць беларускую нацыянальную свядомасць, а з другога – спроба партыйнай наменклатуры выкарыстаць імя Каліноўскага для ўмацавання легітымнасці сваёй улады і савецкай тоеснасці беларусаў. Таксама трэба адзначыць, што ў друку БССР назіралася паліміка з поглядам на Каліноўскага польскага даследчыка В. Кардовіча, што спрыяла яшчэ большай яго «беларусізацыі».

[35] Помнік К. Каліноўскаму // Літаратура і мастацтва. 1958, 15 лістапада. № 91. С. 2.

# The 120th Anniversary of the Birth of Kastuś Kalinoŭski in the BSSR (1958)

*Andruś Unučak*
*Miensk*

In 1958, 120 years had passed since the birth of Kastuś Kalinoŭski on 2 February 1838. The anniversaries of Kalinoŭski's birth had been regularly commemorated in the BSSR since 1924, the year that marked the 60th anniversary of his death. Commemoration of anniversaries was an important factor in the formation of the image of Kalinoŭski; they served to popularise him, and also to stimulate further research into his life and the role he played in the Uprising of 1863–1864. Scholars, writers, painters, sculptors, and other intellectuals working in state institutions were all involved in the process.

1958 was the time of Khrushchev's 'thaw' in the Soviet Union; the BSSR was affected as well. It was a time when the Belarusian intelligentsia was granted tacit permission to talk about various figures from Belarusian history, to commemorate them and to broaden knowledge of them in society.

In 1957, at the Plenum of the Writers' Union of the BSSR, it was announced that the theatres were planning to stage *Kastuś Kalinoŭski* by Jeŭścihniej Mirovič to mark the 40th anniversary of the Great October Revolution. The timing was crucial: it opened the ideological way to celebrating Kalinoŭski's birthday in 1958. A programme of events commemorating Kalinoŭski was supported at the level of the Secretary of the Central Committee of the Communist Party of Belarus, Cimafiej Harbunoŭ, who signed the recommendation for the Hrodna Regional Party Committee to use the proposals outlined by the writer Aliaksiej Karpiuk a year earlier; they included naming the Hrodna Pedagogical Institute after Kalinoŭski and building a monument to him in the city.

In January 1958 the Hrodna Regional Party Committee and the local administrative authority decided to found a Kalinoŭski museum in the village of Śvislač. In the same year, a professor of the Belarusian State University published a monograph *Essays on the history of socio-political and philosophical thought in Belarus*, where he analysed Kalinoŭski's views. Adoĺf Huhieĺ and Raisa Kudrevič completed their collaborative painting 'Kastuś Kalinoŭski', and in November of that year a monument to Kalinoŭski was unveiled in Śvislač (sculptor – Zair Azgur).

Firstly, the 120th anniversary of Kalinoŭski's birth in 1958 was celebrated

on a considerable scale in the BSSR. The initiative came from the Belarusian intelligentsia, and it received some support from the party leadership. Secondly, the ideological line of the Belarusian Communist Party with regard to the evaluation of Kalinoŭski's social and political views and of the Uprising itself certainly remained focused on the social and class element of the events of 1863–64; the national element was not emphasized, although it was present in the official discourse. Thirdly, two tendencies could be observed during the celebration: on the one hand, the Belarusian intelligentsia wanted to strengthen Belarusian national consciousness, and on the other, the Soviet nomenclature attempted to use Kalinoŭski's name to reinforce the legitimacy of their power and the Soviet identity of Belarusians.

# ВОБРАЗ КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА Ў СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ГІСТАРЫЯГРАФІІ І КУЛЬТУРНАЙ ТРАДЫЦЫІ

*Анастасія Весялуха,*
*мгр. гіст. навук*
*(Менск)*

З атрыманнем Беларуссю незалежнасці пачаўся новы этап у нацыянальна-дзяржаўным будаўніцтве і асэнсаванні духоўных каштоўнасцяў беларускага народа. 1991 год унёс змены ў грамадска-палітычнае і духоўнае жыццё, спарадзіў новую культурную сітуацыю. Між іншым маладой дзяржаве спатрэбіўся пантэон нацыянальных герояў.

Паводле меркавання даследчыцы літаратуры Аксаны Дубовік, фігурай, якая б найбольш падыходзіла да вяршыні гэтага пантэона, многія лічылі рэвалюцыянера-дэмакрата, аднаго з кіраўнікоў паўстання 1863 г. у Беларусі і Літве Кастуся Каліноўскага. Адпаведна ўзрасла ўвага да яго асобы як сярод даследчыкаў, так і грамадскіх дзеячаў. Распачаліся гарачыя дыскусіі наконт яго месца і ролі ў беларускай гісторыі. Каліноўскі стаўся аб’ектам узмоцненай увагі мастакоў, пісьменнікаў і паэтаў, якія, працягваючы традыцыю, пераасэнсоўвалі яго вобраз у кантэксце патрыятычна-пачуццёвага ўспрымання. І хоць трактоўкі Каліноўскага сягалі ад «беларускага героя» ці барацьбіта за літвінскую ідэю да польскага «рэвалюцыянера-няўдачніка», але ўсё гэта садзейнічала актуалізацыі гэтай постаці, яе больш актыўнаму ўключэнню ў гістарычную памяць грамадства.

Ва ўсёй шматграннасці паўстае асоба Каліноўскага ў наш час. Яго дзейнасць даследуецца ў кантэксце фармавання белару-

скай нацыі, пераемнасці развіцця грамадска-палітычнай думкі Беларусі[1]. На сучасным этапе ў аснову навуковай дыскусіі вакол асобы кіраўніка паўстання пакладзеныя пытанні, якія датычаць яго палітычнай, рэлігійнай і нацыянальнай пазіцыі, а таксама нацыянальнай самаідэнтыфікацыі[2]. У беларускай гістарыяграфіі працягваецца спрэчка, сутнасць якой у тым, ці з'яўляецца Кастусь Каліноўскі беларускім нацыянальным героем, ці гэта «фальшывы маяк», святло якога паспрыяла б паланізацыі беларусаў. Даследчыкі разыходзяцца ў вызначэнні прыярытэтаў і матывацыі дзейнасці Каліноўскага, яго адносінаў да шляхты і сялянаў, ступені ўдзелу розных саслоўяў у паўстанні.

У пачатку 1990-х гг. услед за савецкай гістарыяграфічнай традыцыяй па інерцыі быў створаны вобраз чалавека, які з'яўляўся барацьбітом за сацыяльнае разняволенне сялянаў і знішчэнне прыгоннага ладу, за звяржэнне царызму і «нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне народаў Літвы і Беларусі»[3]. Прычым гэтае змаганне адбывалася ў межах польскага вызваленчага руху і на аснове ідэяў рускіх рэвалюцыянераў-дэмакратаў. Каліноўскі быў паказаны змагаром за пэўныя сацыяльныя і эканамічныя ідэалы, але пры гэтым быў чалавекам з неакрэсленай нацыянальнай прыналежнасцю, які фармуляваў свае патрабаванні на аснове інтарэсаў і патрэбаў працоўных[4]. Ён быў прадстаўлены дзеячам, які вёў прапаганду рэвалюцыйнай салідарнасці праз «Мужыцкую праўду» і быў права-

---

1 Іванчук Б. Месца К. Каліноўскага ў грамадска-палітычнай думцы Беларусі XIX ст. / Гістарычная навука і адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь. Мінск, 1994. С. 109.

2 Дубовік А. Асоба і дзейнасць К. Каліноўскага ў беларускай крытыцы (канец XX – пачатак XXI ст.) // Весці Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі. Серыя гуманітарных навук. 2006. № 4. С. 99.

3 Черепица В. Истоки: (очерки из истории русско-белорусско-польских революционных связей XIX – начала XX веков). Гродно, 1991. С. 22.

4 Гісторыя філасофіі. Пад рэд. Ч. С. Кірвеля. Гродна, 1997. С. 893.

дыром сялянскай дэмакратыі[5]. Так паўстаў вобраз Каліноўскага-рэвалюцыянера.

Прыхільнікі такой трактоўкі адзначалі прагрэсіўнасць і пазачасавасць яго ідэяў наконт аб'яднання польскага, рускага і беларускага народаў у барацьбе за зВяржэнне царызму і ўстанаўленне дэмакратычнага грамадства. Паразу Каліноўскага-палітыка яны звязвалі з саслоўна-ідэйнымі супярэчнасцямі, якія існавалі ўнутры кіраўнічых органаў паўстання і былі мацнейшымі за канцэпцыю Каліноўскага.

У 1990-я гг. шэраг гісторыкаў абвясціў рэвалюцыянера-дэмакрата беларускім нацыянальным героем[6], які ў сваёй дзейнасці спалучаў ідэі нацыянальнага і сацыяльнага вызвалення. Ідэя самастойнасці беларускага народа, як лічыў Міхась Біч, даволі поўна прасочваецца ў разважаннях Каліноўскага пра вольнасць, грамадскі парадак, у сфармуляваным ім прынцыпе «самарондства» на старонках «Мужыцкай праўды». Адсутнасць у творах лозунгаў аб ліквідацыі памешчыцкага землеўладання, барацьбы за дзяржаўную самастойнасць Літвы-Беларусі Міхась Біч тлумачыў складанасцю яго становішча, бо Каліноўскі залежаў ад варшаўскага паўстанцкага цэнтра і быў вымушаны падпарадкоўвацца яго задачам і стратэгіі барацьбы. Гісторык цытаваў малавядомы пратэст Каліноўскага, у якім гаварылася, што Літоўскі Правінцыйны Камітэт падпарадкоўваўся «галаве паўстання» толькі таму, што «па-першае, не жадаў пачынаць згубных для рэвалюцыі разладаў і нязгодаў і, па-другое, з-за таго, што не адчуваў сябе дастаткова моцным, каб вырваць кіраўніцтва справамі з рук сваіх праціўнікаў»[7].

Абапіраючыся на тэксты «Мужыцкай праўды», «Лістоў з-пад шыбеніцы», даследчыкі даказвалі, што Каліноўскі сфармуляваў праграму барацьбы за палітычнае і духоўнае разняволенне бела-

---

5 Черепица В. Истоки... С. 20.

6 Арлоў У. Кастусь Каліноўскі // Памяць: гісторыка-дакументальная хроніка Бераставіцкага раёна. Мінск, 1999. С. 85.

7 Цытата паводле: Дубовік А. Асоба і дзейнасць К. Каліноўскага... С. 100.

рускага народа, пабудовы суверэннай дэмакратычнай Беларусі на аснове канстытуцыйнага і парламенцкага досведу дэмакратычных краінаў[8]. Гісторыкі паспрабавалі разгледзець асобу і дзейнасць кіраўніка паўстання ўсебакова, звесці ў адно яго канцэпцыю дзяржаўнасці і нацыянальную ідэю з праграмай сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў[9]. Яны былі перакананыя, што Каліноўскі адным з першых прычыніўся да афармлення беларускай нацыянальнай ідэі, якую развіў грамадска-палітычны рух пачатку XX ст. Гэтая ідэя была сфармуляваная ў яго апошнім звароце да беларускага народу: «Горка пакінуць зямельку родную і цябе, дарагі мой народзе. Грудзі застогнуць, забаліць сэрца, але не жаль згінуць за тваю праўду. Прымі, народзе, шчырасці слова маё перадсмертнае… Ваюй, народзе, за сваё чалавечае і народнае права, за сваю веру, за зямлю сваю родную»[10].

Навукоўцы, хоць у некаторай ступені і лічылі рэвалюцыянера-дэмакрата ўтапістам, бо створаны ім ідэал грамадска-эканамічнага ладу не мог быць рэалізаваны ў тагачасных умовах, але бачылі ў ім прыклад патрыятызму і гераізму, на якім варта выхоўваць маладое пакаленне беларусаў.

Даследчыкі звярнулі асаблівую ўвагу на тое, што рэвалюцыйнасць Каліноўскага заключалася не толькі ў сродках дасягнення сваіх мэтаў (сялянская рэвалюцыя), але і ў самой сутнасці мяркуемых пераўтварэнняў (дэмакратычная рэспубліка, грамадства з роўнасцю правоў і саслоўяў, сістэма народнай адукацыі на роднай беларускай мове з роўнымі магчымасцямі для мужчынаў і жанчын)[11].

---

[8] Шалькевіч В. Апостал свабоды і незалежнасці: К. Каліноўскі – рэвалюцыянер-дэмакрат і грамадска-палітычны дзеяч Беларусі // Беларуская мінуўшчына. 1993. № 1. С. 30.

[9] Біч М. «…і думаў аб самастойнасці Літвы» // Беларуская мінуўшчына. 1997. № 5. С. 37.

[10] Цытата паводле: Смехович Н. Национальная идея белорусов в XX в. (историографический анализ проблемы) // Беларускі гістарычны часопіс. 1998. № 3. С. 24.

[11] Шалькевіч В. Апостал свабоды і незалежнасці... С. 32.

Гісторыкі таксама прыйшлі да высновы, што Каліноўскі з'яўляўся талерантным палітыкам, бо ў суседніх (рускім і польскім) народах ён бачыў не ворагаў, а саюзнікаў у ажыццяўленні сваіх планаў і ідэй: «Змагаючыся за суверэнную і незалежную Беларусь, беларускі мысліцель настойліва прапагандаваў ідэю дружбы народаў, падзяляў ідэю Аляксандра Герцэна аб стварэнні ў будучым федэрацыі свабодных славянскіх народаў, пасля таго, як яны заваююць дзяржаўную незалежнасць»[12].

Вобраз нацыянальнага героя, патрыёта і змагара за свабоду Беларусі гісторыкі змаглі «ачалавечыць» шляхам вывучэння яго асабістага жыцця, а менавіта ўзаемаадносінаў з яго нарачонай Марыяй Ямант. Галоўнай крыніцай для раскрыцця гэтай старонкі яго біяграфіі сталі ўспаміны яе сястры Людвікі Звяждоўскай. Сцвярджалася, што маладых людзей аб'ядноўвалі не толькі пачуцці, але і ідэалы нацыянальна-вызваленчай барацьбы, мара пра народнае шчасце, дзеля здзяйснення якіх яны былі гатовыя ахвяраваць жыццё[13].

Даследчыкі былі перакананыя, што Кастусь Каліноўскі быў харызматычным лідарам з яркай індывідуальнасцю, непаўторнымі рысамі, рознабаковай таленавітасцю, высокімі чалавечымі якасцямі[14]. У. Арлоў сцвярджаў, што «на следстве і судзе ён трымаўся надзвычай мужна. Калі яму прапанавалі аблегчыць свой лёс, назваўшы некаторыя адрасы і імёны таварышаў, Каліноўскі адказаў, што шпіёнства апаганьвае чалавека»[15].

Аднак у беларускай гістарыяграфіі 1990-х гг. развіваўся і іншы погляд на асобу, дзейнасць і гістарычную ролю Кастуся Каліноўскага. Прыхільнікі гэтага падыходу пераконвалі, што ён не меў ніякага дачынення да ўсяго таго беларускага, што яму прыпісваюць, бо

---

[12] Тамсама. С. 33.

[13] Сыны і пасынкі Беларусі / Уклад. С. Барыс. Мінск, 1996. С. 165; Шалькевіч В. «Марыська чарнаброва, галубка мая…» [невядомыя старонкі з жыцця Кастуся Каліноўскага] // Роднае слова. 1994. № 4. С. 71.

[14] Каліноўскі К. За нашую вольнасць. Творы, дакументы . Мінск, 1999. С. 11.

[15] Арлоў У. Кастусь Каліноўскі // Памяць... С. 84.

стаяў на пазіцыях адраджэння польскай дзяржаўнасці, а беларуская нацыянальная ідэя не была яшчэ сфармуляваная ў той перыяд. Пры гэтым таксама звярталіся да «Мужыцкай праўды», «Пісьма Яські-гаспадара з-пад Вільні да мужыкоў зямлі польскай» і ўспамінаў сучаснікаў[16].

Яны сцвярджалі, што ў «Мужыцкай праўдзе» не згадвалася ідэя незалежнасці Беларусі, асуджалі кіраўніка паўстання за скажэнне мінулага на падставе аналізу ягонай канцэпцыі ўзнікнення паншчыны. Яго абвінавачвалі ў «сярэдневяковым цемрашальстве» і «абмежаванасці кругагляду» адносна праваслаўя, у агрэсіі і пагардзе да пануючай веры. Сцвярджалі, што ў рэлігійных пытаннях ён не пераконваў і не тлумачыў, а навязваў сваю пазіцыю[17].

Даследаванне жыцця і дзейнасці Кастуся Каліноўскага працягнулася ў XXI ст. У гэты час з'явіўся шэраг артыкулаў, у якіх змешчаныя біяграфічныя звесткі, дадзеныя ацэнкі яго дзейнасці ў цэлым і яе асобных аспектаў.

Новы віток цікавасці да яго постаці і новая хваля дыскусій былі выкліканыя 150-годдзем паўстання. Дасягнуць адзінства або хоць узгодненасці ў поглядах не атрымліваецца. Гісторыкі ўсведамляюць, што зразумець матывы ўчынкаў Каліноўскага і разгадаць пэўную загадку яго асобы складана. Ён у нечым быў «тыповым чалавекам» сваёй эпохі, такім, як усе, у нечым быў такім, як некаторыя, а ў нечым – не падобным ні да каго.

Некаторыя гісторыкі характарызавалі Каліноўскага як «аднаго з самых любімых нацыянальных герояў» беларусаў, які не ідэалізаваў мінулае Беларусі, калі яна ўваходзіла ў склад Рэчы Паспалітай, наадварот, яго дзейнасць і светапогляд былі накіраваныя ў будучыню[18]. Каліноўскі выступаў як лідар рады-

---

[16] Казбярук У. Загадка Каліноўскага // Беларуская мінуўшчына. 1997. № 5. С. 32–36.

[17] Дубовік А. Асоба і дзейнасць К. Каліноўскага... С. 99.

[18] Ягорычаў У. Кастусь Каліноўскі – кіраўнік паўстання 1863–1864 гг. // Старонкі гісторыі Свіслацкага краю: Матэрыялы навук.-практ. канф. Гродна, 2001. С. 139.

кальнай, рэвалюцыйна-дэмакратычнай плыні сярод «чырвоных», які ва ўмовах паўстання вымушаны быў пайсці на супрацоўніцтва з шляхецкімі рэвалюцыянерамі, дзейнічаць ад імя польскага нацыянальнага ўрада[19]. Але пры гэтым ён энергічна выступіў супраць планаў далучэння Беларусі і Літвы да Польшчы на правах ваяводстваў[20].

Адзначалася прагрэсіўнасць і смеласць яго ідэяў, непрыманне «буржуазна-памешчыцкай сістэмы» як характэрная рыса светапогляду[21]. Сцвярджалася, што сацыяльна-канкрэтны змест паняццяў «свабоды і праўды для народа», «справядлівасці», сфармуляваных Каліноўскім, стаўся першай формай выражэння ідэальнага пачатку ў рэвалюцыйна-дэмакратычнай думцы Беларусі[22].

Таксама Каліноўскі быў прадстаўлены як агітатар і прапагандыст[23], мысліцель, што сфармуляваў ідэалы дзяржаўнага і грамадскага ўладкавання[24], як крытык тагачаснай педагогікі, што стаяў на пазіцыях усегульнага навучання і стварэння аднолькавых адукацыйных умоваў для жанчын і мужчынаў[25], як прыхільнік сялянскага абшчыннага сацыялізму[26], тактык і стратэг нацыянальна-вы-

---

[19] Біч М. Паўстанне 1863–1864 гг. Кастусь Каліноўскі // Гістарычны альманах. 2002. Т. 6. С. 29.

[20] Конан У. Пачатак нацыянальнага сінтэзу: Кастусь Каліноўскі, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Францішак Багушэвіч // Гісторыя эстэтычнай думкі Беларусі. У 3 т. Мінск, 2010. Т. 1. С. 360.

[21] Свиб А. Калиновский о государственно-правовом переустройстве Беларуси // Государственно-правовой статус Беларуси в составе России в пореформенный период (1861–1900). Минск, 2004. С. 93.

[22] Мяснікоў А. І ўсё ж ён герой // Беларуская думка. 2008. № 11. С. 109.

[23] Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Слонімскага раёна. Мінск, 2004. С. 115–116.

[24] Славутыя імёны Бацькаўшчыны: зборнік. Уклад. У. Гілепа і інш. Вып. 2. Мінск, 2003. С. 207–217.

[25] Іванчук Б. Кастусь Каліноўкі і беларуская культура // Старонкі гісторыі Свіслацкага краю: Матэрыялы навук.-практ. канф. Гродна, 2001. С. 150.

[26] Авакян Г. Палітычныя мысліцелі і гуманісты Беларусі. Мінск, 2002. С. 75.

зваленчага руху, што дзеля дасягнення агульных мэтаў імкнуўся аб'яднаць антаганістычныя класы сялянства і шляхты[27].

Прадстаўнікі іншай гістарыяграфічнай плыні лічаць міфалагізацыяй трактоўку Кастуся Каліноўскага як беларускага нацыянальнага героя і ў сваіх даследаваннях імкнуцца да яго «дэканструкцыі». Так, мінскі гісторык Аляксандр Гронскі, артыкул якога выклікаў вострую негатыўную рэакцыю большасці беларускіх даследчыкаў, прытрымліваецца думкі аб яго польскім паходжанні і патрыятызме. А. Гронскі сцвярджае, што Каліноўскі не меў дачынення да беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, падтрымліваў сувязі з Варшавай і ўсю асабістую перапіску вёў на польскай мове, а да адміністрацыі звяртаўся на рускай. На яго думку, беларускамоўная спадчына Кастуся Каліноўскага не такая багатая, каб можна было яго залічыць да нацыянальных дзеячаў[28].

Ідэя «дэканструкцыі» беларускага героя Каліноўскага, прапанаваная прыхільнікамі «неазаходнерусізму», выклікала шырокі рэзананс у інтэлектуальных колах Беларусі. У друку з'явіліся артыкулы, у якіх была зробленая спроба адказаць на пытанне, каму сёння выгодна прапагандаваць такі падыход да трактоўкі асобы кіраўніка паўстання.

У прыватнасці, вядомы даследчык Ігар Запрудскі выказаў думку, што «антыгерой Каліноўскі» з'явіўся ў супрацьвагу тым, хто ўспрымаў яго сваім канцэптуальным лідарам. Адначасна адбылася рэанімацыя ідэяў беларускага савецкага гісторыка Самуіла Агурскага, які намагаўся даказаць, што рэвалюцыйны

---

[27] Явароўскі В. Ідэалогія вызваленчага руху: «Мужыцкая праўда» // Паўстанне 1863 г. на Беларусі і Кастусь Каліноўскі. Матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі (Мінск, 23 сакавіка 2013 г.). Рыга, 2013. С. 145–162.

[28] Гронский А. Кастусь Калиновский: конструирование героя // Белорусская думка. 2008. № 2. С. 82–87.

рух у Беларусі распачаўся толькі ў 1897 г. заснаваннем БУНДа. За скажэннем ролі Кастуся Каліноўскага ў гісторыі Беларусі І. Запрудскі прасачыў разбуральную і добра адпрацаваную методыку знішчэння культурнай спадчыны народу, якая з'яўляецца асновай яго існавання[29].

У публіцыстыцы сустракаюцца самыя разнастайныя характарыстыкі асобы Кастуся Каліноўскага: сапраўдны апостал дэмакратычна-патрыятычных перакананняў, дыктатар Літвы, рэвалюцыянер і хлапаман, лідар беларускага нацыянальна-вызваленчага руху XIX ст., беларускі рэвалюцыянер-дэмакрат, стваральнік беларускай нацыянальнай ідэі, сепаратыст, заснавальнік беларускай перыёдыкі, амбіцыйны фанатык, нацыянальны рэвалюцыянер, герой паўстання, польскі авантурыст, беларускі тэрарыст, «апошні кароль Літвы», «мужыцкі кароль Белай Русі», «рыцар без страху і папроку» і г. д. Так ці інакш, усе яны сведчаць аб высокай ацэнцы ролі Кастуся Каліноўскага ў гісторыі Беларусі.

Да вобразу Каліноўскага беларускія пісьменнікі і паэты розных часоў звярталіся даволі часта. Сфармавалася вялікая анталогія прысвечаных яму празаічных, вершаваных і драматычных твораў. Зразумела, што яго мастацкі вобраз шмат у чым залежаў ад характару эпохі, у якую быў створаны той ці іншы літаратурны твор[30].

Памяці Каліноўскага ў 1990-я гг. прысвяцілі свае вершы Юрась

---

[29] Запрудскі І. Зшальмаваны Кастусь Каліноўскі (тэхналогіі астракізму) // Паўстанне 1863 г. на Беларусі і Кастусь Каліноўскі. Матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі (Мінск, 23 сакавіка 2013 г.). Рыга, 2013. С. 191–192.

[30] Жарская Н. Вобраз Кастуся Каліноўскага ў мастацкай літаратуры // Кастусь Каліноўскі і яго эпоха ў дакументах і культурнай традыцыі. Матэрыялы VII міжнароднай навуковай канферэнцыі Беларускага Гістарычнага Таварыства (Менск, 25 верасня 2009 г.). Менск, 2011. С. 182.

Пацюпа («Маналог паўстанца»), Ніл Гілевіч («Папярэджанне»), Іван Рубін («1863», «Набытак»), Алесь Чобат («1863», «Час касінераў»), Сяржук Сокалаў-Воюш («Маналёг Кастуся Каліноўскага»)[31], Апанас Цыхун («Песня пра Кастуся Каліноўскага») ды інш.

Так, Ніл Гілевіч бачыў Кастуся Каліноўскага ідэалам справядлівасці, чалавечай годнасці, патрыятызму і сумлення: «Толькі ў вочы пасвеціць: // На каго вы падобны – зірне»[32] (1993). Для паэта ён «сцень»: «дзіўны волатны сцень // нам адкрыўся на ўзгорку[33]. Дарэчы, сцень, паводле традыцыйных уяўленняў, свайго роду двайнік усякай цялеснай існасці, які можа ад яе аддзяляцца, саступаць сваё месца іншай падобнага роду існасці, можа быць скрадзеным злымі чараўнікамі або страчаным у выніку кантактаў з нячыстай сілай. Ніл Гілевіч тым самым сцвярджаў, што праўдзівы вобраз Каліноўскага замоўчвалі, але ён усё ж такі стане сапраўдным нацыянальнам лідарам для беларусаў.

Напачатку XXI ст. працягваецца традыцыя прысвячэння паэтычных твораў мужнаму паўстанцу. Язэп Палубятка ў вершы «Кастусю Каліноўскаму» трактаваў свайго героя як альтруістычную, справядлівую, пачуццёвую асобу, змагара і бунтара: «Гарачае сэрца бунту жадала, // Волі хацела для роднага краю»[34].

Сякера як асноўная зброя паўстанцаў для здабыцця волі, як зброя, якая «бароніць для волі шлях // ад хмызняку, ад знячэўя // ад тупагалоўя // ад злога карчэўя»[35], як сімвал разбуральнасці/

---

[31] Тамсама. С. 189.

[32] Гілевіч Н. Папярэджанне [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://arkushy.narod.ru/kalinouski/exegit/literature/papiar.htm. Дата доступу: 8.11.2012.

[33] Гілевіч Н. Сцень // Тварам да шыбеніцы: Кастусь Каліноўскі і Паўстанне 1863–1864 гадоў у беларускай паэзіі: Анталогія. Уклад. Я. Янушкевіч. Ракаў, 2013. С. 61.

[34] Палубятка Я. Кастусю Каліноўскаму // Газета Слонімская. 2004. 16 чэрвеня.

[35] Барадулін Р. Каса і сякера // Тварам да шыбеніцы... С. 53.

рэвалюцыйнасці/радыкалізму, як дзейсны сродак абуджэння прадстаўленая ў вершы «Каса і сякера» Рыгора Барадуліна. Кастусь Каліноўскі не з'яўляецца цэнтральнай фігурай дадзенага твора, а згаданы толькі ў канцы пад сваім псеўданімам «Яська-гаспадар з-пад Вільні», якога «разняволеныя абсягі // слухаюць пільна». Такі прыём выкарыстаны, каб паказаць кіраўніка паўстання як умелага прамоўцу і ідэйнага лідара, асноўнай мэтай якога было абуджэнне народу да барацьбы за сваю сацыяльную і нацыянальную волю.

Школьнікам Кастусь Каліноўскі ўяўляецца славутым змагаром за народнае шчасце, барацьбітом за вольнасць сялянаў і сацыяльнае раўнапраўе. Для моладзі відавочны яго подзвіг, што пацвярджаюць вынікі конкурсу, праведзенага Свіслацкім раённым аддзелам адукацыі ў 2003 г.[36]

Гістарычная памяць народу пра Кастуся Каліноўскага фармуецца пад уздзеяннем гістарычных даследаванняў і палітыкі ў галіне гістарычнай памяці. Мемарыялізацыя яго асобы, распачатая ў XX ст., была спыненая ў пачатку XXI ст. у сувязі з асаблівасцямі афіцыйнай беларускай ідэалогіі. Тым не менш, вобраз Каліноўскага захоўваецца і папулярызуецца праз правядзенне выставаў, гульняў і вандровак, праз рэчы штодзённага карыстання і гарадскі ландшафт. Кіраўнік паўстання ўспрымаецца большай часткай насельніцтва як нацыянальны герой, хоць таксама праяўляюцца ўплывы супрацьлеглай гістарычнай канцэпцыі. Разам з успрыманнем Каліноўскага як нацыянальна-культурнага дзеяча існуе меркаванне аб яго разбуральнай ролі ў гісторыі Беларусі.

Можна казаць аб неадназначнасці палітыкі захавання гістарычнай памяці, якая грунтуецца на ідэалагемах, часта далёкіх ад навуковага даследавання мінулага Беларусі.

---

[36] Пархимович О. Память жива. Свіслацкая газета. 2003. 16 снежня.

# The Image of Kastuś Kalinoŭski in Modern Belarusian Historiography and Cultural Traditions in the Period since Independence

*Anastasija Vesialucha*
*Miensk*

This article looks at various interpretations of the image of Kalinoŭski in modern Belarusian historiography and cultural traditions in the period 1991–2012.

Kalinoŭski is a popular person in modern Belarusian historiography but there are no academic works that deal especially with him. He has become a victim of «Belarusian postmodernism», which finds its expression in the coexistence of two mutually exclusive opinions about his place and role in the country's history. Historians who uphold the national Belarusian historical concept declare Kalinoŭski a national hero. Supporters of a modernized «Western Rus» ideology see in him a russophobic Polish chauvinist, and categorically deny him that title.

Literary specialists not embroiled in the historians' debate about Kalinoŭski's role in the history of Belarus, have nevertheless come together around the idea of him as hero. The works of poets and bard-singers demonstrate a similar trend, portraying him as the conscience of the nation.

The period under review also witnessed an upsurge of journalistic articles, seeking to sway public opinion in one way or another. In these articles we find special stress laid on both the determination exhibited by Kalinoŭski in his actions and the emotional side of his character.

The heroic image has been promoted, particularly among young people, by means of exhibitions, hiking tours of the region where he fought his battles, even a card game involving the historical figures of his time.

The presentation of Kalinoŭski in Belarus since the declaration of independence provides ample evidence of the chasm dividing different interpretations of the country's history.

# КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ Ў БЕЛАРУСКІМ ПАНТЭОНЕ

*Аляксандр Краўцэвіч,*
*докт. гіст. навук*
*(Гародня)*

Хоць асоба Кастуся Каліноўскага сёння несумненна прысутная ў масавай свядомасці беларусаў, яна не мае агульнапрызнанага месца ў нацыянальным пантэоне. Кіраўнік антырасійскага паўстання 1863–1864 г. ва ўмовах выразнага падзелу беларускага грамадства або змяшчаецца на самых першых месцах галерэі беларускіх герояў, або ўвогуле з яе выдаляецца прадстаўнікамі процілеглага лагеру. Надалей застаецца актуальнай «неакцэнтаваная» прысутнасць постаці Каліноўскага ў афіцыйным беларускім дыскурсе.

У шэрагах функцыянераў рэжыму маюцца адэпты курсу на далучэнне да Расіі, якія прыкладаюць немалыя намаганні дзеля маральнага прыніжэння асобы Каліноўскага і доказу ягонай небеларускасці. Адначасова рэжым, які экспануе і эксплуатуе сваю эвалюцыйную повязь з савецкім мінулым, не ўжывае наўпрост адміністрацыйныя метады змагання з памяццю пра Каліноўскага, паколькі яна таксама з'яўляецца часткай савецкага мінулага. На сённяшні дзень у 27 гарадах і гарадскіх пасёлках Беларусі ад савецкіх часоў існуюць вуліцы імя Каліноўскага[1].

Пра адсутнасць адзінага падыходу да ацэнкі постаці Каліноўскага сярод людзей, якія знаходзяцца пры ўладзе, сведчаць афіцыйныя, хоць і не галосныя мерапрыемствы 2013 г. па адзначэнні 150-й гадавіны паўстання. З другога боку, у патрыятычным лагеры

[1] Сацукевіч І. Мемарыялізацыя Кастуся Каліноўскага ва ўрбаніміцы Беларусі // Кастусь Каліноўскі і яго эпоха ў дакументах і культурнай традыцыі. Пад рэд. А. Ф. Смаленчука. Мінск, 2011. С. 180.

чуваць асобныя галасы супраць гераізацыі асобы Каліноўскага, менавіта ад беларусаў з польскага Падляшша.

У савецкай Беларусі Кастусь Каліноўскі быў дапушчаны камуністычнымі ідэолагамі ў шэраг нацыянальных герояў цалкам выпадкова, паводле фармальнага класавага крытэру, бо змагаўся супраць царызму і выступаў абаронцам беларускага сялянства. Узнікненне міту Каліноўскага ў савецкія часы было абумоўлена ідэалагемай змагання з самадзяржаўем, якая стала складовай ідэалагічнай праграмы расійскіх камуністаў. Парадокс у тым, што, адбудоўваючы Расійскую імперыю, бальшавікі адкідвалі яе галоўнага будаўніка – царызм. Звяржэнне самадзяржаўя стала іх інструментам да здабыцця ўлады. Таму ў савецкай мадыфікацыі Расійскай імперыі дазвалялася міталягізацыя гістарычных асобаў, бунтаваўшых супраць улады, такіх, як Разін, Пугачоў, дзекабрысты, а ў нашым выпадку, Кастусь Каліноўскі.

І хоць агулам асобе Каліноўскага ў савецкія часы адводзілася сціплае месца (помнікі не ставіліся, вуліцы ягонага імя ў гарадах знаходзяцца воддаль ад цэнтраў), «ідэалагічны дазвол» напоўніцу выкарыстала патрыятычна настроеная беларуская інтэлігенцыя. Мастакі стварылі вялікую серыю ягоных партрэтаў, вобразаў іншых змагароў і падзеяў паўстання 1863 г. Актыўна папулярызавалі асобу Каліноўскага літаратары. Вяршыняй гераізацыі стала эпапея Уладзімера Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім».

Зразумела, ва ўмовах Савецкага Саюзу акцэнтацыя антырасійскай пазіцыі Каліноўскага была немагчымай. Гісторыкі, літаратары звярталі ўвагу найперш на сацыяльна-рэвалюцыйны аспект дзейнасці Каліноўскага. Нават узгадка пра нейкія негатыўныя дзеянні ці выказванні ў бок расійцаў не дапускалася. Пра «братні народ» можна было пісаць толькі станоўча. Успомнім, напрыклад, творы Уладзімера Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім», «Паром на бурнай рацэ», «Зброя». Там абавязкова прысутнічалі станоўчыя героі – расійцы, якія спачувалі або дапамагалі паўстанцам.

Нацыянальны міт Каліноўскага стаў адным з нямногіх, перанятых з савецкай спадчыны ў незалежнай Беларусі, бо быў некан-

фліктны з беларускай нацыянальнай ідэалогіяй. Наадварот, ён арганічна ўкладаўся ў яе кантэкст.

У 1995 г. (у першыя месяцы кіравання А. Лукашэнкі) быў зацверджаны Ордэн Кастуся Каліноўскага як узнагарода за заслугі ў галіне дзяржаўна-нацыянальнага Адраджэння, а таксама за абарону чалавечай годнасці і правоў грамадзянаў Беларусі. Аднак у 1999 г. гэты ордэн знік са спісу дзяржаўных узнагародаў, і ніводная асоба ім узнагароджаная не была.

Антыкаліноўская прапаганда ўзмацнілася пасля падзеяў 2006 г., калі Цэнтральную (Кастрычніцкую) плошчу ў Менску пратэстоўцы ў намётавым гарадку перайменавалі ў плошчу Каліноўскага. Менавіта тады выразна акрэслілася месца гэтай гістарычнай асобы ў сучасным беларускім грамадстве. Ён апынуўся ў нацыянальна-беларускім патрыятычным лагеры.

У змаганні з памяццю пра Каліноўскага рэжым выкарыстоўвае не толькі афіцыёзных гісторыкаў-прапагандыстаў, але і сістэму адукацыі. У 2008 г. пад рэдакцыяй Я. Трашчанка быў выдадзены падручнік па гісторыі Беларусі для беларускамоўных школаў. У ім ёсць падраздзел: «Гістарыяграфічны міт пра Вікенція Кастуся Каліноўскага», дзе робіцца выснова, што «аніякіх аб’ектыўных падставаў для ператварэньня Кастуся Каліноўскага ў нацыянальнага героя беларускага народу не існуе». Літаральна на той самай старонцы паведамляецца, што «славуты генерал Міхаіл Мураўёў» быў не толькі вешальнікам, але і «таленавітым адміністратарам і арганізатарам»[2]. Такім чынам, вучні павінны засвоіць наступнае: наш герой – не Каліноўскі, а Мураўёў.

Традыцыю ўшанавання памяці Кастуся Каліноўскага працягвае патрыятычна настроеная частка беларускага грамадства. Незалеж-

---

[2] Трашчанок Я. І. Гісторыя Беларусі са старажытных часоў да кастрычніка 1917 года: вучэб. дапам. для 10 кл. агульнаадукац. устаноў з белар. мовай навучання / Я. І. Трашчанок, А. А. Вараб’ёў, В. В. Валжанкоў; пад рэд. Я. І. Трашчанка; пер. В. М. Варановіч, Л. В. Саламаха, Т. К. Слаута. Мінск: Адукацыя і выхаванне, 2008.

ныя журналісты і літаратары, мастакі і скульптары прысвячаюць яму шматлікія творы. Гісторыкі праводзяць даследчую працу ў архівах і арганізоўваюць навуковыя канферэнцыі[3]. Выявілася надзвычай багатая архіўная спадчына з часоў паўстання 1863 г. і самой асобы Каліноўскага. Між іншым, праз прыватнае ліставанне даследчыкі высветлілі, што яго ў сям'і называлі менавіта Кастусём, а не Вікенціем[4].

Дысанансам сярод адзінагалоснага хору з патрыятычнага лагеру гучаць выказванні беларуса з Падляшша прафесара Алега Латышонка, які выступае супраць гераізацыі асобы Каліноўскага. Яму належаць сцверджанні: «Мужыцкая праўда», хоць і выдавалася на беларускай мове, паводле духу была чыста польская»; «Каліноўскі-публіцыст быў ідэолагам рэлігійнае хатняе вайны ў Беларусі, і менавіта гэта дыскрэдытуе яго як нацыянальнага беларускага ідэолага»[5].

Каб давесці шкоднасць паўстання 1863 г. для Беларусі (а тым самым і негатыўную ацэнку дзейнасці К. Каліноўскага) А. Латышонак сцвярджае, што з-за паўстання беларуская мова была выдаленая з народных школаў[6]. Аднак гэты аргумент выглядае надуманым. Гісторыкі не маюць аніводнага факту, які б даказваў прысутнасць беларускай мовы ў царскіх школах.

Сапраўднай прычынай негатыўнага стаўлення А. Латышонка ды некаторых іншых падляшскіх беларусаў да асобы Каліноўскага і самога паўстання бачыцца крытычнае выказванне пра праваслаўную царкву: «Асноўным грэхам Каліноўскага было тое, што ён не пераносіў праваслаўе»[7]. Для падляшскіх беларусаў

---

[3] Найбольш грунтоўная з іх адбылася 25 верасня 2009 г. у Менску. Быў выдадзены зборнік «Кастусь Каліноўскі і яго эпоха ў дакументах і культурнай традыцыі» пад рэд. А. Ф. Смаленчука. Менск, 2011.

[4] Смалянчук А. Асоба Кастуся Каліноўскага як даследчая праблема // Кастусь Каліноўскі і яго эпоха ў дакументах і культурнай традыцыі. С. 17.

[5] Латышонак А. Нацыянальнасць – Беларус. Б. м., 2009. С. 386, 403.

[6] Тамсама. С. 424–425.

[7] Тамсама. С. 441.

праваслаўная вера – відавочны індыкатар, які адрознівае іх ад каталікоў-палякаў, хоць польская праваслаўная царква выступае як чыннік паланізацыі. Сёння ў яе ўлонні «праваслаўных палякаў» у дзесяткі разоў больш, чым беларусаў.

Асоба Кастуся Каліноўскага надзвычай прыдатная для размяшчэння яе на самай вяршыні беларускага пантэону. Па-першае, ягонае змаганне актуальнае і сёння. Па-другое, сама асоба Каліноўскага выдатна надаецца для гераізацыі – мужны змагар за ідэалы, вернасць якім захаваў нават перад тварам смерці. Па-трэцяе, багатая дакументальная спадчына дае магчымасць «ажывіць» нашага героя. Гісторыкі пастаянна будуць адкрываць і нагалошваць нейкія новыя факты з яго асабістага жыцця і ягонага змагання. Каліноўскі бачыцца як рэдкі ў гісторыі тып героя, рамантычны і гераізаваны вобраз якога набліжаны да рэальнасці. Нават знешнасць Каліноўскага выдатна пасуе да гераізацыі – зграбны малады мужчына, з прыгожым, мужным і адначасна інтэлігентным тварам. Таму так любяць яго маляваць беларускія мастакі.

У нас мала герояў з XIX ст. – амаль скрозь польскамоўныя ці рускамоўныя фалькларысты, этнографы, літаратары. Дзейнасць К. Каліноўскага, асабліва ягоныя творы на беларускай мове – сведчанне пачатку пераходу беларускага нацыянальнага руху ад першай фазы развіцця (вывучэнне мовы, культуры, гісторыі) да фазы нацыянальнай агітацыі[8]. Кастусь Каліноўскі свядома ці не цалкам асэнсавана стаўся першым нацыянальным агітатарам. Чэхі, якія прайшлі падобны шлях, прыдумалі для абазначэння такіх людзей спецыяльны тэрмін – «будзіцель». Яно ў поўнай меры прыдатнае да асобы Каліноўскага.

З часам Каліноўскі, несумненна, увойдзе ў самы ганаровы шэраг нацыянальных герояў. Будзе праведзеная міталагізацыя ягонай асобы на дзяржаўным узроўні. Да гэтага актыўна спрычыняцца гісторыкі, бо час Каліноўскага добра забяспечаны пісьмовымі

---

[8] Hroch Miroslav. Małe narody Europy. Wrocław-Warszawa-Kraków, 2003. S. 9.

